# ЗЬМЕСТ

# Прадмова

Мы вывучаем санскрыт перадусім таму, што гэта мова ведавай традыцыі і культуры. За выняткам навуковых рэканструкцый, гэта самая старажытная, і прыгэтым жывая інда-эўрапейская мова. Арыгінальныя санскрыцкія тэксты даюць нам уяўленьне пра тое, якімі былі сьветагляд і сьвядомасьць традыцыйнага чалавека.

Неад’емнаю часткай старажытнаіндыйскай культуры зьяўляецца традыцыйная навука пра мову – вйākараṇа. Гэта адразу практычная дысцыпліна (*śāstra*), навука (*vidyā*) і філязофская тэорыя (*darśana*). Найбольш аўтарытэтным тэкстам вйākараṇы зьяўляецца твор граматыста Пāṇіні *Aṣṭādhyāyī* “Восем узыходаў”. Аўтарытэт Пāṇіні быў такі вялікі, што творы папярэдніх настаўнікаў граматыкі амаль не захаваліся.

З аднаго боку, Пāṇіні апісвае жывую мову свайго часу, з другога – яго правілы асягаюць мову ведавай паэзіі ды абраду. Твору Пāṇіні ня менш за дзьве з паловай тысячы гадоў. З таго часу многія пакаленьні традыцыйных вучоных вывучалі мову паводле яго граматыкі. Можна сказаць, што Пāṇіні рашчыніўся ў санскрыце, як соль у вадзе, – празь яго выясьняецца мова мінуласьці і ствараецца мова будучыні.

Санскрыт – гэта мова, што мае трытысячагадовую гісторыю ўласнае мовазнаўчае традыцыі. Пасьля Пāṇіні традыцыйнае мовазнаўства ператварылася з апісальнай тэорыі ў канструктыўную. За гэты час традыцыйныя ўяўленьні пра мову сталі настолькі непарыўна зьвязанымі з самой мовай, што адасобіць іх ужо немагчыма, не стварыўшы прыгэтым іншай мовы. Дзякуючы вйākараṇе санскрыт – гэта мова са свабодным словаўтварэньнем, што яднае носьбітаў перадусім ня слоўнікам, а агульнымі правіламі дэрывацыі; мова этымалягічнай празрыстасьці, дзе кожнае слова ўзыходзіць да першаскладнікаў мовы. Менавіта граматыка для традыцыйнага чалавека займае месца лёгікі і яе базавых катэгорый.

Такім чынам, каб вывучыць традыцыйны санскрыт, трэба вывучыць яго традыцыйную граматыку. Эўрапейская культура адкрыла санскрыт больш за два стагодзьдзі таму. І хаця гэтае адкрыцьцё дало моцны імпульс разьвіцьцю параўнальна-гістарычнага мовазнаўства, ацаніць значэньне традыцыйнай санскрыцкай граматыкі эўрапейскія навукоўцы змаглі не адразу. Па сутнасьці, гэта адбылося толькі ў другой палове дваццатага стагодзьдзя, пасьля зьяўленьня структуралізму і ґенэратыўнай граматыкі.

Увесь гэты час вывучэньне саснкрыту на захадзе адбывалася праз прызму грэка-лацінскай граматычнай традыцыі. Бальшыня падручнікаў, створаных за апошнія два стагодзьдзі, выкарыстоўваюць лацінскія граматычныя тэрміны і сучасныя лінгвістычныя канцэпцыі. Нажаль, такое навучаньне ня толькі праходзіць міма найкаштоўнага ў мове – традыцыйнай моўнай мэтарэфлексіі, – але і навучае іншаму, "сучаснаму" санскрыту. Такога навучаньня недастаткова для адэкватнага разуменьня арыгінальных традыцыйных тэкстаў.

Гэты падручнік называецца "Ўводзінамі ў традыцыйны санскрыт". Ён уяўляе сабою ўводны курс, што складаецца з 22 заняткаў, разьлічаных на паўгоду навучаньня. Яго мэта палягае ў тым, каб падрыхтаваць вучня да вывучэньня санскрыту паводле арыгінальнай санскрыцкай граматыкі – асноўнага курсу, разьлічанага на год. Абсяг падручніка дастатковы, каб зрабіць магчымым чытаньне арыгінальных санскрыцкіх тэкстаў са слоўнікам.

Перадусім падручнік мае стварыць цэласнае ўяўленьне пра граматычную сістэму санскрыту. Дзеля гэтага ён павярхоўна асягае ўсю граматыку санскрыту, засяроджваючы ўвагу на асноўных правілах і пакідаючы па-за ўвагаю шматлікія выняткі. Заданьне заняткаў палягае ў дзейным засваеньні санскрыцкага словаўтварэньня, а не ў экстэнсіўным пашырэньні слоўнікавага запасу. Практыкаваньні разьлічаны не на пасіўнае, а на канструктыўнае авалодваньне мовай. Добрым прыкладам ужываньня такога прынцыпу быў для нас падручнік "Практычныя ўводзіны ў санскрыт" Чарлза Ўікнэра.

“Уводзіны ў традыцыйны санскрыт” разьлічаны як на самастойнае навучаньне, так і на навучаньне ў групе з інструктарам. Гука-запісы альфабэту, практыкаваньняў, дадатковых тэкстаў, узораў скланеньня і спражэньня можна знайсьці праз адрас *http://www.svayambhava.org/sanskrit*. Тамсама можна знайсьці заняткі асноўнага курсу – “Традыцыйная граматыка санскрыту”.

У падручніку выкарыстоўваецца сістэма пазначэньня марфалягічнага націску як у лацінскай транслітэрацыі, так і ў альфабэце *Devanāgarī*. Прыгэтым, праз адсутнасьць устойлівай традыцыі пазначэньня марфалягічнага націску, у тэкстах на *Devanāgarī* для пазначэньня ўда̄тты ўжываецца знак вэртыкальнай рысы (अ॑), ануда̄тты – адсутнасьць знакаў (अ), сварыты – знакі вэртыкальнай і гарызантальнай рысаў (अ॒॑). Акрамя альфабэту *Devanāgarī* і агульнапрынятай сістэмы лацінскай транслітэрацыі, у падручніку выкарыстоўваецца таксама наступная схема кірылічнае транслітэрацыі санскрыцкіх літар:

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| अ | a | а | इ | i | і | उ | u | у | ऋ | ṛ | р̣ | ऌ | ḷ | л̣ |
| आ | ā | а̄ | ई | ī | ī | ऊ | ū | ӯ | ॠ | ṝ | р̣̄ | ॡ | ḹ | л̣̄ |
| ए | e | э | ओ | o | о | अं | aṃ | аṃ | | | | | | |
| ऐ | ai | ай | औ | au | аў | अः | aḥ | ах̣ | | | | | | |
| क् | k | к | च् | c | ч | ट् | ṭ | т̣ | त् | t | т | प् | p | п |
| ख् | kh | кх | छ् | ch | чх | ठ् | ṭh | т̣х | थ् | th | тх | फ् | ph | пх |
| ग् | g | ґ | ज् | j | дж | ड् | ḍ | д̣ | द् | d | д | ब् | b | б |
| घ् | gh | ґг | झ् | jh | джг | ढ् | ḍh | д̣г | ध् | dh | дг | भ् | bh | бг |
| ङ् | ṅ | н̇ | ञ् | ñ | нь | ण् | ṇ | н̣ | न् | n | н | म् | m | м |
| | | | य् | y | й | र् | r | р | ल् | l | л | व् | v | в |
| | | | श् | ś | ш́ | ष् | ṣ | ш | स् | s | с | | | |
| ह् | h | г | | | | | | | | | | | | |

Я хачу выказаць бязьмежную падзяку майму настаўніку санскрыту – Андрэю Барысавічу Гойку, які зь вялікім цярпеньнем і дабрынёй адкрываў для мяне дарогі сьвятарнай мовы; майму сябру Ігару Кулікову за бясцэнную дапамогу і падтрымку ў рэдагаваньні і выданьні падручніка; Алегу Жлутку, Максіму Макоўчыку, Канстанціну Андрыеўскаму, Натальлі Ўласавай і ўсім іншым удзельнікам сэмінару “Самабыцьцё” і праекту перакладу граматыкі Па̄ṇіні ў беларускую мову – за сьвята інтэлектуальнага таварыства; Яўгеніі Назаравай, Натальлі Магдалінскай, Уладзіміру Бабарыкіну, Мікалаю Канапельку, Сьвятлане Носавай, Кацярыне Гуртавой і ўсім іншым першым слухачам гэтага курсу.

За дапамогу ў выданьні гэтай кнігі я вельмі ўдзячны Сьвятлане Носавай, Віталю й Тацяне Гуршчанковым, Натальлі Анапрэенка, Алегу Жлутку, Аляксандру Дворскаму, Ігару Кулікову, Ілоне Кудзелька, Дзьмітрыю Пісарыку, Дыяне Лузгіной, Паўлу Бохану, Ганьне Кавалеўскай, Канстанціну Андрыеўскаму, Кацярыне Гуртавой, Яўгену Ўрублеўскаму, Валянціне Дыбчук і Аляксандру Стрыжанку.

Спадзяюся, гэты першы падручнік санскрыту, выдадзены па-беларуску, будзе годным унёскам у сутвору нашай Бацькаўшчыны.

*6 красавіка 2014*

*Міхаіл Баярын*

## Спадчына

Санскрыт – гэта мова сьвятарнай ведавай традыцыі. Вывучэньне санскрыту далучае нас да гэтай шматтысячагадовай спадчыны. Яе пачынальнікамі лічацца рышы (*ṛṣi*), продкі чалавецтва і першыя паэты. Зборнікі іх гімнаў цяпер называюцца Ведамі. Гэта самыя старажытныя творы на санскрыце, ім больш за чатыры тысячы гадоў. Але "санскрыт" – даволі позьняя назва мовы рышаў. У той час яна называлася проста Мовай (*vāc*). З гледзішча Ведаў, Мова ўсеабсяжная: людзі жывуць у Мове, бачаць Мову і дыхаюць Мовай, але звычайна ня ведаюць пра гэта:

*Я ўладарка, скарбніца скарбаў, чуйная, першая з вартых аброку,*
*той мяне ўстанавілі багі паўсюль многамесцавай, многадасяжнай. |3|*

*Мной ежу той есьць, які бачыць, які дыхае, слухае сказ які,*
*несьвядома жывуць ува мне яны, слухай, чуйны, верна кажу я. |4|*

*Я толькі сама што-заўгодна прамаўляю людзьмі і багамі,*
*каго ўпадабаю, раблю таго моцным, брагманам, мудрым, прарокам. |5|*
……

*Я нібы вецер вею, рушачы ўсе сусьветы,*
*больш за неба, больш за зямлю, магутой такая паўстала. |8|*

*Ṛг-веда, 10-125, Мова*

## Мова

Мова – ня проста сродак зносінаў ці знакавая сістэма. Мова большая за словы і знакі, бо словы і знакі – толькі яе выява, яна мора і выток усіх словаў і знакаў. Мова большая за мысьленьне, бо мысьленьне – толькі выява мовы. Мова большая за асобнага чалавека, бо папярэднічае чалавеку і робіць яго чалавекам, калі ён вучыць мову. Гэта Мова гаворыць чалавекам, а ня чалавек Мовай. Як праява Мовы апісваецца зьяўленьне сьвету ў Упанішадах, завяршальным разьдзеле Ведаў:

*Тады ўсё гэта было нераскрытым (a-vyākṛtam). Яно раскрылася (vyākriyata) іменем (nāma) і явай (rūpa) – тое яго імя, гэта яго ява. І цяпер яно раскрываецца (vyākriyate) іменем і формай, тое яго імя, гэта яго ява. Ён увайшоў сюды да кончыкаў пазногцяў, як лязо ўкладаецца ў похвы, як агонь – у дровы. Яго ня бачаць, бо ён ня цэлы. Дыхаючы, ён дых па імені. Гаворачы – мова. Бачучы – зрок. Слухаючы – слых. Мысьлячы – мысел. Усё гэта імёны яго дзеяў.*

*Хто шануе яго як адно і другое, ня ведае. Бо ня цэлы ён застаецца адным і другім. Сам (ātman) – так трэба яго ўшаноўваць. Бо такім чынам усё гэта стаецца адным. Мае быць знойдзены па сьледзе (padanīyam) той, хто зьяўляецца самім (ātman) гэтага ўсяго. Бо ім ён ведае ўсё. Хто знойдзе яго па сьледзе (padena anu vindet), той знаходзіць славу і шану, той, хто так ведае.*

*Бргадāраṇйака-ўпанішад, 1.4.7*

## Імя і ява

Форма вызначаецца тут як “гэтае”, а імя як “тое”. Сьвядомасьць існуе як супастаўленьне гэтага і таго, сэнсу і формы, імені і явы. Кожнае дзеяньне мовы называе гэтае – тым, кожны сказ мовы гаворыць, што гэтае – тое. Мова ёсьць заўсёды, калі ёсьць форма і сэнс. І як абавязковая сувязь формы і сэнсу яна папярэднічае іх падзелу. Сувязь сэнсу і формы называецца сьвядомасьцю. Таму мова існуе паўсюль, дзе ёсьць сьвядомасьць. Існае існуе для сьвядомасьці, таму Мова існуе паўсюль. Мова існуе, калі чалавек бачыць і слухае, бо ў гэты час ён распазнае сэнс у форме. І гэтым яна папярэднічае і зроку, і слыху.

Праяўленьне сьвету (*vyākaraṇa*) разварочваецца як раскрыцьцё імені і формы і пакідае сьлед (*pada*). Гэты сьлед вядзе назад, ад праявы да яе пачатку, ад множнага да адзінага. Сьцег праявы імені і формы – гэта сьцег Мовы, і ён можа быць пройдзены назад, да пачатку сьвету. Вывучэньне мовы з гледзішча ведавай традыцыі – гэта вяртаньне да пачатку Мовы, адсочваньне Ātмана па яго сьлядах. Множнасьць,

распадзеленасьць стварае абмежаванасьць, зь якой вынікае сьмерць. Аднаўленьне адзінства, цэласьці вядзе да неабмежаванасьці, зь якой вынікае нясьмерце:

> *Напраўду, ўсё гэта – тры: імя, ява, чын. Выток усіх імёнаў (nāman) – мова (vāc), бо зь яе паўстаюць усе імёны. Гэта іх сьпеў (sāman), бо яна роўна ўсім імёнам. Гэта іх Род, бо яна трымае ўсе імёны.*
>
> *Выток жа ўсіх яваў (rūpa) – вока (cakṣus), бо зь яго паўстаюць усе явы. Гэта іх сьпеў, бо яно роўна ўсім явам. Гэта іх Род, бо яно трымае ўсе явы.*
>
> *Выток жа ўсіх чынаў (karman) – Сам (ātman), бо зь яго паўстаюць усе чыны. Гэта іх сьпеў (sāman), бо ён роўны ўсім чынам. Гэта іх Род, бо ён трымае ўсе чыны.*
>
> *Гэтыя тры ёсьць адно існае (sat) – і гэтае існае ёсьць Сам (ātman). Сам напраўду – існы адзін ёсьць гэтыя тры. Гэта – нясьмерце, пакрытае істай. Дых (prāṇa) напраўду – нясьмерце. Імя і ява (nāma-rūpa) – ісьціна (satya). Імі пакрыты гэты дых.*
>
> *Бргадараṇйака-ўпанішад, 1.6.1-3*

## Чын

Чалавек жыве ў трысьвеце неба, зямлі і прасторы паміж імі. Імя ўтварае Неба, форма ўтварае Зямлю, а чын – Прастора паміж. Слых робіцца абсягам імёнаў, зрок – абсягам формаў, а паміж імі застаецца абсяг руху і чыну. Чын злучае сабой імя і яву, забясьпечвае суадпаведнасьць абсягаў зроку і слыху, што дае магчымасьць гаварыць імёнамі пра формы, слыхам пра зрок. Бо імя – гэта чын у прасторы імені, а форма – той самы чын у прасторы формы. Трысьвет імені, формы і чыну, у якім жыве чалавек, узьнік як праява Мовы, якую стварылі, знайшлі ў сабе празорцы-рышы:

*Ні няіснаеісьнела, ані існаеісьнела тады, ня існела неба, ані прастор, што вышэй.*
*Што хавалася? Дзе? Чым сховам? Ці вада існела бяздонна, глыбока? |1|*

*Ні сьмерць, ні нясьмерце існела тады, ня існела ночы і дня пракмета.*
*Бяз дыху дыхала тое адно самадзейна, і ад яго іншага звыш анічога ня йсьнела. |2|*

*Цемра, схаваная цемрай існела спачатку, непракметнай вадою было ўсё гэта.*
*Што існела пустое, пустым сукрыта, магутою жару ўзьнікла тое адно. |3|*

*Жаданьне зь яго напачатку ўзьнікла, якое было семенем першым мыслу.*
*Мяжу існага ў няісным знайшлі празорцы ў сэрцы, зыскуючы мысла-воляй. |4|*

*Ṛг-веда, 10-129. Пачатак*

## Рышы

Ведавая традыцыя падзяляецца на дзьве часткі: Слова (*śruti*) і Завет (*smṛti*). Уласна Веды складаюць першую частку, што літаральна знаďчыць "слых". Засталыя сьвятарныя тэксты адносяцца да другой часткі, назва якой літаральна значыць "памяць". Першую, вышэйшую частку традыцыі складае прамое спасьціжэньне знаньня, другую – апасяродкаванае. Веды – гэта знаньне, што мае паэтычную форму. Рэч у тым, што мастацкі твор аднаўляе ў сьвядомасьці ўспрымальніка той стан, у якім ён быў створаны аўтарам, што дае прамое перажываньне, а не апісаньне ісьціны.

Рышы – гэта стваральнікі Ведаў. Гэта продкі людзей, але гэтаксама і продкі дэваў і асураў. Людзі атрымліваюць мову ад рышаў як спадчыну. Хаця кожны ведавы гімн мае аўтара, рышы традыцыйна лічацца толькі знаходнікамі ці празорцамі Ведаў. Адылі Веды ў Ведах не называюцца Ведамі. Тое, што знайшлі ў сабе рышы, называецца ў Ведах Мовай. Уся

Мова ад пачатку і ёсьць Веды, а рышы – гэта першыя, хто знайшоў у сабе Мову:

*Пане слова, быў першы пачатак мовы, калі імя-дзею рушылі дзейныя,*
*што было ў іх найлепшае, чыстае, тое, глыбока сукрытае, любоўю*
*яны явілі. |1|*

*Ṛг-веда, 10-71 – Знаньне*

## Сіта

Стварэньне мовы рышамі апісваецца ў Ведах як ачышчэньне і параўноўваецца з прасейваньнем мукі праз сіта. Мова ўзьнікае як ачышчальнік, фільтар сусьвету, што яўляе найлепшае і найчысьцейшае. Стварэньне мовы і стварэньне сьвету супадаюць. Сьвет існуе як яснасьць і чысьціня, сьвятло. Сіта падзяляе тое, што прасейвае праз сябе. Імёны мовы падзяляюць сьвет на формы, трымаюць іх множнымі ды асобнымі. З другога боку, імя, сэнс – гэта чысьціня рэчы. Выбар жа найлепшай рэчы ў сваім родзе – гэта параўнаньне зь яе сэнсам, яе чысьцінёй. А мова як злучнасьць усіх сэнсаў – гэта паўната чысьціні.

*Нібы муку́ сітам чысьцячы, дзе разумныя мыслам мову чынілі,*
*там знаюць сябры сяброўства, бо шчасны іх знак укладзены ў мову. |2|*

*Аброкам мовы дарогу яны прайшлі, яе спанайшлі яны ў рышаў праніклай,*
*яе прынесшы, яны разьдзялілі множна, яе сем слаўцаў разам вітаюць. |3|*

*Адзін і гледзячы, мову ня ўбачыў, другі слухаючы, яе і ня чуў,*
*іншаму ж цела яна раскрыла, як прыгожа-ўбраная прагная жонка мужу. |4|*

*Ṛг-веда, 10-71 – Знаньне*

## Санскрыт

Слова *saṃskṛta* складаецца з прыстаўкі *sam* “з”, устаўкі -*s*-, кораня *kṛ* “рабіць, чыніць” і афікса *ta* (афікс дзеепрыметніка залежнага стану ці назвы працэсу). Пры наяўнасьці ўстаўкі -*s*- *saṃ-s-kṛ* азначае “упрыгожваць, ачышчаць, злучаць”. Этымалягічна слова *saṃskṛta* і слова *saṃskāra* “ачышчэньне, асьвячэньне, ініцыяцыя” маюць адзін сэнс. Слова “культура” на санскрыт перакладаецца як *saṃskṛti* “ачышчэньне, асьвячэньне, ініцыяцыя”. Слову *saṃskṛta* супрацьстаўляецца слова *prākṛta* “грубы, неапрацаваны”. Пракрыты – гэта таксама назва моваў, гаворак, што ўтварыліся ад санскрыту праз яго скажэньні.

Санскрыт (*saṃskṛtā vāk*) – гэта чыстая мова, мова-саӎскāра, ачышчальнік, што трымае сьвет чыстым і зьвязвае яго з пачаткам. Чысьціня мовы забясьпечвае празрыстасьць гэтае сувязі. Сэнс мовы роўны чысьціні мовы. Мова мае быць чыстай.

Лацінскія словы *sacer* “сьвяты” і *sacrum* “ахвяра, аброк” – родзічы ці прамыя нашчадкі словаў *saṃskāra* “пасьвячэньне” і *saṃskṛta* “пасьвячоны”. Мы маглі б этымалягічна правільна перакласьці “санскрыт” на лацінскую мову як *lingua sacra* “сьвятая мова”. Корань *kṛ* ‘рабіць’ у санскрыце першапачаткова азначае “абракаць”, і ўжо пасьля ўсе іншыя дзеяньні. Ад кораня *kṛ* утвараецца *cakram* “кола” і шматлікія словы са значэньнем колавага руху і нерухомай восі. Аброк сваім адбыцьцём утварае кола аброку і вось сусьвету, паўтараючы першачын – аброк Першапачатку.

> *Зь ежы ўзбываюцца быты, з дажджу ўзбываецца ежа,*
> *дождж узбывае з аброку, аброк узбываецца з чыну.*
>
> *Чын з Роду узбытым ведай, зь нязгубнага Род узбыты,*
> *таму ўсюдырушны Род у аброку заўжды ўсталяваны.*
>
> *Хто так закручонага кола кручэньня далей ня доўжыць,*
> *зламысны, здаволя здоляў, дарэмна жыве ён, Пāртха.*

*Бгаґавад-Ґӣтā, 3.14-16*

## Вынраява

Граматыка санскрыту называецца словам *vyākaraṇa*. Яно ўтвараецца з прыставак *vi*- "раз" і *ā*- "пры", кораня *kṛ* "чыніць, рабіць" і афікса *LyuṬ* (афікс сродку, месца, працэсу). Спалучэньне *ā-kṛ* азначае "фармаваць", слова *ā-kāra* азначае форму. *Vy-ā-karaṇa* – гэта ўтварэньне мноства формаў з аднаго пачатку – выпраява.

Ва ўпанішадах *vyākaraṇa* азначае праяўленьне, разгортваньне сьвету з адзінага, неразрознага ў множнае і разрознае. Вйāкараṇа – гэта традыцыйная дысцыпліна (*śāstra*), якая навучае мове праз праяўленьне, утварэньне мовы, а таксама навука (*vidyā*), тэорыя і філязофія (*darśana*), што разглядае сьвет як праяву мовы. Вйāкараṇа мае статус галоўнай з шасьці ведāнґаў, традыцыйных навукаў, што лічацца часткамі цела Веды (*vyākaraṇa*, *nirukta*, *chandas*, *jyautiṣa*, *kalpa*, *śikṣā*).

Вйāкараṇа ўтварае вэртыкальны, этымалягічны вымер мовы, які адрозьнівае санскрыт ад моваў гарызантальнай рэфэрэнцыі. Адзінства такой мовы забясьпечваецца ня слоўнікам, а граматыкай, свабодным словаўтварэньнем паводле агульных правілаў. Менавіта вйāкараṇа робіць санскрыт санскрытам, чыстай, вэртыкальнай мовай сувязі з Пачаткам. Вывучэньне санскрыту як мовы ведавай традыцыі – гэта перадусім вывучэньне вйāкараṇы.

❀❀❀

# 1. Горад багоў

Слова “альфабэт” на санскрыце будзе *varṇa-mālā* “вянок формаў”. Альфабэт санскрыту называецца *Devanāgarī* “горад багоў”. У старажытнаіндыйскім сьветаглядзе горад багоў *Amarāvatī* “Сяліба несьмяротных” знаходзіцца на схіле сусьветнай гары Меру, празь якую праходзіць вось сьвету, вакол якой плаваюць сем выспаў, адна зь якіх – *Jambudvīpa* “Востраў яблыні” – наш зямны сьвет.

Калі перавярнуць слова *deva* “бог”, то атрымаецца *veda* “веда, ідэя”. Кожнае боства – гэта жывое ўвасабленьне катэгорыі традыцыйнай мэтафізікі – *tattva* (тоества, стадыя праявы сьвету). Кожная літара альфабэту санскрыту лічыцца ўвасабленьнем таттвы, і таму ўвесь альфабэт напраўду зьяўляецца горадам багоў і яго праявай у выглядзе гукаў і літараў.




*гара Меру – сяліба несьмяротных*

## Мера дыху

Гук – гэта аформлены дых. Каб утварыць першасны гук, трэба проста сьціснуць у горле галасавыя зьвязкі, і ён ператворыцца ў першы галосны – *a*. Усе іншыя гукі ўтвараюцца даданьнем іншых мераў афармленьня – крананьня языком, узмацненьнем дыху і інш. Гук, які мы чуем, – вынік дыху і яго афармленьня. Хаця ён здаецца кожны раз розным, насамрэч, ён заўсёды застаецца адзіным дыхам, нятоесным мерам, накладзеным на яго.

## Месцы і высілкі

Каб утварыць правільны гук, трэба зрабіць правільны высілак у правільным месцы вымаўленьня. У роце чалавека, дзе ўтвараецца гук, ёсьць пяць галоўных месцаў:
1. горла, ці ніжняе нёба
2. сярэдняе нёба
3. верхняе нёба
4. зубы
5. губы



## Галосныя і зычныя

Усе гукі альфабэту падзяляюцца на дзьве часткі:
1. *svara* – галосныя
2. *vyañjana* – зычныя

Галосныя могуць гучаць самастойна, бяз зычных, зычныя залежаць ад галосных і могуць гучаць толькі пасьля галосных ці перад імі. Таму галосныя называюцца *śakti* – сіламі.

## Мера

Гукі маюць часавую меру гучаньня – *mātrā*. Гэта адносная мера. Паводле меры гучаньня галосныя могуць быць:

1. *hrasva* – кароткія – гучаць адну меру
2. *dīrgha* – доўгія – гучаць дзьве меры
3. *pluta* – працяглыя – гучаць тры і больш мераў

## A, i, u

Вывучэньне галосных лепш пачынаць з працяглых гукаў, пасьля пераходзіць да кароткіх, а пасьля рабіць іх у два разы большымі – доўгімі. Працяглыя галосныя пазначаюцца лічбай 3. Доўгія – рысай зьверху.

Каб вымавіць гук *a3,* дастаткова проста адкрыць рот, напружыць галасавыя зьвязкі і вымавіць гук. Найкароткі такі гук будзе *a*, а ў два разы даўжэйшы – *ā*.

Каб вымавіць гук *i3*, трэба, вымаўляючы *a3*, падняць сьпінку языка ўверх. Найкароткі такі гук будзе *i*, а ў два разы даўжэйшы – *ī*.

Каб вымавіць гук *u3*, трэба, вымаўляючы *a3*, амаль закрыць рот, пакінуўшы маленькую адтуліну. Найкароткі такі гук будзе *u*, а ў два разы даўжэйшы – *ū*.

## Ṛ, ḷ

Гукі *ṛ3* і *ḷ3* лягчэй утвараць ад гука *i3*.

Каб вымавіць галосны *ṛ3*, трэба, вымаўляючы *i3*, падняць кончык языка ўверх, да верхняга нёба, але не кранаць яго. Прыгэтым сьпінка языка апусьціцца крыху ўніз. Найкароткі такі гук будзе *ṛ*, а ў два разы даўжэйшы – *ṝ*.

Каб вымавіць галосны *ḷ3*, трэба, вымаўляючы *i3*, падняць кончык языка да зубоў, але не кранаць іх. Прыгэтым сьпінка языка апусьціцца крыху ўніз. Найкароткі такі гук будзе *ḷ*, а ў два разы даўжэйгы – *ḹ*. У санскрыце няма словаў з гукам *ḹ*, але яго ўсё адно ўлучаюць у альфабэт.

## Простыя і складаныя галосныя

Пяць першых галосных – *a*, *i*, *u*, *ṛ*, *ḷ* – называюцца простымі, бо маюць адно месца ўтварэньня. Ад іх адрозьніваюцца складаныя галосныя, што маюць адразу два месцы ўтварэньня. Але гэта ня тое самае, што называецца дыфтонґам. Складаныя галосныя ня могуць быць кароткімі, але толькі доўгімі і працяглымі. Іх чатыры: *e*, *ai*, *o*, *au*.

## E, ai, o, au

Каб утварыць галосны *e3*, трэба, вымаўляючы *i3*, разьняволіць горла. Найкароткі такі гук будзе доўгім *e*.

Каб утварыць галосны *ai3*, трэба, вымаўляючы *e3*, крыху апусьціць сьпінку языка ўніз. Найкароткі такі гук будзе доўгім *ai*.

Каб утварыць галосны *o3*, трэба, вымаўляючы *u3*, разьняволіць горла. Найкароткі такі гук будзе доўгім *o*.

Каб утварыць галосны *au3*, трэба, вымаўляючы *o3*, крыху пашырыць адтуліну рота. Найкароткі такі гук будзе доўгім *au*.

Хоць у трансьлітэрацыі гукі *ai* і *au* пішуцца дзьвюма літарамі, ня трэба забываць, што гэта адзін гук.




## Утварэньне галосных

Усе галосныя ўтвараюцца ад першаснага галоснага гука *a*, які сам зьяўляецца афармленьнем дыханьня. Усе зычныя ўтвараюцца ад галосных. Таму ўвесь альфабэт, насамрэч, – адзін гук, аформлены розным чынам.

# Тон і назалізацыя

Кожны галосны ў санскрыце можа быць трох таноў:
1. *udātta – á*
2. *anudātta – a*
3. *svarita – à*

Гэтыя таны пазначаюць фанэматычны, а не фанэтычны націск, які будзе разгледжаны пазьней.

Кожны галосны ў санскрыце можа быць назалізаваным і неназалізаваным:
1. *anunāsika – a̐*
2. *an-anunāsika – a*

Таму кожны з простых галосных прадстаўлены 18 фанэмамі (кароткі, доўгі, працяглы, удāтта, анудāтта, сварітa, назалізаваны, неназалізаваны), а кожны складаны – 12 (без адменаў кароткага).



*рукапіс з узорам пісьма Дэванāгарī*

## Ṃ, ḥ




У альфабэтным парадку галосныя разьмяркоўваюцца такім чынам:

*a ā i ī u ū ṛ ṝ ḷ ḹ e ai o au*

Далей ідуць яшчэ два гукі, якія вымаўляюцца толькі пасьля галосных:

1. *ṃ* – *anusvāra* – чыста насавы гук, вымаўляецца адным носам;
2. *ḥ* – *visarga* – прыдыханьне пасьля галоснага, гучыць так, нібы галосны працягваецца пасьля гука "г". Так, *aḥ* гучыць як *ah*$^{a}$, *iḥ* як *ih*$^{i}$, *uḥ* як *uḥ*$^{u}$, *ṛḥ* як *ṛḥ*$^{r}$. Пасьля складаных галосных вісарґа гучыць так жа сама, як апошні іх складнік: *eḥ*$^{i}$, *aih*$^{i}$, *oḥ*$^{u}$, *auh*$^{u}$.

## 2. Пісьмо

Пісьмо *Devanāgarī* цалком падпарадкавана перадачы фанэтыкі. Першапачаткова ім пісалі на пальмавых лістох бамбукавай палачкаю, трымаючы яе ў кулаку – адсюль асаблівы стыль каліграфіі, уласьцівы Дэванāґарī.






Для належнай перадачы гэтага стылю пяро чарнільнай асадкі мае быць падрэзана пад вуглом у 22 градусы.

Кожная літара Дэванāґарī ўмоўна падзяляецца на тры часткі дзеля захаваньня правільных прапорцый і пішацца зьверху ўніз, зьлева направа. Зьлітнае вымаўленьне гукаў перадаецца рысаю зьверху.

## 3. Сэнс і форма

Усе граматычныя тэрміны санскрыту падзяляюцца на дзьве групы: тэрміны формы (*rūpa*) і тэрміны сэнсу (*artha*).

Сэнс – гэта перадусім чын (*kriyā*) і яго ўдзельнікі – чыньнікі (*kāraka*). Першым і галоўным чыньнікам зьяўляецца дзейнік (*kartṛ*). Правіла ў санскрыцкай граматыцы прызначае форму пры ўмове сэнсу.

## Аснова, афікс

Галоўнымі тэрмінамі формы зьяўляюцца:
1. *prakṛti* – аснова
2. *pratyaya* – афікс

Афікс дадаецца пасьля асновы і зьмяняе яе сэнс.

## Пада

Закончанае слова называецца *pada*. Словы санскрыту падзяляюцца на два віды:
1. *tiṄ-anta* – дзеясловы
2. *sŭB-anta* – імёны

Адрозьніваюцца імёны і дзеясловы канчаткамі – афіксамі, на якія сканчаюцца іх формы.

*tiṄ* – гэта канчаткі дзеясловаў:

| | | |
|---|---|---|
| *tiP* | *tas* | *jhi* |
| *siP* | *thas* | *tha* |
| *miP* | *vas* | *mas* |
| *ta* | *ātām* | *jha* |
| *thās* | *āthām* | *dhvam* |
| *iṬ* | *vahi* | *mahiṄ* |

*sŭP* – гэта канчаткі імёнаў:

| | | |
|---|---|---|
| *sŭ* | *au* | *Jas* |
| *am* | *auṬ* | *Śas* |
| *Ṭā* | *bhyām* | *bhis* |
| *Ṅe* | *bhyām* | *bhyas* |
| *Ṅasĭ* | *bhyām* | *bhyas* |
| *Ṅas* | *os* | *ām* |
| *Ṅi* | *os* | *suP* |

## Корань і аснова імені

Корань дзеяслова называецца *dhātu*. Дзеяслоў утвараецца, калі пасьля кораня ставяцца канчаткі *tiṄ*. Напрыклад, корань *vad* значыць “гаварыць”. Канчатак *tiP* дадаецца пасьля кораня ў сэнсе дзейніка (*kartṛ*), і ўтвораная ў выніку пада *vad-a-ti* азначае “гаворыць”.
*vad+ti* → *vad-ti* → *vád-a-ti*

Аснова імені ўтвараецца ад каранёў ці іншых асноў імені і называецца

*prātipadika*. Імя ўтвараецца, калі пасьля прāтіпадікі ставяцца канчаткі *sŭP*. Напрыклад, слова *nára* значыць “чалавек”. Форма яго “назоўнага” склону ўтвараецца так:
*nára+s → náras → náraḥ*

Цяпер мы можам сказаць:
*náraḥ vadati* – чалавек гаворыць

## Лік

Канчаткі імёнаў і дзеясловаў зьмяняюцца ў залежнасьці ад таго, колькі чыньнікаў яны азначаюць – адзін (*eka*), два (*dvi*) ці многа (*bahu*). Канчаткі, што ўжываюцца ў сэнсе “адзін”, называюцца *eka-vacana*. Канчаткі, што ўжываюцца ў сэнсе “два”, называюцца *dvi-vacana*. Канчаткі, што ўжываюцца ў сэнсе “многіх”, называюцца *bahu-vacana*.

## Узоры

*vad* – гаварыць
*vádati* – гаворыць
*vádataḥ* – двое гавораць
*vádanti* – гавораць
*nára* – чалавек
*náraḥ* – чалавек
*nárau* – два чалавекі
*nárāḥ* – людзі

## Слоўнік

Дзеясловы ў санскрыцкім слоўніку зьмяшчаюцца ў форме *dhātu*, а імёны – у форме *prātipadika*.
*nára* – чалавек
*nṛpá* – абаронца людзей, князь, валадар
*sad* – *sī́dati* – сядзець
*vad* – *vádati* – гаварыць

## Нiпāты

Відам імёнаў зьяўляюцца ніпāты (устаўкі) – нязьменныя словы, што служаць для выражэньня адносін паміж іншымі словамі. Пасьля іх заўсёды зьнікаюць канчаткі імені *su̐P*.

*ca* – і, а (ставіцца пасьля слова)
*ná* – не (ставіцца перад словам)

## Нрактыкаваньне 1

Перакласьці з санскрыту:
*1. náraḥ vadati*
*2. nárau ná vadataḥ*
*3. náraḥ sīdati vádati ca*
*4. nṛpā́ḥ vadanti*
*5. nárāḥ nṛpáḥ ca vadanti*
*6. náraḥ vadati nṛpaú ca sīdataḥ*
*7. nṛpā́ḥ vadanti sī́danti ca*
*8. nárau vadataḥ nṛpaú ca sīdataḥ*
*9. nṛpā́ḥ ná vadanti nárāḥ ca ná sīdanti*

## Практыкаваньне 2

Перакласьці на санскрыт:
1. Чалавек сядзіць.
2. Князь гаворыць.
3. Два князі не гавораць і сядзяць.
4. Людзі сядзяць і гавораць.
5. Князі гавораць, а людзі сядзяць.
6. Людзі сядзяць, а князі гавораць.
7. Два чалавекі гавораць.
8. Два князі гавораць, а чалавек сядзіць.
9. Чалавек не гаворыць, і князь не сядзіць.

## Заданьне

1. Вывучыць вымаўленьне ўсіх галосных.
2. Вывучыць напісаньне ўсіх галосных.
3. Вывучыць асноўныя граматычныя тэрміны.
4. Выканаць практыкаваньні.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

## 1. Месцы вымаўленьня

Месцы вымаўленьня простых галосных зьяўляюцца і месцамі вымаўленьня астатніх гукаў:
1. *a* – *kaṇṭha* – ніжняе нёба
2. *i* – *tālu* – сярэдняе нёба
3. *ṛ* – *mūrdhan* – верхняе нёба
4. *ḷ* – *danta* – зубы
5. *u* – *oṣṭha* – губы

Месцам вымаўленьня анусвāры зьяўляецца:
6. *ṃ* – *nāsikā* – нос

Складаныя галосныя маюць два месцы вымаўленьня:
7. *e*, *ai* – *kaṇṭha-tālu* – ніжняе і сярэдняе нёба
8. *o*, *au* – *kaṇṭhoṣṭha* – ніжняё нёба і губы

## Назвы гукаў наводле месца ўтварэньня

Паводле назваў месцаў вымаўленьня ўтвараюцца наступныя прыметнікі:
1. *kaṇṭhya* – ніжнянёбны
2. *tālavya* – сярэднянёбны
3. *mūrdhanya* – верхнянёбны
4. *dantya* – зубны
5. *oṣṭhya* – губны
6. *nāsikya* – насавы
7. *kaṇṭha-tālavya* – ніжнянёбна-сярэднянёбны
8. *kaṇṭhoṣṭhya* – ніжнянёбна-губны

## Высілкі вымаўленьня

Высілкі вымаўленьня (*prayatna*) падзяляюцца на нутраныя і вонкавыя. Нутраныя высілкі (*ābhyantara-prayatna*) робяцца ўнутры рота, а вонкавыя (*bāhya-prayatna*) – вонках рота.

## Нутраныя высілкі

Усё, што можна зрабіць, каб вымавіць гук унутры рота, – адкрыць рот або закрыць яго:
1. *vivṛta* – адкрыцьцё
2. *spṛṣṭa* – дакрананьне, закрыцьцё

Адкрыцьцё ўтварае галосныя (*svara*), а закрыцьцё – змычныя зычныя (*sparśa*).

Акрамя таго, рот можна закрыць і адкрыць не да канца:
3. *īṣad-vivṛta* – амаль-адкрыцьцё
4. *īṣat-spṛṣṭa* – амаль-закрыцьцё

Амаль-адкрыцьцё ўтварае шыпенныя зычныя (*ūṣman*), а амаль-закрыцьцё – паўгалосныя (*antaḥstha*).

## Вонкавыя высілкі

Да вонкавых высілкаў належаць час гучаньня (*kāla*), вышыня тону галоснага (*svara*), сіла дыху (*prāṇa*), сьцісканьне або расьціскавньне горла (*saṃvāra* / *vivāra*), удзел у маўленьні носа (*nāsikā*). Паводле часу гучаньня галосныя падзяляюцца на кароткія, доўгія і працяглыя. Зычныя працягваюцца палову кароткага гука. Паводле тону галосныя могуць быть *udātta*, *anudātta* і *svarita*. Зычныя ня маюць уласнай вышыні тону.

Паводле сілы дыху зычныя могуць быць:
1. *alpa-prāṇa* – слаба-дыхавыя
2. *mahā-prāṇa* – моцна-дыхавыя

Сьцісканьне і расьціскавньне горла дае два віды гукаў:
1. *saṃvāra* – сьціскавньне – *ghoṣavat* – звонкія
2. *vivāra* – расьціскавньне – *aghoṣa* – глухія

Галосныя – заўсёды звонкія.

Удзел носа ў маўленьні дае:
1. *anunāsika* – назалізаваныя
2. *ananunāsika* – неназалізаваныя гукі

Усе галосныя могуць быць абодвух відаў.

## Змычныя зычныя

25 змычных – *sparśa* – сьледуюць у альфабэце адразу пасьля галосных.

<table>
<tr><td colspan="3"></td><td>kaṇṭhya</td><td>tālavya</td><td>mūrdhanya</td><td>dantya</td><td>oṣṭhya</td></tr>
<tr><td rowspan="4">ananunāsika</td><td rowspan="2">aghoṣa</td><td>alpa-prāṇa</td><td>ka</td><td>ca</td><td>ṭa</td><td>ta</td><td>pa</td></tr>
<tr><td>mahā-prāṇa</td><td>kha</td><td>cha</td><td>ṭha</td><td>tha</td><td>pha</td></tr>
<tr><td rowspan="3">ghoṣavat</td><td>alpa-prāṇa</td><td>ga</td><td>ja</td><td>ḍa</td><td>da</td><td>ba</td></tr>
<tr><td>mahā-prāṇa</td><td>gha</td><td>jha</td><td>ḍha</td><td>dha</td><td>bha</td></tr>
<tr><td>anunāsika</td><td>alpa-prāṇa</td><td>ṅa</td><td>ña</td><td>ṇa</td><td>na</td><td>ma</td></tr>
</table>

## Вымаўленьне змычных

Кожныя пяць змычных зычных, што вымаўляюцца ў адным месцы вымаўленьня, называюцца *varga* (група). Варґі называюцца паводле першага гука: *ka-varga*, *ca-varga*, *ṭa-varga*, *ta-varga*, *pa-varga*. Вымаўляючы змычныя аднае варґі, мы пяць разоў робім той самы рух – змычку у правільным месцы. Розьняцца прыгэтым толькі вонкавыя высілкі: сіла дыху, сьцісканьне-расьцісканьне горла, удзел носа ў маўленьні.

## 2. Нісьмо



ka kha ga gha ṅa



ca cha ja jha ña

## 3. Kāракі

Другім пасьля дзейніка (*kartṛ*) чыньнікам (*kāraka*) зьяўляецца аб’ект чыну, або дачын (*karman*). Дачын зьяўляецца для дзейніка найжаданым або зьвязаны зь ім падобным на жаданьне чынам. У сказе “Чалавек ідзе да вёскі” чалавек – дзейнік, а вёска – дачын. У сказе “Чалавек вядзе каня”, дачын – конь. Але ў сказе “Конь вядзецца чалавекам”, дачын усё ж конь, а чалавек усё адно – дзейнік.

### Азначэньне адной рэчы і розных рэчаў

Два словы могуць азначаць адну рэч або розныя рэчы. Так, словазлучэньні “прыгожы чалавек” ці “чалавек гаворыць” азначаюць адну рэч (*samāna-adhikaraṇa*), бо хто прыгожы, той і чалавек, хто чалавек, той і гаворыць. А словы “гаворыць чалавеку” ці “конь чалавека” азначаюць розныя рэчы (*vyadhikaraṇa*), бо чалавек – ня конь, а той, хто гаворыць, – ня той, каму гавораць.

### Першая, сярэдняя і навышняя асобы

Канчаткі дзеяслова (*tiṄ*) падзяляюцца на тры тройцы – паводле ліку і таго імені, разам зь якім яны азначаюць адну рэч.

Калі гэта слова “я” ці “мы”, пасьля кораня дадаюцца канчаткі, што называюцца *uttama-puruṣa* “навышняя асоба”. Калі гэта слова “ты” ці “вы”, дадаюцца канчаткі *madhyama-puruṣa* “сярэдняя асоба”. А калі гэта ўсякае іншае імя, то дадаюцца канчаткі *prathama-puruṣa* “першая асоба”. Пералік канчаткаў у санскрыце пачынаецца зь першай асобы: спачатку экавачана, потым двівачана, затым багувачана. Далей пералічаюцца формы сярэдняй асобы, а потым – навышняй.

## Узор

| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
|---|---|---|---|
| *prathama-puruṣa* | **vádati** | **vádataḥ** | **vádanti** |
| *madhyama-puruṣa* | **vádasi** | **vádathaḥ** | **vádatha** |
| *uttama-puruṣa* | **vádāmi** | **vádāvaḥ** | **vádāmaḥ** |

Каб сказаць “я гавару”, у санскрыце не абавязкова гаварыць “я” – можна проста сказаць “гавару”. Гэтак жа сама, каб сказаць “ён гаворыць” і “ты гаворыш”, можна не ўжываць словаў “ён” і “ты”.

## Vibhakti

Кожная тройца канчаткаў дзеяслова называецца *vibhakti*. І кожная тройца канчаткаў імені таксама называецца *vibhakti*. Калі вібгакті дзеяслова называюцца пурушамі, то вібгакті імені пералічаюцца па парадку:
1. *prathamā* – першая
2. *dvitīyā* – другая

Другая вібгакті ўжываецца ў сэнсе кармана, аб’екта чыну:
*náraḥ āhārám pacati* – Чалавек гатуе ежу.
*nṛpáḥ āhārám khādati* – Князь есьць ежу.

## Заклік

Першая вібгакті азначае дзейніка, калі азначае адну рэч разам (*samānādhikaraṇe*) зь дзеясловам. Акрамя гэтага, яна можа азначаць

асобу, да якой робіцца заклік (*sambodhana*). Такая пратхамā называецца *āmantrita*. Прыгэтым форма *eka-vacana* крыху адрозьніваецца і таму мае асобную назву – *sambuddhi*:

*he nára*! – о чалавек!
*he nárau*! – о два чалавекі!
*he nárāḥ* – о людзі!

Формы закліку не ўтвараюць новай вібгакті, гэта тая самая першая вібгакті.

## Узор

| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
|---|---|---|---|
| *prathamā* | **náraḥ** | **nárau** | **nárāḥ** |
| *dvitīyā* | **náram** | **nárau** | **nárān** |
| *āmantritam* | **he nára!** | **he nárau!** | **he nárāḥ!** |

## Нарадак слоў

Парадак слоў у санскрыце амаль цалком свабодны, у бальшыні выпадкаў ад перамены месцаў слоў сэнс сказа не зьмяняецца:
*náraḥ nṛpám vadati = nṛpám náraḥ vadati = vádati náraḥ nṛpám = vádati nṛpám náraḥ*

Тым ня менш, ёсьць звычайны, нэўтральны парадак слоў: дзейнік – дачын – дзеяслоў:
*náraḥ nṛpám vadati, náraḥ āhārám khādati*

## Слоўнік

*khād – khā́dati* – есьці
*pac – pácati* – гатаваць
*āhārá* – ежа
*he* – о!

## Практыкаваньне 1

1. *náraḥ āhārám pacati*
2. *nṛpaú āhārám khādataḥ*
3. *vádāmaḥ pacāmaḥ ca*
4. *he nára sī́dasi āhārám ca pacasi*
5. *āhārám pacathaḥ nṛpaú ca ná khādataḥ*
6. *he nṛ́pāḥ nárāḥ āhārám pacanti khā́danti ca*
7. *nárau sī́dataḥ āhārám ca pacataḥ*
8. *náram vadāmi āhārám ca khādāmi*
9. *āhāráḥ ná khādati ná ca pacati*

## Нрактыкаваньне 2

1. Людзі гатуюць ежу ды ядуць.
2. Я гавару князю (да-князя).
3. О чалавеча, ты сядзіш і не гатуеш ежу.
4. О два чалавекі, вы седзіце і гаворыце.
5. Чалавек гаворыць, а князь есьць ежу.
6. Князь есьць ежу і гаворыць чалавеку (да-чалавека).
7. Мы гатуем, а князі не ядуць ежу.
8. Людзі гатуюць ежу, а мы не ямо.
9. Мы двое сядзім і гаворым двум князём (да-двух-князёў).

## Заданьне

1. Вывучыць назвы месцаў і высілкаў маўленьня.
2. Вывучыць вымаўленьне змычных зычных.
3. Вывучыць напісаньне літараў першых дзесяці змычных зычных.
4. Вывучыць узоры спражэньня і скланеньня.
5. Вывучыць новыя граматычныя тэрміны.
6. Зрабіць практыкаваньні.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

## 1. Antaḥ-stha

Пасьля змычных (*sparśa*) у альфабэтным парадку сьледуюць паўгалосныя – *antaḥ-stha* “прамежкавыя”. Паўгалосныя лёгка ўтварыць, сказаўшы пасьля простых галосных гук *a*: *i+a → ya*, *ṛ+a → ra*, *ḷ+a → la*, *u+a → va*. Паколькі спалучэньне *a+a* утварае не паўгалосны, а галосны *ā*, іх усяго чатыры:

*ya*, *ra*, *la*, *va*

Паўгалосныя ўтвараюцца пры амаль-закрыцьці роту (*īṣat-spṛṣṭa*). Яны звонкія (*ghoṣavat*), мала-дыхавыя (*alpa-prāṇa*). Паўгалосныя (акрамя *ra*) могуць быць і неназалізаванымі (*an-anunāsika*), і назалізаванымі (*anunāsika*).

*ẙ̃, l̊̃, v̊̃*

## Ūṣman

Пасьля паўгалосных сьледуюць шыпенныя – *ūṣman* (“жар”). Шыпенныя ўтвараюцца пры амаль-адкрыцьці рота (*īṣad-vivṛta*), утварэньні шчыліны, аб якую трэцца паветра. Яны глухія (*aghoṣa*), моцна-дыхавыя (*mahā-prāṇa*) і неназалізаваныя (*an-anunāsika*). У альфабэт уваходзяць тры ўшманы: *śa* (сярэднянёбны), *ṣa* (верхнянёбны) і *sa* (зубны). Два другія ўшманы – *xa* (*jihvāmūlīya*) і *fa* (*upadhmānīya*) – не ўваходзяць у альфабэт, бо зьяўляюцца пазіцыйнымі адменамі вісаргі.

*śa*    *ṣa*    *sa*

## Ha-kāra

Назвы літараў утвараюцца з дапамогай афікса -*kāra*. Так, літара *ka* называецца *ka-kāra*, а назва *i* гучыць як *i-kāra*. Апошні гук альфабэту – *ha-kāra* – асаблівы. Ён утвараецца ў ніжнім нёбе (*kaṇṭha*) пры амальадкрыцьці роту (*īṣad-vivṛta*), ён моцна-дыхавы (*mahā-prāṇa*), не-назалізаваны (*an-anunāsika*), але прыгэтым звонкі (*ghoṣavat*).

*ha*

## Varṇa-mālā

Альфабэт называецца словам *varṇa-mālā* “вянок формаў”. Альфабэт санскрыту ўяўляе сабою дакладную клясіфікацыю фанэмаў:
*a ā i ī u ū ṛ ṝ ḷ ḹ e ai o au aṃ aḥ*
*ka kha ga gha ṅa*
*ca cha ja jha ña*
*ṭa ṭha ḍa ḍha ṇa*
*ta tha da dha na*
*pa pha ba bha ma*
*ya ra la va*
*śa ṣa sa*
*ha*

## 2. Пісьмо




## 3. Kāракі

Удзельнік чыну, што найбольш спрыяе дзейніку (*kartṛ*) ў дасягненьні дачыну (*karman*), называецца *karaṇa* “сродак”. Так, у сказе “Чалавек есьць рукою” сродкам зьяўляецца рука. Але ў сказе “Ежа гатуецца чалавекам” чалавек зьяўляецца дзейнікам, а ня сродкам. Наступнаю kāракай зьяўляецца *sampradāna* “атрымальнік” – той удзельнік чыну, які атрымлівае яго вынік. У сказе “Чалавек гатуе ежу для князя” князь зьяўляецца

сампрадāнай. Той удзельнік чыну, што зьяўляецца адпраўною кропкаю руху, называецца *apādāna* “адпраўнік, аддаўца”. У сказе “Чалавек ідзе ад князя” князь зьяўляецца апāдāнай.

## Ужываньне формы ў сэнсе

Ужываньне формы ў пэўным сэнсе называецца *prayoga*. Так, напрыклад, калі дзеяслоў ужываецца ў сэнсе дзейніка, гэта *kartari-prayoga* “ужываньне ў дзейніку”. Калі дзеяслоў ужываецца ў сэнсе дачыну, гэта *karmaṇi-prayoga* “ужываньне ў дачыне”. Калі ж дзеяслоў ужываецца ў сэнсе чыну самога па сабе ды не азначае ані дзейніка, ані дачыну – гэта *bhāve-prayoga* “ужываньне ў быцьці”. У сказе “Чалавек гатуе ежу” дзеяслоў ужываецца ў сэнсе дзейніка, а ў сказе “Ежа гатуецца чалавекам” дзеяслоў азначае дачын. У сказе “Чалавекам сядзіцца” дзеяслоў не азначае ні дачыну, ні дзейніка, але толькі быцьцё, чын сам па сабе.

## Parasmai-pada і ātmane-pada

Усе канчаткі дзеяслова (18 *tiṄ*) падзяляюцца на дзьве часткі (9+9). Кожны зь першых дзевяці канчаткаў называецца *parasmai-pada* “крок да іншага” і ўжываецца ў сэнсе дзейніка (*kartari-prayoga*). Кожны з другіх дзевяці называецца *ātmane-pada* “крок да сябе” і ўжываецца ў сэнсе дачыну (*karmaṇi-prayoga*) ці быцьця, дзеяньня самога па сабе (*bhāve-prayoga*). Узор дзеяслова з канчаткамі *parasmai-pada* ужо вывучаны ў мінулым занятку.

## Vikaraṇa

Пры ўжываньні ў сэнсе дзейніка пасьля кораня (*dhātu*) ставяцца канчаткі *parasmai-pada*, а потым пасьля кораня перад канчаткам ставіцца адмысловы ўказальны афікс, што ня мае свайго сэнсу, але ўдакладняе сэнс іншага афікса (*vikaraṇa*) – *-a-*: *pac-ti* → *pác-a-ti.*

Пры ўжываньні ў сэнсе дачыну ці быцьця пасьля кораня ставяцца канчаткі *ātmane-pada*, а потым пасьля кораня перад канчаткам ставіцца вікараṇа *-ya-*: *pac-te* → *pac-yá-te.*

| *ātmanepadāni – karmaṇi* | | | |
|---|---|---|---|
| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
| *prathama-puruṣa* | **pacyáte** | **pacyéte** | **pacyánte** |
| *madhyama-puruṣa* | **pacyáse** | **pacyéthe** | **pacyádhve** |
| *uttama-puruṣa* | **pacyé** | **pacyā́vahe** | **pacyā́mahe** |

## Асаблівасьці

Да іншых каранёў афіксы *ātmane-pada* і *ya* дадаюцца гэтаксама:
*khād – khādyáte* – зьядаецца
*sad – sadyáte* – сядзіцца

Але ў некаторых ёсьць асаблівасьці:
*vad → vad-te → vad-ya-te → udyáte* – гаворыцца

Асаблівасьці бываюць і пры даданьні афіксаў *parasmai-pada*:
*gam – gam-ti → gam-a-ti → gácchati* – ідзе

## Tṛtīyā

Трэцяя (*tṛtīyā*) тройца канчаткаў *sŭP* ужываецца ў сэнсе сродка (*karaṇa*):
*nárah hástena khādati* – Чалавек есьць рукою.

Таксама трэцяя вібгакті ўжываецца ў сэнсе дзейніка (*kartṛ*), калі дзеяслоў азначае дачын (*karman*) ці быцьцё (*bhāva*):
*āhārāḥ nárena pacyate* – Ежа гатуецца чалавекам.

## Caturthī, pañcamī

Чацьвертая (*caturthī*) вібгакті ўжываецца ў сэнсе *sampradāna*, атрымальніка і выніку:
*nárah nṛpā́ya pacati* – Чалавек гатуе для князя.

Пятая (*pañcamī*) вібгакті ўжываецца ў сэнсе *apādāna*, кропкі адпраўленьня ці прычыны:

*náraḥ nṛpā́t gacchati* – Чалавек ідзе ад князя.
*náraḥ nṛpā́t pacati* – Чалавек гатуе “ад князя” (той загадаў).

*a*-канцавая аснова мужчынскага роду *nára*

| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
|---|---|---|---|
| *prathamā* | **náraḥ** | **nárau** | **nárāḥ** |
| *dvitīyā* | **náram** | **nárau** | **nárān** |
| *tṛtīyā* | **náreṇa** | **nárābhyām** | **náraiḥ** |
| *caturthī* | **nárāya** | **nárābhyām** | **nárebhyaḥ** |
| *pañcamī* | **nárāt** | **nárābhyām** | **nárebhyaḥ** |
| *āmantritam* | **he nára!** | **he nárau!** | **he nárāḥ!** |

## Sandhi

Зьмены, якія адбываюцца пры злучэньні гукаў у маўленьні, называюцца *sandhi*. Правілы сандгі забясьпечваюць прыгажосьць і лёгкасьць вымаўленьня. Сандгі паміж словамі – неабавязковыя, а ўнутры словаў – абавязковыя. Прыкладам, у слове *náreṇa* гук *n* ператварыўся ў *ṇ*, а ў слове *hástena* – не, бо існуе адмысловае правіла:

У межах аднаго слова замест *n* мае быць *ṇ* пасьля *r*, *ṛ* і *ṣ*, нават калі паміж імі стаіць любы галосны, *ka-varga* ці *pa-varga*.
Таму: *náreṇa*, *āhāréṇa*, *nṛpéṇa;* **але**: *hástena*, *áśvena*

## Слоўнік

*gam – gácchati* – ісьці, рушыць
*áśva* – конь
*sahá* – з, разам з (ужываецца пасьля слова ў форме тṛтīйā)
*hásta* – рука

## Практыкаваньне 1

1. *náraḥ hástena khādati*
2. *nṛpébhyaḥ āhārám pacāmaḥ*
3. *āhārā́ḥ náreṇa pacyate nṛpā́ya*

4. *nṛpaíḥ sadyate khā́dyate ca*
5. *he nára nṛpā́t gacchasi nṛpā́ya ca pacasi*
6. *áśvena āhāráḥ khādyate*
7. *nárāt nṛpám áśvena gacchatha*
8. *sī́dāvaḥ hástaiḥ ca āhārám khādāvaḥ*
9. *nṛpaú náraiḥ sahá áśvābhyām gacchataḥ*

## Практыкаваньне 2

1. Коньмі зьядаецца ежа.
2. Два князі едуць двума коньмі.
3. Чалавекам гатуецца ежа для коней.
4. Чалавек з канём ідзе да князя.
5. Князямі сядзіцца і гаворыцца.
6. Конь ідзе ад чалавека да ежы.
7. Княжа, людзьмі гатуецца ежа, а канямі зьядаецца.
8. Конь ідзе ад чалавека да князя дзеля ежы.
9. Мы гаворым і ямо ежу дзьвюма рукамі.

## Заданьне

1. Вывучыць вымаўленьне паўгалосных і шыпенных гукаў.
2. Вывучыць напісаньне літараў ад *ṭa* да *na*.
3. Вывучыць новыя граматычныя тэрміны.
4. Вывучыць узоры спражэньня і скланеньня.
5. Зрабіць практыкаваньні.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

# 1. Вышыня тону

У санскрыце галосны можа мецъ тры вышыні тону:
1. *udātta* “узьняты” – *á*
2. *anudātta* “няўзьняты” – *a*
3. *svarita* “звонкі” – *à*

Аднак гэтыя тры таны – фанэматычныя, а не фанэтычныя азнакі. Іх назвы – не інструкцыі на вымаўленьне. Звычайна ў слове ўсе галосныя маюць быць анудāтта, акрамя аднаго (які ўдāтта або сваріта). Таму ўдāтта- ці сваріта-галосны можна назваць “націскным”, а астатнія – “ненаціскнымі”.

## Націск у імёнах

Даведацца, які галосны ў слове націскны, можна са слоўніка. Асновы *nára*, *áśva* маюць націск на першы склад, а *nṛpá*, *āhārá* – на апошні. Афіксы *sŭP* звычайна ненаціскныя, таму склонавыя формы маюць націск на аснову: *nárāt*, *nṛpā́ya*. Але ў клічным ужываньні націск заўсёды прыпадае на пачатак (*he nṛ́pa*).

Ніпāты *ná* і *sahá* маюць націск, а ніпāта *ca* ня мае. Націск некаторых словаў невядомы, бо яны не сустракаюцца ў ведавых тэкстах і пра іх утварэньне няма адмысловых правілаў граматыкі. Прыклад такога слова – ніпāта *he*! “гей!”

## Націск у дзеясловах

Формы дзеясловаў, якія мы вывучылі, маюць націск на першы склад: *vádati*, *khā́dati*, *sī́dati*, *gácchati*.

Але націск у *karmaṇi-prayoga* мае быць на вікараṇу *-ya-*: *khādyáte*, *pacyáte*.

Дзеясловы маюць націск толькі на пачатку сказа ці пасьля дзеяслова, а пасьля іншага слова губляюць: *vádati nárah*, *pácati vádati ca*, **але**: *nárah vadati*.

## Правілы вымаўленьня тону

Ёсьць тры правілы, якія апісваюць зьмены тонаў пры вымаўленьні слоў:
1. анудāтта перад удāттай ці сварітой мае стаць ніжэйшаю (*sannatara*) на адзін тон. Калі гэта пачатак сказу – то ўсе анудāтты ад яго пачатку (*nṟpáḥ, ā̱hā̱ráḥ);*
2. анудāтта пасьля ўдāтты мае стаць чыстай (*śuddha*) сварітой (*náràḥ*);
3. анудāтта пасьля сваріты мае стаць манатоннай (*ekaśruti*), такой як удāтта (*vádàti, pácàti nṟpā́yà*).

Атрымліваюцца тры “ноты”: сярэдняя (*udātta*, *ekaśruti*), ніжэйшая (*sannatara*) і вышэйшая (*śuddha*).

## Вымаўленьне сваріты

Ёсьць дзьве сваріты: прыроджаная (*jātya*) і чыстая (*śuddha*). Першая ўтвараецца пры словаўтварэньні і пазначаецца ў слоўніках, а другая ўзьнікае толькі ў вымаўленьні. Вымаўленьне прыроджанае сваріты – пераход голасу зьверху ўніз (на адзін тон), вымаўленьне чыстае сваріты – пераход голасу зьнізу ўверх (на адзін тон).

## 2. Пісьмо



pa pha ba bha ma



ya ra la va




## 3. Kārakі

Удзельнік чыну, што зьяўляецца яго апораю, месцам, называецца *adhikaraṇa* “субстанцыя”.

Такім чынам, у санскрыце ёсьць шэсьць кāракаў:
1. *kartṛ* – чыньнік
2. *karman* – дачын
3. *karaṇa* – сродак
4. *sampradāna* – атрымальнік
5. *apādāna* – адпраўнік
6. *adhikaraṇa* – месца
Дзеяньне само па сабе называецца *bhāva* “быцьцё”.

## Тры віды каранёў

Пры ўжываньні ў сэнсе дзейніка (*kartari-prayoga*) карані (*dhātu*) падзяляюцца на тры віды:
1. *parasmai-padin* – пасьля іх у сэнсе дзейніка ставяцца канчаткі *parasmai-pada*. У слоўніку яны пазначаюцца літарай *P*. Напрыклад: *vad P*. – гаварыць.
2. *ātmane-padin* – пасьля іх у сэнсе дзейніка ставяцца канчаткі *ātmane-pada*. У слоўніку яны пазначаюцца літарай *A*. Напрыклад: *labh A*. – атрымліваць, браць.
3. *ubhaya-padin* – пасьля іх у сэнсе дзейніка могуць быць і канчаткі *parasmai-pada*, і *ātmane-pada*. У слоўніку яны пазначаюцца літарамі *P.A*. або літарай *U*. Напрыклад: *pac P.A*. – гатаваць.

Пры ўжываньні ў сэнсе дачыну (*karman*) пасьля ўсіх каранёў ставяцца толькі канчаткі *ātmane-pada*.

## Ātmane-padin

Пасьля каранёў гэтай групы ў сэнсе дзейніка ставяцца канчаткі *ātmane-pada*, а потым пасьля кораня перад канчаткам ставіцца вікараṇа *-a-*:
*labh → labh-te → lábh-a-te* – бярэ

А пры ўжываньні ў сэнсе дачыну ставіцца вікараṇа *-ya-*:
*labh-te → labh-yá-te* – бярэцца

| | *ātmanepadāni – labh 1 A.* | | |
|---|---|---|---|
| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
| *prathama-puruṣa* | **lábhate** | **lábhete** | **lábhante** |
| *madhyama-puruṣa* | **lábhase** | **lábhethe** | **lábhadhve** |
| *uttama-puruṣa* | **lábhe** | **lábhāvahe** | **lábhāmahe** |

## Ubhaya-padin

Пасьля каранёў гэтае групы ў сэнсе дзейніка ставяцца канчаткі *parasmai-pada*, калі плод чыну дастаецца іншаму. Калі ж плод чыну дастаецца самому дзейніку, пасьля іх маюць быць канчаткі *ātmane-pada*. Напрыклад:
*náraḥ pacati* – чалавек гатуе (напр., для князя)
*náraḥ pacate* – чалавек гатуе (для сябе)

## Sa-karmaka, a-karmaka, dvi-karmaka

Дзеясловы, што маюць дачын, называюцца *sa-karmaka* “дачынавыя”:
*vánam gacchati* – Ідзе ў лес.

Дзеясловы, што ня маюць дачыну, называюцца *a-karmaka* “бездачынавыя”:
*váne vasati* – Жыве ў лесе.

У некаторых каранёў могуць быць адразу два дачыны. Такія карані называюцца *dvi-karmaka* “двудачынавыя”. Напрыклад, корань *pac* “гатаваць” можа мець за дачын і тое, што гатуецца, і тое, што з гэтага гатуецца:
*náraḥ phálāni āhārám pacati* – Чалавек гатуе ежу з пладоў (ператварае плады ў ежу)

## Ṣaṣṭhī, saptamī

Шостая (*ṣaṣṭhī*) вібгакті дадаецца да асноваў імёнаў у сэнсе сувязі (*sambandha*), а ня ў сэнсе кāракі:
*nṛpásya áśvaḥ* – конь князя
*nárasya āhārā́ḥ* – ежа чалавека

*Ṣaṣṭhī*-канцавыя словы як правіла ставяцца перад словам, ад якога сэнсава залежаць.

Сёмая (*saptamī*) вібгакті дадаецца да асноваў імёнаў у сэнсе месца (*adhikaraṇa*):
*váne vasati* – жыве ў лесе
*vṛkṣé sīdati* – сядзіць на дрэве

*a*-канцавая аснова мужчынскага роду *nára*

| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
|---|---|---|---|
| *prathamā* | **náraḥ** | **nárau** | **nárāḥ** |
| *dvitīyā* | **náram** | **nárau** | **nárān** |
| *tṛtīyā* | **nárena** | **nárābhyām** | **náraiḥ** |
| *caturthī* | **nárāya** | **nárābhyām** | **nárebhyaḥ** |
| *pañcamī* | **nárāt** | **nárābhyām** | **nárebhyaḥ** |
| *ṣaṣṭhī* | **nárasya** | **nárayoḥ** | **nárāṇām** |
| *saptamī* | **náre** | **nárayoḥ** | **náreṣu** |
| *āmantritam* | **he nára!** | **he nárau!** | **he nárāḥ!** |

## Род

Санскрыцкія імёны ўжываюцца ў сэнсе роду (*liṅga*). Сэнсы роду – гэта мужчына (*puman*), жанчына (*strī*) і нішчына, то бок ні мужчына, ні жанчына (*napuṃsaka*). Адпаведна словы ў сэнсе мужчыны называюцца *puṃ-liṅga*, словы ў сэнсе жанчыны – *strī-liṅga*, а словы ў сэнсе нішчыны – *napuṃsaka-liṅga*. У слоўніку род імені пазначаецца звычайна лацінскімі літарамі *m*. (мужчынскі), *f*. (жаночы), *n*. (ніякі) або скарачэньнямі *pu*., *strī*. і *na*. на Дэванāгарī. Каб правільна ўтвараць формы імёнаў,

важна знаць іх род. Імёны мужчынскага роду з асновай на *-a* маюць такія самыя формы, як *nára*. Імёны ніякага роду з асновай на *-a* маюць такія самыя формы, як *phála*.

*a*-канцавая аснова ніякага роду *phála*

| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
|---|---|---|---|
| *prathamā* | **phálam** | **phále** | **phálāni** |
| *dvitīyā* | **phálam** | **phále** | **phálāni** |
| *tṛtīyā* | **phálena** | **phálābhyām** | **phálaiḥ** |
| *caturthī* | **phálāya** | **phálābhyām** | **phálebhyaḥ** |
| *pañcamī* | **phálāt** | **phálābhyām** | **phálebhyaḥ** |
| *ṣaṣṭhī* | **phálasya** | **phálayoḥ** | **phálānām** |
| *saptamī* | **phále** | **phálayoḥ** | **phálеṣu** |
| *āmantritam* | **he phála!** | **he phále!** | **he phálāni!** |

## Слоўнік

*edh A. – édhate* – расьці
*labh A. – lábhate* – браць, атрымліваць
*vas P. – vásati* – жыць, сяліцца – *uṣyáte* – жывецца
*phála n.* – плод
*vána n.* – лес
*vṛkṣá m.* – дрэва

## Практыкаваньне 1

1. *nárāḥ phálāni vánеṣu labhante*
2. *váne vṛkṣā́ḥ edhante nárāḥ ca ná vasanti*
3. *nṛpásya áśvaḥ nárasya āhārám khādati*
4. *nṛpéṇa sahá váne sīdathaḥ vádathaḥ ca*
5. *nṛpaíḥ nárāṇām phálāni labhyante*
6. *náraḥ váne vasati vṛkṣā́ṇām ca phálāni khādati*
7. *nárasya áśvena nṛpásya vánam gamyate*
8. *nárau vṛkṣásya phálāni labhete āhārám ca pacete*
9. *vánam gacchāmi phálāni labhe āhārám ca pace*

## Практыкаваньне 2

1. Князь бярэ плады ад чалавека.
2. Два чалавекі гатуюць сабе ежу з пладоў.
3. Людзі жывуць у лесе і гатуюць плады дрэваў для князя.
4. Коні людзей ходзяць па лесе князя і ядуць плады.
5. Дрэвы растуць у лесе, а на дрэвах растуць плады.
6. Людзьмі сярод дрэваў гатуецца ежа з пладоў.
7. Мы з канём ідзём у лес і бяром плады дрэваў.
8. Княжа, ты жывеш у лесе і гатуеш плады.
9. Плады бяруцца ў двух лясох і гатуюцца людзьмі.

## Заданьне

1. Вывучыць правілы вымаўленьня тонаў.
2. Вывучыць напісаньне літараў ад *pa* да *ha*.
3. Вывучыць новыя граматычныя тэрміны.
4. Вывучыць узоры спражэньня і скланеньня.
5. Зрабіць практыкаваньні.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

# ЗАДАНЬНІ НА САМАПРАВЕРКУ 1

## I. Адказаць на нытаньні і выканаць заданьні:

1. Як называецца пісьмо санскрыту?
2. Прачытайце на памяць альфабэт санскрыту.
3. Якія ёсьць месцы вымаўленьня гукаў санскрыту?
4. Пералічэце вонкавыя і нутраныя высілкі вымаўленьня.
5. Што такое *visarga* і *anusvāra*? У якіх выпадках яны сустракаюцца?
6. Якімі санскрыцкімі тэрмінамі называюцца аснова і афікс?
7. Што такое пада?
8. Што такое *sŭP* і *tiṄ*?
9. Што такое вібгакті? Колькі вібгакті ў санскрыцкай граматыцы?
10. Што такое кāрака? Якія кāракі вы ведаеце? Якімі вібгакті яны звычайна выражаюцца?
11. Чым адрозьніваюцца афіксы *prathama-*, *madhyama-* і *uttama-puruṣa*?
12. Што такое *prayoga*? Якія прайоґі вы ведаеце?
13. Які звычайны парадак слоў у санскрыцкім сказе?
14. Што такое *vikaraṇa*?
15. Што такое *dhātu*? Якія віды дгāту ёсьць у санскрыце?
16. Якія роды і лікі ёсьць у санскрыце?
17. Колькі фанэматычных таноў у санскрыце?
18. Як фанэматычныя таны зьмяняюцца ў маўленьні?

## II. Пастаўце словы ў дужках у належную форму і неракласьці сказы:

*1. (áśva) nṛpā́t āhārám labhante*
*2. váne (nára) phálāni khādyante*
*3. nṛpaú vṛkṣā́t áśvam (gam)*
*4. (nára) nṛpā́ya āhārám ná pacasi*
*5. áśvāḥ (nṛpá) váneṣu gacchanti*
*6. náram gacchāmi phálāni ca (labh)*
*7. váne (áśva) sahá nárāḥ vasanti*
*8. nṛpéṇa váne (gam)*

*9. (nará) phálāni pacathaḥ khā́dathaḥ ca*
*10. áśvena (nára) vṛkṣā́t phálāni labhyante*

**III. Перафразаваць сказы так, каб дзеяслоў быў у *karmaṇi*- або *bhāve-prayoga*:**

1. *náraḥ phálāni khā́dati*
2. *áśvau vánam gacchataḥ*
3. *váneṣu vṛkṣā́ḥ edhante*
4. *nárāḥ váne ná vasanti*
5. *nṛpaú vṛkṣásya phálāni labhete khā́dataḥ ca*

**IV. Перафразаваць сказы так, каб дзеяслоў быў у *kartari-prayoga*:**

1. *āhārā́ḥ nárena khādyate*
2. *nṛpéṇa váne uṣyate*
3. *nárābhyām vṛkṣásya phálāni labhyante*
4. *áśvābhyām nárāt vánam gamyate*
5. *náraiḥ āhārā́ḥ pacyate*

❁❁❁

## 1. Ші́ва-сӯтры

Галоўным аўтарытэтам граматыкі санскрыту зьяўляецца твор настаўніка *Pāṇini – Aṣṭādhyāyī* “Восем узыходаў”. Твор Па̄ṇіні складаецца прыблізна з 4000 сӯтраў (*sūtra*) – кароткіх правілаў – і мае таксама дадатковыя часткі, першай зь якіх зьяўляюцца Ші́ва-сӯтры, або *varṇa-samāmnāya* “альфабэт фанэмаў”. Лічыцца, што Ші́ва-сӯтры адкрыў Па̄ṇіні сам бог Ші́ва, зьявіўшыся ў выглядзе Наṭара̄джы, бога танцу. Гукі яго барабана (*ḍamaru*) сталі 14 сӯтрамі, што паклалі пачатак граматыцы Па̄ṇіні. Ші́ва-сутры ўжываюцца, каб утвараць сьціслыя граматычныя тэрміны (*pratyāhāra*).

1. *a i u Ṇ*
2. *ṛ ḷ K*
3. *e o Ṅ*
4. *ai au C*
5. *ha ya va ra Ṭ*
6. *lå Ṇ*
7. *ña ma ṅa ṇa na M*
8. *jha bha Ñ*
9. *gha ḍha dha Ṣ*
10. *ja ba ga ḍa da Ś*
11. *kha pha cha ṭha tha ca ṭa ta V*
12. *ka pa Y*
13. *śa ṣa sa R*
14. *ha L*

### Іты

У санскрыцкай граматыцы выкарыстоўваюцца адмысловыя граматычныя пазнакі – *іты*. Іт падобны да тэґа ў праграмаваньні. Іт дамацоўваецца перад ці пасьля граматычнай адзінкі, таму яго называюць яшчэ *anubandha* “прывязка”. Іты існуюць толькі ў граматыцы, але ня ў мове. Іты адрозьніваюцца ад іншых гукаў паводле правілаў: звычайна іт – гэта назалізаваны галосны або канцавы зычны (а часам і пачатковы). Кожны канцавы зычны ў Ші́ва-сӯтрах – іт. Галосны *å* ў сӯтры *låṆ* –

таксама іт. Усе падкрэсьленыя галосныя пасьля зычных у Ш́іва-сӯтрах нічога ня значаць – яны толькі дзеля вымаўленьня зычных. У гэтым падручніку для зручнасьці навучаньня зычныя-іты будуць пазначацца вялікімі літарамі, а галосныя дзеля вымаўленьня – падкрэсьліваньнем.

## Pratyāhāra

Слова *pratyāhāra* азначае “сьцягваньне“. У санскрыцкай граматыцы пратйа̄га̄ры – гэта адмысловыя тэрміны, што ўтвараюцца скарачэньнем раду да пачатковай адзінкі і канцавога іта. Так, скарачэньне *aC* азначае ўсе галосныя. А скарачэньне *haL* – усе зычныя. Скарачэньне *iK* – усе простыя галосныя акрамя *a*. Скарачэньне *jaŚ* – усе звонкія змычныя непрыдыхальныя. Вось некаторыя з найбольш ужываных пратйа̄га̄раў: *aK*, *aṆ*, *yaṆ*, *uK*, *eṄ*, *caR*, *chaV*, *jhaL*, *raL*, *śaR*, *haŚ*, *haL*, *khaR*, *jaŚ*, *baŚ*

## Savarṇa

Гукі, што маюць аднолькавы нутраны высілак і аднолькавае месца вымаўленьня, называюцца *savarṇa* “аднаякаснымі”. Так, саварṇамі адзін да аднаго зьяўляюцца гукі *k*, *kh*, *g*, *gh*, *ṅ*. Гэтаксама саварṇамі зьяўляюцца 18 гукаў *a* (кароткія, доўгія, праціяглыя, удāтта, анудāтта, сваріта, назалізаваныя, неназалізаваныя). У Ш́іва-сӯтрах няма доўгіх галосных, таму што галосныя гукі *aṆ* азначаюць ня толькі сябе, але і ўсе свае саварṇы.

## 2. Virāma

Дэванāгарī – складовае пісьмо. Гэта значыць, што адзінкай выяўленьня тут зьяўляецца ня гук, а склад. Кожная літара, што азначае зычны гук, азначае і галосны *a*. Каб выявіць зычны без галоснага, выкарыстоўваецца знак *virāma* “спын” пад вэртыкальнай рысай:

क ka क् k

## Галосныя насьля зычных

Літары, што азначаюць галосныя гукі, могуць ужывацца толькі на пачатку слова. Пасьля зычных галосныя выяўляюцца інакш: у выглядзе дыякрытычных знакаў над, пад ці збоку зычных. Некаторыя спалучэньні зычных і галосных утвараюць на пісьме адмысловыя складаныя знакі – ліґатуры.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| क | ka | का | kā | कि | ki | की | kī |
| कु | ku | कू | kū | कृ | kṛ | कॄ | kṝ |
| कॢ | kḷ | कॣ | kḹ | के | ke | कै | kai |
| को | ko | कौ | kau | कं | kaṃ | कः | kaḥ |

### Ліґатуры

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| रु | ru | रू | rū | हु | hu | हू | hū |
| रृ | rṛ | रॄ | rṝ | हृ | hṛ | हॄ | hṝ |
| रॢ | rḷ | रॣ | rḹ | हॢ | hḷ | हॣ | hḹ |
| लृ | lṛ | लॄ | lṝ | शृ | śṛ | शॄ | śṝ |
| | | दृ | dṛ | | | | |

## Анунāсіка

Назалізацыя галоснага ці паўгалоснага перадаецца знакам *candrabindu* “месяц з кропкаю” над літарай:

क ka कँ kȁ

## Націскі

У залежнасьці ад галіны ведавай традыцыі ў пісьме Дэванāґарī ўжываюцца розныя сістэмы пазначэньня вышыні тонаў. Найбольш вядомая – сістэма, ужываная ў Ṛґ-ведзе, дзе пазначаюцца толькі фанэтычныя націскі. Удāтта і экаш́руті ніяк не пазначаюцца, саннатара пазначаецца рысай зьнізу, а сваріта – рысай зьверху:

क ká क॑ kà क॒ ka

## 3. Vṛtti

У санскрыцкай граматыцы існуе працэдура *vṛtti* “згортваньне і разгортваньне”. Утварэньні, што могуць быць прадстаўленыя больш простымі ўтварэньнямі, разглядаюцца як іх згортваньні. Напрыклад, утварэньне *pācáyati* можна прадставіць як *páktum prérayati* “пабуджае гатаваць”, а утварэньне *pā́caka* можна патлумачыць як *pácati íti* “той, хто гатуе, дзейнік гатаваньня”. Гэта значыць, што афіксы, якія ўтвараюць дадзеныя словы, можна разглядаць як згортваньні ці скарачэньні сэнсаў “пабуджэньня” (пабуджаць гатаваць) і “дзейніка” (дзейнік гатаваньня). Такім чынам, *vṛtti* у граматыцы санскрыту займае месца словаўтварэньня.

## Пяць згортаў

Ёсьць пяць *vṛtti* – згортваньняў ці скарачэньняў:

1. *dhātu-vṛtti* – утварэньне вытворных каранёў (*dhātu*)
2. *kṛd-vṛtti* – утварэнне асноваў імёнаў (*prātipadika*) першаснымі афік-

самі (*kṛt*) ад каранёў
3. *taddhita-vṛtti* – утварэньне асноваў імёнаў (*prātipadika*) другаснымі афіксамі (*taddhita*) ад асноваў імёнаў
4. *samāsa-vṛtti* – утварэньне асноваў імёнаў (*prātipadika*) складаньнем словаў (*samāsa*)
5. *ekaśeṣa-vṛtti* – утварэньне формаў парнага і множнага лікаў

## Нершасныя і вытворныя карані

Першасныя карані ў граматыцы санскрыту пералічаюцца ў *Dhātu-pāṭha* "Пераліку каранёў". Вытворныя карані ўтвараюцца як скарачэньне словазлучэньняў. Гэта могуць быць злучэньні дзеясловаў – такія, як "хоча гатаваць", "змушае гатаваць" – або злучэньні імёнаў і дзеясловаў – такія, як "хоча сабе сына", "паводзіць сябе як сын". Галоўны дзеяслоў словазлучэньня замяняецца на афікс, а падпарадкаваны дзеяслоў ці імя стае асноваю: *pac-sa*, *pac-i*, *putra-i*.

Тое, што сканчаецца на такія коранеўтваральныя афіксы, таксама называецца *dhātu* (коранем) і можа ўтвараць усе формы дзеяслова:
*pípakṣati* – хоча гатаваць
*pācáyati* – змушае гатаваць
*putrīyáti* – хоча сабе сына

## Hetu

Дзейнік (*kartṛ*), што прымушае іншага дзейніка быць дзейнікам, называецца *hetu* "прычыньнік, імпульс". У сэнсе прычыньніка пасьля каранёў дадаецца афікс *ṆiC*. Афікс *ṆiC* ужываецца як скарачэньне сэнсу "змушае, пабуджае". Пачатковы гук *Ṇ* і канчавы гук *C* у афіксе – іты, маркеры. Сам афікс складаецца з аднаго гука *i*. Пасьля далучэньня да вытворнага кораня канчаткаў таксама адбываюцца пэўныя зьмены гукаў:
*pac+ṆiC → pāc-í*
*pācí+ti → pācí+a+ti → pācé-a-ti → pācáy-a-ti*
*pácati* – гатуе
*pācáyati* – змушае гатаваць

## Узоры

Усе *ṆiC*-канцавыя карані належаць да тыпу *ubhaya-padin*:
*edh – edhí – edháyati* – змушае расьці, росьціць, гадуе
*gam – gamí – gamáyati* – змушае ісьці
*pac – pācí – pācáyati*, *-te* – змушае гатаваць
*labh – lambhí – lambháyati*, *-te* – змушае ўзяць, дае
*vad – vādí – vādáyati*, *-te* – змушае гаварыць
*vas – vāsí – vāsáyati*, *-te* – змушае жыць, селіць
*sad – sādí – sādáyati*, *-te* – змушае сесьці, садзіць

## Kartṛ i hetu

Для пазначэньня "прымушанага" дзейніка маюць ужывацца канчаткі трэцяй вібгакті:
*náraḥ odanám pacati* – чалавек гатуе кашу
*nṛpáḥ nāreṇa odanám pācayati* – князь змушае чалавека гатаваць кашу

Але ў выпадку каранёў, што маюць сэнс руху (*gam*), разуменьня (*man*), яды (акрамя *khād*), што маюць за дачын гук або слова (*vad*) ці ўвогуле ня маюць дачыну (*sad*), пасьля прымушанага дзейніка маюць быць канчаткі другой вібгакті:
*náraḥ grā́mam gacchati* – чалавек ідзе ў вёску
*nṛpáḥ náram grā́mam gamayati* – князь пасылае, вядзе чалавека ў вёску (пабуджае ісьці)

## Karmaṇi-prayoga

Як і іншыя карані, *ṆiC*-канцавыя могуць ужывацца ў сэнсе дачыну (*karman*) ці чыну самога па сабе (*bhāva*). Як і ў выпадку першасных каранёў, да кораня ў такім разе дадаюцца канчаткі *ātmane-pada*, пасьля кораня перад канчаткамі ставіцца вікараṇа *yaK* (*ya*). Аднак перад вікараṇаю *yaK* афікс *ṆiC* зьнікае, замяняецца на ненаяўнасьць (*lopa*):
*pāci+te → pāci+yáK+te → pāc-yá-te* – змушаецца гатаваць
*gami+te → gami+yáK+te → gam-yá-te* – змушаецца ісьці

## Узоры

*edhí – edháyati – edhyáte* – змушаецца расьці, гадуецца
*gamí – gamáyati – gamyáte* – змушаецца ісьці
*pācí – pācáyati – pācyáte* – змушаецца гатаваць
*lambhí – lambháyati – lambhyáte* – змушаецца ўзяць
*vādí – vādáyati – vādyáte* – змушаецца гаварыць
*vāsí – vāsáyati – vāsyáte* – змушаецца жыць, сяліцца
*sādí – sādáyati – sādyáte* – змушаецца сесьці

Пры супадзеньні з формамі, утворанымі ад першасных каранёў (напрыклад, як у *gam-*), сэнс вызначаецца з кантэксту.

## Gaṇa

Карані, што пералічваюцца ў *Dhātu-pāṭha*, падзяляюцца на дзесяць групаў (*gaṇa*). Кожная група называецца паводле першага кораня ў групе. Першая група пачынаецца з кораня *bhū* "быць", таму яе карані называюцца *bhv-ādi*, то бок "*bhū*-загалоўныя". Дзесяць групаў розьняцца тым, якая вікараṇа ставіцца пасьля кораня перад афіксамі *tiṄ* пры іх ужываньні ў сэнсе дзейніка (*kartari-prayoga*). Паводле агульнага правіла пасьля ўсіх каранёў у такім разе мае быць афікс *ŚaP*. Гукі *Ś* і *P* тут – іты, сам жа афікс складаецца з аднаго гука *a*. Гэтае правіла працуе для першае ґаṇы, астатнія ж ґаṇы ўтвараюцца як выняткі з гэтага правіла.

## Bhvādi

Усе дзеясловы, якія мы вывучылі дагэтуль, належаць да першай групы – *bhvādi,* ці *bhū*-загалоўных. Пасьля гэтых каранёў перад канчаткамі *tiṄ* паводле агульнага правіла ставіцца вікараṇа *ŚaP*. Маркер *P* у *ŚaP* азначае, што ён ня мае націску:
*pac+tiP → pac+ŚaP+tiP → pác-a-ti* – гатуе

Гэтае ж правіла працуе і ў выпадку *ṆiC*-канцавых каранёў:
*pac+ṆiC+tiP → pac+ṆiC+ŚaP+tiP → pācáy-a-ti* – змушае гатаваць

## Tudādi

Пасьля каранёў шостай групы – *tud-ādi* – перад канчаткамі *tiṄ* ставіцца вікараṇа *Śa*. Гук *Ś* зьяўляецца ітам. Афікс *Śa* адрозьніваецца ад *ŚaP* тым, што мае ўдāтту – г.зн., націск у дзеясловаў шостай групы мае быць на вікараṇу *Śa*:
*tud+tiP → tud+Śa+tiP → tudáti* – б'е
*iṣ+tiP → iṣ+Śa+tiP → iccháti* – хоча

## Divādi

Пасьля каранёў чацьвертай групы – *div-ādi* – перад канчаткамі *tiṄ* ставіцца вікараṇа *ŚyaN*. Гукі *Ś* і *N* зьяўляюцца ітамі. Сам афікс складаецца з гукаў *ya*. Маркер *N* патрабуе націску на пачатак вытворнага слова – г.зн., націск у дзеясловаў чацьвертай групы мае быць на пачатак кораня:
*tuṣ+tiP → tuṣ+ŚyaN+tiP → túṣ-ya-ti* – радуецца

## Curādi

Дзясятая група каранёў – *cur-ādi* – асаблівая тым, што не ўтварае формаў дзеяслова ад першасных каранёў. Замест гэтага яна ўтварае вытворныя карані з дапамогаю афікса *ṆiC*, якія прыгэтым не атрымваюць значэньня "пабуджаць", "змушаць". Пасьля гэтых вытворных каранёў перад афіксамі *tiṄ* паводле агульнага правіла ставіцца вікараṇа *ŚaP*. Формы дзеясловаў групы *curādi* такія самыя, як і ў *ṆiC*-канцавых каранёў. Пры ўтварэньні формаў *karmaṇi-prayoga* афікс *ṆiC* таксама мае зьнікнуць:
*cur+ṆiC → corí, corí+tiP → corí+ŚaP+tiP → coráy-a-ti* – крадзе
*cori+te → corí+yaK+te → cor-yá-te* – крадзецца

## Слоўнікавая форма

У слоўніках, арыентаваных на заходняга чытача, група дзеяслова пазначаецца лічбай ад 1 да 10. У санскрыцкіх слоўніках, арыентаваных на традыцыйнага чытача, група пазначаецца скарачэньнем яе назвы:

*vad* 1 *P*. – гаварыць – *vad*. *bhvā*. *pa*. – гаварыць
*tuṣ* 4 *P*. – радавацца – *tuṣ di*. *pa*. – радавацца

| *lảṬ – iṣ 6 P.* – хацець | | | *lảṬ – tuṣ 4 P.* – радавацца | | |
|---|---|---|---|---|---|
| *kartari* | | | *kartari* | | |
| **iccháti** | **icchátaḥ** | **icchánti** | **túṣyati** | **túṣyataḥ** | **túṣyanti** |
| **icchási** | **iccháthaḥ** | **iccháthа** | **túṣyasi** | **túṣyathaḥ** | **túṣyatha** |
| **icchā́mi** | **icchā́vaḥ** | **icchā́maḥ** | **túṣyāmi** | **túṣyāvaḥ** | **túṣyāmaḥ** |

| *lảṬ – cur 10 P.A.* – красьці | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| *kartari* | | | *karmaṇi / bhāve* | | |
| **coráyati** | **coráyataḥ** | **coráyanti** | **coryáte** | **coryéte** | **coryánte** |
| **coráyasi** | **coráyathaḥ** | **coráyatha** | **coryáse** | **coryéthe** | **coryádhve** |
| **coráyāmi** | **coráyāvaḥ** | **coráyāmaḥ** | **coryé** | **coryā́vahe** | **coryā́mahe** |

## Strī-liṅga

Словы жаночага роду (*strī-liṅga*) часта ўтвараюцца ад словаў мужчынскага з дапамогаю адмысловых афіксаў, якія прынята называць *strī-pratyaya*. Адзін з такіх афіксаў – *ṬāP* (*ā*). Напрыклад, слова *bā́la* значыць “дзіцё, хлопчык”. Слова ж *bā́lā* значыць “дзяўчынка” і ўтвараецца так: *bā́la*+*ṬāP*.

| *ā*-канцавая аснова жаночага роду *bā́lā* | | | |
|---|---|---|---|
| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
| *prathamā* | **bā́lā** | **bā́le** | **bā́lāḥ** |
| *dvitīyā* | **bā́lām** | **bā́le** | **bā́lāḥ** |
| *tṛtīyā* | **bā́layā** | **bā́lābhyām** | **bā́lābhiḥ** |
| *caturthī* | **bā́lāyai** | **bā́lābhyām** | **bā́lābhyaḥ** |
| *pañcamī* | **bā́lāyāḥ** | **bā́lābhyām** | **bā́lābhyaḥ** |
| *ṣaṣṭhī* | **bā́lāyāḥ** | **bā́layoḥ** | **bā́lānām** |
| *saptamī* | **bā́lāyām** | **bā́layoḥ** | **bā́lāsu** |
| *āmantritam* | **he bā́le!** | **he bā́le!** | **he bā́lāḥ!** |

## Слоўнік

*iṣ* 6 *P*. – *icch//áti* – хацець
*cur* 10 *P.A*. – *coráyati*, *-te* – красьці
*tuṣ* 4 *P*. – *túṣyati* – радавацца, здавальняцца
*tú* – але (ставіцца пасьля слова)
*bā́la m*. – дзіця, хлопчык
*bā́lā f*. – дзяўчынка, дзяўчына

## Нрактыкаваньне 1

1. *náraḥ áśvam vánāt gamayati*
2. *bā́lāḥ náreṇa āhārám pācayanti*
3. *nṛpáḥ váne náraiḥ phálāni lambhayati*
4. *váne nárāḥ nṛpásya áśvān corayanti*
5. *bā́lā vṛkṣā́ṇām phálāni labhate áśvaiḥ ca khādayati*
6. *bā́le vṛkṣé sīdataḥ túṣyataḥ ca*
7. *náraḥ bā́lām phálam lambhayati*
8. *bā́layoḥ vṛkṣaú váne edhete*
9. *aśvaḥ bā́lāyāḥ āhārám icchati ná tú lambhyate*

## Нрактыкаваньне 2

1. Чалавек у лесе бярэ плады дрэва для дзяўчыны.
2. Дзяўчына і чалавек кормяць (змушаюць есьці) каня пладамі.
3. Князь змушае людзей ісьці ў лес і зьбіраць плады.
4. Чалавек садзіць (змушае сесьці) дзяўчыну на каня, а дзяўчына радуецца.
5. Чалавек крадзе плады з дрэва ды корміць (пабуджае есьці) дзяўчыну.
6. Мы прымушаемся гатаваць ежу князем.
7. Ты ня хочаш плода дрэва ад чалавека.
8. Князь змушае людзей гатаваць ежу для коней.
9. Чалавек вырошчвае (змушае расьці) плады на дрэвах.

## Заданьне

1. Вывучыць на памяць Ш́іва-сӯтры і навучыцца чытаць пратйа̄га̄ры.
2. Навучыцца пісаць галосныя пасьля зычных.
3. Вывучыць утварэньне *ṆiC*-канцавых каранёў і іх спражэньне.
4. Навучыцца спрагаць дзеясловы чатырох групаў (*bhvādi*, *divādi*, *tudādi*, *curādi*).
5. Вывучыць на памяць узор скланеньня слова *bā́lā*.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

## 1. Ta-para

Галосныя ў Ш́іва-сӯтрах азначаюць усе свае саварṇы. Так, галосны *a* азначае ўсе 18 адменаў *a*. Але доўгі *ā* не ўваходзіць у Ш́іва-сӯтры і таму азначае толькі самога сябе. Каб стварыць тэрміны, што называюць галосныя паводле часу гучаньня, пасьля галоснага ўжываецца маркер *T*. Галосны з такім маркерам называецца *ta-para*. Так, тэрмін *aT* азначае 6 кароткіх *a* (удāтта, анудāтта, сваріта, назалізаваныя, неназалізаваныя), а тэрмін *āT* – шэсьць доўгіх *ā*:

*aT* = *a á à a̐ á̐ à̐* | *āT* = *ā ā́ ā̀ ā̐ ā́̐ ā̀̐*

## uD-it

Для ўтварэньня назваў, што аб’ядноўваюць саварṇы зычных, ужываецца маркер *u* (*uD-it* – кароткі *u* як іт). Так, тэрмін *ku̐* азначае ўсе саварṇы фанэмы *k* – г.зн., *k*, *kh*, *g*, *gh*, *ṅ*. Такім чынам утвараюцца пяць тэрмінаў:

*ku̐* = *k*, *kh*, *g*, *gh*, *ṅ*
*cu̐* = *c*, *ch*, *j*, *jh*, *ñ*
*ṭu̐* = *ṭ*, *ṭh*, *ḍ*, *ḍh*, *ṇ*
*tu̐* = *t*, *th*, *d*, *dh*, *n*
*pu̐* = *p*, *ph*, *b*, *bh*, *m*

## Guṇa, vṛddhi

Тэрмін *guṇa* азначае *aT* і *eṄ* – г.зн., кароткія *a*, а таксама *e* і *o*. Тэрмін *vṛddhi* азначае *āT* і *aiC* – г.зн., доўгія *ā*, а таксама *ai* і *au*. Слова *guṇa* азначае “якасьць”, а слова *vṛddhi* – “рост”.

| | | | |
|---|---|---|---|
| *guṇa* | **a** | **e** | **o** |
| *vṛddhi* | **ā** | **ai** | **au** |

## Замена

Замена (*ādeśa*) адбываецца на месцы замесьціва (*sthānin*). Ёсьць тры важныя правілы пра замену, што ўжываюцца тады, калі ўзьнікае сумнеў,

што на што замяняць:
1. Замена мае быць найбольш блізкаю да замесьціва (паводле месца і высілкаў вымаўленьня).
2. Замена раўнакολькасных радоў адбываецца па парадку (першы на першы, другі на другі і г.д.).
3. Калі гукі *ṛ* і *ḷ* замяняюцца на гукі *a*, *i*, *u*, апошнія маюць быць *r*- і *l*-наступнымі (г.зн., вынікам будуць *ar* / *al*, *ir* / *il*, *ur* / *ul*).

## Замена iK на guṇa і vṛddhi

Калі замяніць гукі *iK* (г.зн., простыя галосныя *i*, *u*, *ṛ*, *ḷ*) на *guṇa* ці *vṛddhi*, ужываючы пералічаныя правілы, атрымаецца наступная табліца:

| *iK* | **–** | **i** | **u** | **ṛ** | **ḷ** |
|---|---|---|---|---|---|
| *guṇa* | **a** | **e** | **o** | **ar** | **al** |
| *vṛddhi* | **ā** | **ai** | **au** | **ār** | **āl** |

## aC-sandhi

Калі гукі збліжаюцца ў маўленьні больш чым на палову меры (*mātrā*), адбываецца іх злучэньне – *sandhi*. Некаторыя гукі пры гэтым зьмяняюцца адносна іншых. Гэтыя зьмены ў маўленьні апісваюцца правіламі сандгі. Злучэньні галосных з галоснымі называюцца *aC-sandhi*. Правілы сандгі атрымліваюць назвы паводле выніку правіла.

## ya̲Ṇ-sandhi

1. Замест *iK* перад *aC* мае быць *ya̲Ṇ*.

Гэта значыць, што замест *i*, *u*, *ṛ*, *ḷ* перад усімі галоснымі мае быць найбольш блізкі да іх *ya̲Ṇ* – *y*, *v*, *r*, *l*:

| | | |
|---|---|---|
| *i+a → ya* | *u+a → va* | *ṛ+a → ra* |
| *ī+ā → yā* | *ū+ā → vā* | *ṝ+ā → rā* |
| | *ḷ+a → la* | |

Напрыклад:
*iti+atra → i**ty** atra*, *kuru+atra → kur**v** atra*, *kartṛ+atra → kart**r** atra*

## Ayādi-sandhi

2. Замест *eC* перад *aC* маюць быць *ay*, *av*, *āy*, *āv*.

Гэта значыць, замест гукаў *e*, *o*, *ai*, *au* перад усімі галоснымі маюць быць замены *ay*, *av*, *āy*, *āv* па парадку:

| | |
|---|---|
| *e+a → aya* | *ai+a → āya* |
| *o+a → ava* | *au+a → āva* |

Напрыклад:
*ne+ana → n**ay**ana*, *nai+aka → n**āy**aka*, *lo+ana → l**av**ana*, *lau+aka → l**āv**aka*

## Lopa-sandhi

Гэта правіла сандгі працуе толькі паміж падамі (словамі) і зьяўляецца неабавязковым, адменным:

Замест пада-канцавых *v*, *y* пасьля *a* перад *aC* можа адменна быць *lopa* (ненаяўнасьць):

| | |
|---|---|
| *ay a → a a* | *āy a → ā a* |
| *av a → a a* | *āv a → ā a* |

Далейшае сандгі не адбываецца, бо лопа лічыцца для яго нязьдзейсьненай.

Напрыклад:
*agne+iha → agn**ay** iha* / *agn**a** iha*
*guro+iha → gur**av** iha* / *gur**a** iha*
*nadyai+atra → nady**āy** atra* / *nady**ā** atra*
*gurau+atra → gur**āv** atra* / *gur**ā** atra*

## 2. Saṃyoga

Злучэньне зычных у маўленьні называецца *saṃyoga*. Паколькі зычныя разам з галоснымі ўтвараюць склады, у складовым пісьме Дэванāгарī саṃйогі перадаюцца асаблівымі знакамі, ліґатурамі. Ліґатураў многа, але яны ўтвараюцца паводле правілаў.

क् k + स sa → क्स ksa

## Паўформа

Пры ўтварэньні ліґатуры папярэдняя літара зводзіцца да сваёй паўформы. Прыгэтым літара звычайна проста адкідае сваю вэртыкальную рысу (што некалі, магчыма, азначала гук *a*).

स् + क → स्‍ + क → स्क

## Гарызантальныя і вэртыкальныя паўформы

Большыня літараў утвараюць паўформы, адкідаючы вэртыкальную рысу ці скарачаючы правы “хвост”:

क्‍ ख्‍ ग्‍ घ्‍ च्‍ ज्‍ झ्‍ ञ्‍ ण्‍ त्‍ थ्‍ ध्‍ न्‍ प्‍ फ्‍ ब्‍

भ्‍ म्‍ य्‍ ल्‍ व्‍ श्‍ ष्‍ स्‍ ह्‍

Некаторыя літары ня могуць адкінуць вертыкальную рысу і ўтвараюць паўформу праз памяншэньне літары ці замену на іншы знак:

ङ छ ट ठ ड ढ द

र → र्

## Гарызантальныя ліґатуры

Літары, што маюць гарызантальныя паўформы, утвараюць гарызантальныя ліґатуры. Гарызантальныя ліґатуры могуць зьмяшчаць некалькі знакаў.

ग् g + म ma → ग्म gma

त् t + क ka → त्क tka

त् t + स् s + व va → त्स्व tsva

## Вэртыкальныя ліґатуры

Літары, што маюць вэртыкальныя паўформы, утвараюць вэртыкальныя ліґатуры. Прыгэтым наступная зычная літара падпісваецца пад папярэдняю, ужываючы яе як верхнюю рысу. Пад верхняю літарай можа ўтварыцца цэлая гарызантальная ліґатура:

ट् ṭ + व va → ट्व ṭva

ड् ḍ + ढ ḍha → ड्ढ ḍḍha

ट् ṭ + त् t + स sa → ट्त्स ṭtsa

## Ліґатуры з ra

Калі літара र апынаецца папярэдняй у ліґатуры, яна зводзіцца да знака *repha*, што выяўляецца хвастом зьверху. Калі ж *repha* апынаецца ў ліґатуры наступнаю, яна выяўляецца рыскаю збоку, прычым пішацца паразнаму ў вэртыкальных і гарызантальных ліґатурах:

र् r + ग ga → र्ग rga

ग् g + र ra → ग्र gra

ट् ṭ + र ra → ट्र ṭra

## Асаблівасьці

Бальшыня лігатураў будуецца паводле правілаў. Але некторыя лігатуры ўтвараюць устойлівыя спалучэньні, якія ня так і лёгка расчытаць зь першага разу. Іх трэба запомніць:

श् ś + च ca → श्च śca

त् t + त ta → त्त tta

ह् h + व va → ह्व hva

Каб навучыцца пісаць лігатуры, трэба запомніць і некалькі разоў выпісаць наступны пералік:

क्क kka   क्च kca   क्त kta   क्त्य ktya

क्त्र ktra   क्त्र्य ktrya   क्त्व ktva   क्न kna

क्न्य knya   क्म kma   क्य kya   क्र kra

क्र्य krya   क्ल kla   क्व kva   क्व्य kvya

क्ष kṣa   ङ्क ṅka   ङ्क्य ṅkya   ङ्क्त ṅkta

ङ्क्त्य ṅktya   ङ्ङ ṅṅa   ङ्य ṅya   च्च cca

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| च्ञ | cña | छ्य | chya | ज्ज | jja | ज्ञ | jña |
| ञ्च | ñca | ञ्च्य | ñcya | ञ्ज | ñja | ञ्ज्य | ñjya |
| ट्य | ṭya | ठ्य | ṭhya | ड्ग | ḍga | ड्ग्य | ḍgya |
| त्त | tta | त्त्य | ttya | त्त्र | ttra | त्त्व | ttva |
| त्न | tna | त्न्य | tnya | त्र | tra | त्र्य | trya |
| द्ग | dga | द्ग्र | dgra | द्घ | dgha | द्घ्र | dghra |
| द्द | dda | द्द्य | ddya | द्ध | ddha | द्ध्य | ddhya |
| द्न | dna | द्ब | dba | द्भ | dbha | द्भ्य | dbhya |
| द्म | dma | द्य | dya | द्र | dra | द्र्य | drya |
| द्व | dva | द्व्य | dvya | न्त्र | ntra | न्त्र्य | ntrya |
| प्त | pta | प्त्य | ptya | प्ल | pla | ब्ज | bja |
| ब्ब | bba | ब्व | bva | म्ल | mla | ल्ल | lla |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| व्व | vva | श्च | śca | श्च्य | ścya | श्न | śna |
| श्य | śya | श्र | śra | श्र्य | śrya | श्ल | śla |
| श्व | śva | श्व्य | śvya | श्श | śśa | ष्ट | ṣṭa |
| ष्ट्य | ṣṭya | ष्ट्र | ṣṭra | ष्ट्र्य | ṣṭrya | ष्ट्व | ṣṭva |
| ष्ठ | ṣṭha | स्त्र | stra | स्न | sna | स्न्य | snya |
| स्र | sra | ह्ण | hṇa | ह्म | hma | ह्य | hya |
| ह्र | hra | ह्ल | hla | ह्व | hva | ह्व्य | hvya |

## Адмены ліґатураў

Некаторыя ліґатуры маюць адмены напісаньня. Некаторыя адмены больш пераважныя, а некаторыя аднолькава правільныя:

क् k + क ka → क्क / क्‍क kka

श् ś + ल la → श्ल / श्‍ल śla

## 3. saN

Афікс *saN* дадаецца да каранёў у сэнсе “хацець”. Тое, што сканчаецца на афікс *saN*, таксама называецца коранем (*dhātu*). Канцавы гук *N* зьяўляецца ітам і патрабуе, каб націск у вытворнага кораня быў на

пачатак. Перад афіксам *saN* адбываецца падваеньне першага складу кораня і іншыя замены. Пасьля вытворнага кораня дадаюцца такія ж канчаткі (*parasmaipada* і *ātmanepada*), як і пасьля першаснага кораня. *saN*-канцавы корань называюць *saN-anta*:
*pac+saN → pac-pac+sa → pa-pac+sa → pípakṣa*
*pípakṣa+tiP → pípakṣa+ŚaP+tiP → pípakṣati* – хоча гатаваць

## Sārvadhātuka і ārdhadhātuka

Усе афіксы, што ставяцца пасьля кораня, падзяляюцца на дзьве групы:
1. *sārvadhātuka* – так называюцца афіксы *tiṄ* (канчаткі дзеяслова) і *Śit* (у якіх ёсьць *Ś* як іт)
2. *ārdhadhātuka* – усе засталыя

Напрыклад, афіксы *ŚaP*, *Śa* і *ŚyaN* – *sārvadhātuka*. А афіксы *saN* і *ṆiC* – *ārdhadhātuka*.

## Дадатак iṬ

Перад усімі *vaL*-пачатковымі *ārdhadhātuka*-афіксамі мае быць дадатак (*āgama*) *iṬ*. Так, дадатак *iṬ* ставіцца перад афіксам *saN*. Пасьля яго *s* замяняецца на *ṣ*:
*vad+saN → vad+i-sa → vívadiṣa.*

## SeṬ, aniṬ, veṬ

Карані санскрыту падзяляюцца на тры групы:
1. *seṬ* – карані, пасьля якіх дадатак *iṬ* ставіцца. Напрыклад, *vad* – *vívadiṣa* – *vívadiṣati*.

2. *aniṬ* – карані, пасьля якіх дадатак *iṬ* ня ставіцца. Напрыклад, *pac* – *pípakṣa* – *pípakṣati*.

3. *veṬ* – карані, пасьля якіх дадатак *iṬ* ставіцца неабавязкова. Напрыклад, (у выпадку афікса *saN*) *gam* – *jígāṃsa* / *jígamiṣa* – *jígāṃsate* / *jígamiṣati*.

## Узоры

*khād – cíkhādiṣa – cíkhādiṣati* – хоча есьці
*gam – jígāṃsa / jígamiṣa – jígāṃsate / jígamiṣati* – хоча ісьці
*tuṣ – tútukṣa – tútukṣati* – хоча радавацца
*pac – pípakṣa – pípakṣati, -te* – хоча гатаваць
*labh – lípsa – lípsate* – хоча ўзяць
*vad – vívadiṣa – vívadiṣati* – хоча гаварыць
*vas – vívatsa – vívatsati* – хоча жыць
*sad – síṣatsa – síṣatsati* – хоча сядзець

## Афіксы tiṄ

Тэрмін *tiṄ* – гэта пратйāгāра, скарачэньне васямнаццаці афіксаў: *tiP*, *tas*, *jhi*, *siP*, *thas*, *tha*, *miP*, *vas*, *mas*, *ta*, *ātām*, *jha*, *thās*, *āthām*, *dhvam*, *iṬ*, *vahi*, *mahiṄ*.

*parasmai-pada*

| | | |
|---|---|---|
| **tiP** | **tas** | **jhi** |
| **siP** | **thas** | **tha** |
| **miP** | **vas** | **mas** |

*ātmane-pada*

| | | |
|---|---|---|
| **ta** | **ātām** | **jha** |
| **thās** | **āthām** | **dhvam** |
| **iṬ** | **vahi** | **mahiṄ** |

## L-афіксы

Васямнаццаць афіксаў *tiṄ* зьяўляюцца замест афікса *l* (*la-kāra*). Ёсьць дзесяць афіксаў *l*. Яны ставяцца пасьля кораня пры некаторай зьмене яго сэнсу: у сэнсе часу (мінулага, цяперашняга, будучага) ці стаўленьня да чыну (загаду, дабраславеньня, умовы). *L*-афіксы можна таксама разглядаць як згорты больш складанага сэнсу (напр., “будзе рабіць” і “хоча рабіць”).

*L*-афіксы адрозьніваюцца адзін ад аднаго толькі ітамі:
*lăṬ, lĭṬ, lŭṬ, lṛ̆Ṭ, lĕṬ, lŏṬ, lăṄ, lĭṄ, lŭṄ, lṛ̆Ṅ* (6 афіксаў зь ітам *Ṭ* і 4 афіксы зь ітам *Ṅ*, пералічаныя ў альфабэтным парадку).

## lăṬ

Афікс *lăṬ* дадаецца пасьля кораня пры ўмове сэнсу цяперашняга (*vartamāna*) часу (*kāla*). Усе формы дзеясловаў, якія мы вывучылі дагэтуль, маюць афікс *lăṬ*:
*vad+lăṬ → vad+tiP → vad+ŚaP+tiP → vád-a-ti* – гаворыць (цяпер)

## lăṄ

Афікс *lăṄ* дадаецца пасьля кораня пры ўмове сэнсу нясёньняшняга (*anadyatana*) мінулага (*bhūta*) часу (*kāla*). Афіксы *parasmaipada*, што зьяўляюцца замест афікса *lăṄ*, даволі моцна зьмяняюцца:

| *parasmai-pada* | | |
|---|---|---|
| **-t** | **-tām** | **-an** |
| **-s** | **-tam** | **-ta** |
| **-am** | **-va** | **-ma** |

## Дадатак aṬ

Да пачатку кораня перад афіксам *lăṄ* дадаецца дадатак *aṬ*, які мае быць удāттавым:
*vad+lăṬ → vad+t → vad+ŚaP+t → a-vad+a+t → ávadat* – сказаў (ня сёньня)

*lăṄ – parasmaipadāni – vad 1 P.*

| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
|---|---|---|---|
| *prathamā-puruṣa* | **ávadat** | **ávadatām** | **ávadan** |
| *madhyama-puruṣa* | **ávadaḥ** | **ávadatam** | **ávadata** |
| *uttama-puruṣa* | **ávadam** | **ávadāva** | **ávadāma** |

## Nadī

Словы жаночага роду (*strī-liṅga*) часта ўтвараюцца таксама афіксамі *ṄīP* і *ṄīṢ*. Гукі *Ṅ*, *P* і *Ṣ* тут – іты, самі ж афіксы складаюцца толькі з гука *ī*. Так, слова *nadī́* "рака" ўтвараецца ад слова *nadá* "ручай".

*ī*-канцавая аснова жаночага роду *nadī́*

| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
|---|---|---|---|
| *prathamā* | **nadī́** | **nadyaù** | **nadyàḥ** |
| *dvitīyā* | **nadī́m** | **nadyaù** | **nadī́ḥ** |
| *tṛtīyā* | **nadyā́** | **nadī́bhyām** | **nadī́bhiḥ** |
| *caturthī* | **nadyaí** | **nadī́bhyām** | **nadī́bhyaḥ** |
| *pañcamī* | **nadyā́ḥ** | **nadī́bhyām** | **nadī́bhyaḥ** |
| *ṣaṣṭhī* | **nadyā́ḥ** | **nadyóḥ** | **nadī́nām** |
| *saptamī* | **nadyā́m** | **nadyóḥ** | **nadī́ṣu** |
| *āmantritam* | **he nádi!** | **he nádyau!** | **he nádyaḥ!** |

## Viśeṣaṇa

Сэнс аднаго слова можа быць вызначэньнем, відазьмяненьнем сэнсу іншага слова. Слова, што вызначае, называецца *viśeṣaṇa* "выдзяленьне, азначэньне", а слова, што вызначаецца, называецца *viśeṣya* "выдзеленае, азначанае". Так, напрыклад, у словазлучэньнях
*álpā bā́lā* – маленькая дзяўчына
*álpā nadī́* – маленькая рака
слова *álpa* – *viśeṣaṇa*, а словы *bā́lā* і *nadī́* – *viśeṣya*. У вызначальнага і вызначанага слова афікс той самай вібгакті. Але ж не аднолькавая форма!

## Strī-liṅga

Паводле агульнага правіла ад *a*-канцавых імёнаў форма жаночага роду ўтвараецца афіксам *ṬāP*:
*álpa* – маленькі, *álpa*+*ṬāP* → *álpā* – маленькая

Але ад некаторых *a*-канцавых імёнаў форма жаночага роду ўтвараецца афіксамі *ṄīP* ці *ṄīṢ*:
*súndara* – прыгожы, *súndara*+*ṄīṢ* → *sandarī́* – прыгожая

У санскрыцкіх слоўніках імёны, што могуць ужывацца ў сэнсе ўсіх трох радоў, паказваюцца так:
*álpa mfn* – маленькі
*súndara mf*(*ī*)*n* – прыгожы

## Kriyā-viśeṣaṇa

Азначэньне (*viśeṣaṇa*) адносна дзеяньня (*kriyā*) называецца *kriyā-viśeṣaṇa*. Такое імя звычайна мае форму ніякага роду і адзіночнага ліку:
*álpam vadati* – мала гаворыць

## Слоўнік

*sthā* 1 *P*. – *tíṣṭhati* – стаяць, знаходзіцца (*ṆiC* – *sthāpí*, *saN* – *tíṣṭhāsa*)
*álpa mfn* – маленькі
*grā́ma m*. – вёска
*nadī́ f.* – рака
*nā́rī f.* – жанчына
*samīpá n*. – блізіня
*súndara mf*(*ī́*)*n* – прыгожы

## Практыкаваньне 1

1. *nā́rī āhārám nṛpā́ya apacat*
2. *nárāḥ álpāt vánāt nadī́m agacchan*
3. *áśvau grā́masya samīpé váne avasatām*
4. *álpāyām nadyā́m súndaraḥ vṛkṣáḥ tiṣṭhati*
5. *nárau álpāni phálāni lipsete pípakṣataḥ ca*
6. *vṛkṣáyoḥ phálāni apacāma āhārám ca akhādāma*
7. *nadyóḥ samīpé álpau grā́mau atiṣṭhatām*
8. *nṛpáḥ nárān súndare grā́me avāsayat*
9. *vṛkṣā́ṇām súndarāṇi phálāni acorayaḥ ákhādaḥ ca*

## Практыкаваньне 2

1. Князь канём прыйшоў да маленькае ракі.
2. Людзі жылі каля (у блізіні) прыгожае ракі.
3. Князь хацеў есьці, але жанчына не хацела гатаваць ежу.
4. Два чалавекі скралі каня князя.
5. Мы ішлі ад прыгожай ракі да вёскі і радаваліся.
6. Чалавек хацеў ісьці ў вёску, а дзяўчына – сядзець на дрэве.
7. Людзі сядзелі ў вёсцы і прыгожа гаварылі.
8. Прыгожы лес знаходзіўся каля (у блізіні) дзьвюх маленькіх рэкаў.
9. Чалавек хоча пайсьці ў лес і сабраць маленькія плады.

## Заданьне

1. Вывучыць правілы сандгі галосных.
2. Вывучыць правілы ўтварэньня ліґатураў, перапісаць пералік ліґатураў некалькі разоў.
3. Вывучыць утварэньне *saN*-канцавых каранёў.
4. Вывучыць новыя ўзоры спражэньня і скланеньня.
5. Вывучыць новыя словы.
6. Зрабіць практыкаваньні.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

# 1. Ekādeśa

Правілы сандгі, вывучаныя раней, прызначалі замену гука перад ці пасьля іншага гука. Наступныя правілы прызначаюць адну замену (*ekādeśa*) адразу замест папярэдняга і наступнага гукаў.

## Guṇa-sandhi

Замест папярэдпяга *a* і наступнага *iK* мае быць адна ґуṇа:

$$a + i \rightarrow e \qquad a + ṛ \rightarrow ar$$
$$a + u \rightarrow o \qquad a + ḷ \rightarrow al$$

Напрыклад:
*tava+idam → tav**e**dam*, *bālā+idam → bāl**e**dam*, *tava+udakam → tav**o**dakam*, *bālā+udakam → bāl**o**dakam*, *tava+ṛṣiḥ → tav**ar**ṣiḥ*, *mahā+ṛṣiḥ → mah**ar**ṣiḥ*, *atra+ḷkāraḥ → atr**al**kāraḥ*

## Vṛddhi-sandhi

Замест папярэдпяга *a* і наступнага *eC* мае быць адна врḍдгі:

$$a + e \rightarrow ai \qquad a + ai \rightarrow ai$$
$$a + o \rightarrow au \qquad a + au \rightarrow au$$

Напрыклад:
*atra+etat → atr**ai**tat*, *bālā+eṣā → bāl**ai**ṣā*, *deva+aiśvaryam → dev**ai**śvaryam*, *brahma+odanam → brahm**au**danam*, *tava+aupagavaḥ → tav**au**pagavaḥ*

## Savarṇa-dīrgha-sandhi

Замест папярэдпяга *aK* і наступнай яго саварṇы мае быць адзін доўгі:

$$a + a \rightarrow ā \qquad u + u \rightarrow ū$$
$$i + i \rightarrow ī \qquad ṛ / ḷ + ṛ / ḷ \rightarrow ṝ$$

Напрыклад:
*narāya+aśvaḥ* → *narāy**ā**śvaḥ*, *bālā+aśvam* → *bāl**ā**śvam*, *dadhi+iti* → *dadh**ī**ti*, *nadī+iti* → *nad**ī**ti*, *madhu+udakam* → *madh**ū**dakam*, *hotṛ+ṛśyaḥ* → *hot**ṝ**śyaḥ*, *hotṛ+ḷkāraḥ* → *hot**ṝ**kāraḥ*

**Заўвагі:**
1. Гэта вынятак з правіла пра *ya̲N-sandhi*.
2. Гукі *ṛ* і *ḷ* традыцыйна лічацца саварṇамі. Гук *ḷ* ня мае доўгага адпаведніка. Таму ў выніку сандгі *ṛ* / *ḷ* + *ḷ* / *ṛ* заўсёды будзе *ṝ*.

## Pūrva-rūpa-sandhi

Замест папярэдняга пада-канцавога *eṄ* і наступнага *aT* мае быць адзін папярэдні:

*e + aT* → *e*        *o + aT* → *o*

Напрыклад:
*agne+atra* → *agn**e’**tra*
*guro atra* → *gur**o’**tra*

**Заўвага**: правіла дзейнічае толькі паміж падамі.

## Абагульненьне aC-sandhi

| **a** | **i** | **u** | **ṛ** | **ḷ** | **e** | **ai** | **o** | **au** | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *ā* | *ya* | *va* | *ra* | *la* | *e / aya / a a* | *āya / ā a* | *o / ava / a a* | *āva / ā a* | **a** |
| *e* | *ī* | *vi* | *ri* | *li* | *ayi / a i* | *āyi / ā i* | *avi / a i* | *āvi / ā i* | **i** |
| *o* | *yu* | *ū* | *ru* | *lu* | *ayu / a u* | *āyu / ā u* | *avu / a u* | *āvu / ā u* | **u** |
| *ar* | *yṛ* | *vṛ* | *ṝ* | *ṝ* | *ayṛ / a ṛ* | *āyṛ / ā ṛ* | *avṛ / a ṛ* | *āvṛ / ā ṛ* | **ṛ** |
| *al* | *yḷ* | *vḷ* | *ṝ* | *ṝ* | *ayḷ / a ḷ* | *āyḷ / ā ḷ* | *avḷ / a ḷ* | *āvḷ / ā ḷ* | **ḷ** |
| *ai* | *ye* | *ve* | *re* | *le* | *aye / a e* | *āye / ā e* | *ave / a e* | *āve / ā e* | **e** |
| *ai* | *yai* | *vai* | *rai* | *lai* | *ayai / a ai* | *āyai / ā ai* | *avai / a ai* | *āvai / ā ai* | **ai** |
| *au* | *yo* | *vo* | *ro* | *lo* | *ayo / a o* | *āyo / ā o* | *avo / a o* | *āvo / ā o* | **o** |
| *au* | *yau* | *vau* | *rau* | *lau* | *ayau / a au* | *āyau / ā au* | *avau / a au* | *āvau / ā au* | **au** |

## 2. Лічбы




## Знакі прынынку

У пісьме Дэванāґарī выкарыстоўваюцца два знакі прыпынку: *daṇḍa* (।) и *dvi-daṇḍa* (॥). І першы, і другі азначаюць спыненьне мовы, паўзу. Даṇḍа ставіцца ў канцы сказа, а двідаṇḍа – у канцы абзацу. У паэзіі даṇḍа ставіцца ў канцы паўверша, а двідаṇḍа – у канцы верша.

नरः ग्रामम् गच्छति । बला ग्रामे वसति ॥

## Націскі ў Дэванāґарī

Сістэмы пазначэньня націскаў, што ўжываюцца ў розных ведавых галінах, выдатна перадаюць фанэтычную вышыню тону. Аднак пры вывучэньні санскрыту важна запамінаць менавіта марфалягічны націск – удāтту і сваріту. Таму ў гэтым падручніку мы будзем ужываць сваю сістэму пазначэньня націскаў на Дэванāґарī. Рыскаю зьверху будзе пазначацца ўдāтта, рысаю зьнізу – анудāтта (калі гэта патрэбна), а сваріта будзе пазначацца рысаю зьверху і рысаю зьнізу.

नरः → náraḥ, नद्यः → nadyàḥ

## Дадатковыя знакі

ॐ

1. Гэты знак азначае сьвяты склад ОМ.

प्रऽकृतः । वनेऽवदत् ॥

2. Знак ऽ называецца *avagraha*. Традыцыйна ён ужываўся для падзелу складаных слоў, аднак сёньня яго ўжываюць і для таго, каб пазначыць зьніклы *a* пры пӯрва-рӯпа-сандгі.

पतति °ते ॥

3. Знак ° азначае скарачэньне вядомай часткі слова.

## Jihvāmūlīya, upadhmānīya

Вісарґа (*ḥ*) перад *k*, *kh* можа вымаўляцца як *jihvāmūlīya* [*x*], а перад *p*, *ph* як *upadhmānīya* [*f*]. На пісьме гэтыя гукі пазначаюцца дзьвюма гарызантальнымі і вэртыкальнымі дужкамі адпаведна:

नरᳵ खादति (*jihvāmūlīya*) । नरᳶ पचति (*upadhmānīya*) ॥

## Ведавыя знакі

Розныя галіны ведавай традыцыі выкарыстоўваюць розныя знакі для пазначэньня вышыні тонаў і іншых асаблівасьцяў чытаньня ці сьпяваньня гімнаў. Так, у розных галінах сустракаюцца розныя адмены анусва̄ры:



і вісарґі:



Па-рознаму пазначаюцца і таны:

अ॒ अ॒ अ॒ अ अ॒ अ॒ अ᳚ अ᳛ अऽ

У Сāма-ведзе для пазначэньня музычных нотаў выкарыстоўваюцца надрадковыя лічбы і літары:

१ २ ३ र अ प ↑ _ ऽ
अ अ अ अ अ अ अ अ अ

## 3. Āmreḍita

У санскрыце слова можа падвойвацца пры выражэньні сэнсу распраўсюджанасьці, заўсёднасьці і ўзмоцненасьці. Гэта называецца *āmreḍita*. Прыгэтым другое слова губляе свой націск. Напрыклад:
*nárаḥ narаḥ pacati* – Кожны чалавек гатуе.
*nárаḥ pacati pacati* – Чалавек гатуе і гатуе (увесь час гатуе).

## yaṄ

Афікс *yaṄ* утварае вытворныя карані са значэньнем узмоцненасьці ці паўторнасьці дзеяньня. Перад афіксам *yaṄ* адбываецца падваеньне кораня ды іншыя зьмены. Вытворны корань, што сканчаецца на афікс *yaṄ* (*yaṄ-anta*), заўсёды зьяўляецца *ātmane-padin* і апісальна можа быць патлумачаны праз *āmreḍita*. Формы *kartari-* і *karmaṇi-prayoga* у *yaṄ*-канцавых каранёў супадаюць:
*pac+yaṄ* → *pāpacyá*, *pāpacyá+te* → *pāpacyá+ŚaP+te* → *pāpacyáte* = *pácati pacati* – гатуе і гатуе, стараецца гатаваць

## Узоры

*khād* – *cākhādyá* – *cākhādyáte* – есьць і есьць
*gam* – *jaṅgamyá* – *jaṅgamyáte* – ідзе і йдзе
*cur* – *cañcuryá* – *cañcuryáte* – крадзе і крадзе
*tuṣ* – *totuṣyá* – *totuṣyáte* – радуецца і радуецца

*pac – pāpacyá – pāpacyáte* – гатуе і гатуе
*labh – lālabhyá – lālabhyáte* – бярэ і бярэ
*vas – vāvasyá – vāvasyáte* – жыве і жыве
*sad – sāsadyá – sāsadyáte* – сядзіць і сядзіць
*sthā – tāsthāyá – tāsthāyáte* – стаіць і стаіць

## lḁṄ

Канчаткі *ātmanepada*, што зьяўляюцца замест афікса *lḁṄ*, застаюцца нязьменнымі. Перад канчаткамі зьяўляецца адпаведная вікараṇа, а потым перад коранем – дадатак *aṬ*:
*labh+lḁṄ → labh+ta → labh+ŚaP+ta→ á-labh-a-ta* – узяў
*labh+lḁṄ → labh+ta → labh+yaK+ta→ á-labh-ya-ta* – быў узяты

*ātmane-padāni*

| | | |
|---|---|---|
| **-ta** | **-ātām** | **-anta** |
| **-thās** | **-āthām** | **-dhvam** |
| **-i** | **-vahi** | **-mahi** |

## āṬ

Калі корань пачынаецца на зычны, перад афіксам *lḁṄ* ставіцца дадатак *aṬ*. Але калі корань пачынаецца на галосны, перад ім ставіцца дадатак *āṬ*. Вынікам злучэньня *āṬ* і наступнага *aC* заўсёды зьяўляецца врддгі:
*edh+lḁṄ → edh+ta → edh+ŚaP+ta → ā+edh+a-ta → aídhata*
*iṣ+lḁṄ → iṣ+t → iṣ+ŚaP+t → iccha-a-t → ā+iccha+a-t → aícchat*

*lḁṄ – labh 1 A.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| | *kartari* | | |
| *prathama-* | **álabhata** | **álabhātām** | **álabhanta** |
| *madhyama-* | **álabhathāḥ** | **álabhāthām** | **álabhadhvam** |
| *uttama-* | **álabhe** | **álabhāvahi** | **álabhāmahi** |
| | *karmaṇi / bhāve* | | |
| *prathama-* | **ápacyata** | **ápacyātām** | **ápacyanta** |
| *madhyama-* | **ápacyathāḥ** | **ápacyāthām** | **ápacyadhvam** |
| *uttama-* | **ápacye** | **ápacyāvahi** | **ápacyāmahi** |

## su̐P

21 афікс, што дадаецца пасьля асновы імені (*prātipadika*) аб'ядноўваецца ў пратйāгāру *su̐P*. Пасьля адных асноваў яны застаюцца нязьменнымі, пасьля іншых – пэўным чынам зьмяняюцца. Акрамя таго, паміж канцом асновы і пачаткам афіксаў таксама адбываюцца сандгі. Скланеньне імя залежыць ад таго, на што сканчаецца яго аснова, а таксама ад таго, у сэнсе якога роду (*puṃsi*, *striyām*, *napuṃsake*) яно ўжываецца.

| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
|---|---|---|---|
| *prathamā* | **su̐** | **au** | **Jas** |
| *dvitīyā* | **am** | **auṬ** | **Śas** |
| *tṛtīyā* | **Ṭā** | **bhyām** | **bhis** |
| *caturthī* | **Ṅe** | **bhyām** | **bhyas** |
| *pañcamī* | **Ṅasi̐** | **bhyām** | **bhyas** |
| *ṣaṣṭhī* | **Ṅas** | **os** | **ām** |
| *saptamī* | **Ṅi** | **os** | **suP** |

## I- ды u-канцавыя асновы мужчынскага роду

*su̐P*-канцавыя формы ад асноваў мужчынскага роду, што сканчаюцца на -*i* і на -*u*, утвараюцца вельмі падобна, таму іх лепш вучыць разам. У якасьці прыкладу возьмем словы *agní* "агонь" і *gurú* "настаўнік":

*i*-канцавая аснова мужчынскага роду *agní*

| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
|---|---|---|---|
| *prathamā* | **agníḥ** | **agnī́** | **agnáyaḥ** |
| *dvitīyā* | **agním** | **agnī́** | **agnī́n** |
| *tṛtīyā* | **agnínā** | **agníbhyām** | **agníbhiḥ** |
| *caturthī* | **agnáye** | **agníbhyām** | **agníbhyaḥ** |
| *pañcamī* | **agnéḥ** | **agníbhyām** | **agníbhyaḥ** |
| *ṣaṣṭhī* | **agnéḥ** | **agnyóḥ** | **agnī́nām / agnīnā́m** |
| *saptamī* | **agnaú** | **agnyóḥ** | **agníṣu** |
| *āmantritam* | **he ágne!** | **he ágnī!** | **he ágnayaḥ!** |

| *u*-канцавая аснова мужчынскага роду *gurú* | | | |
|---|---|---|---|
| | *eka-vacana* | *dvi-vacana* | *bahu-vacana* |
| *prathamā* | **gurúḥ** | **gurū́** | **gurávaḥ** |
| *dvitīyā* | **gurúm** | **gurū́** | **gurū́n** |
| *tṛtīyā* | **gurúṇā** | **gurúbhyām** | **gurúbhiḥ** |
| *caturthī* | **guráve** | **gurúbhyām** | **gurúbhyaḥ** |
| *pañcamī* | **guróḥ** | **gurúbhyām** | **gurúbhyaḥ** |
| *ṣaṣthī* | **guróḥ** | **gurvóḥ** | **gurū́ṇām / gurūṇā́m** |
| *saptamī* | **guraú** | **gurvóḥ** | **gurúṣu** |
| *āmantritam* | **he gúro** | **he gúrū** | **he gúravaḥ** |

## Iti

Слова *íti* "так" ўжываецца ў санскрыце для выдзяленьня простай мовы ці прыкладу:
*nṛpáḥ gacchati íti náraḥ avadat* – "Князь прыйшоў," – так сказаў чалавек.

## Avyaya, nipāta

У санскрыце ёсьць група асноваў імёнаў, што завуцца нязьменнымі (*avyaya*). Пасьля іх усе канчаткі *sŭP* замяняюцца на лопу ці на адзін афікс. Напрыклад, нязьменнай зьяўляецца *kriyāviśeṣaṇa*:
*súndaram gacchati*

Да нязьменных адносіцца група словаў, што называюцца *nipāta* "устаўка" (часьціца). Нiпāтамі зьяўляюцца словы *ca*, *tú*, *he*, *ná*. Усе нязьменныя словы ў санскрыце лічацца *sŭP*-канцавымі, г.зн., падамі.

## Upasarga, karma-pravacanīya

Сярод нiпāтаў ёсьць група *prādi* "*pra*-загалоўных". Гэта група самых распаўсюджаных "прыназоўнікаў" ці "прыставак". Калі гэтыя словы ўжываюцца ў сувязі з чынам, яны называюцца *upasarga*. Упасаргі звычайна ставяцца перад коранем, але ў Ведах могуць стаяць пасьля і нават аддзяляцца ад кораня іншымі словамі.
*ā́ gacchati* – прыходзіць

Калі зь дзеясловам ужываюцца некалькі ўпасаргаў, то націск захоўвае толькі апошняя зь іх (т.б. найбліжэйшая да дзеяслова):
*sam ā́ gacchati* – сустракаецца, зыходзіцца

Калі *pra*-загалоўныя ўжываюцца ў сувязі з удзельнікамі чыну (*kāraka*), яны называюцца *karma-pravacanīya*:
*ā́ grā́māt* – да вёскі
*ádhi náreṣu* – над людзьмі

## Prādi

| | | | |
|---|---|---|---|
| **prá** | наперад, перад, на | **ní** | у, у сярэдзіну, унутры, уніз |
| **párā** | ад, прэч, асобна | **ádhi** | над, звыш, акрамя |
| **ápa** | ад, прэч, назад, уніз | **ápi** | блізка, каля |
| **sám** | з, разам з | **áti** | пера, звыш, больш |
| **ánu** | за, пасьля, усьлед, уздоўж, блізка, згодна | **sú** | добра, лёгка |
| **áva** | уніз, долу, ад, прэч | **úd** | уверх, зьверху, вонкі, ад |
| **nís / nír** | раз, вы, уразнабоч, прэч, ад, без | **abhí** | да, аб, абапал, каля, блізка, над, сунраць |
| **dús / dúr** | дрэнна, цяжка, складана | **práti** | проці, на, назад, зноў, у адказ |
| **ví** | вы, раз, уразнабоч, асобна, без | **pári** | вакол, аб, каля, цалком |
| **ā́** | да, пры, каля | **úpa** | да, з боку, каля, пад, уніз, менш |

## Прыклады

**prá gacchati**
ідзе наперад, прасоўваецца
**párā gacchati**
адыходзіць, адпраўляецца, памірае

**ní gacchati**
уваходзіць, становіцца
**ádhi gacchati**
пераўзыходзіць, атрымвае, вывучае, набліжаецца

**ápa gacchati**
выходзіць, адпраўляецца, зьнікае
**sám gacchate**
зыходзіцца, сустракаецца, злучаецца
**ánu gacchati**
ідзе за, шукае, пераймае
**áva gacchati**
спускаецца, падыходзіць да, разумее, ведае
**nír gacchati**
зыходзіць, выходзіць
**ví gacchati**
разыходзіцца, зьнікае
**ā́ gacchati**
прыходзіць, зьяўляецца

**ápi gacchati**
падыходзіць, уваходзіць
**áti gacchati**
пераўзыходзіць, выходзіць, мінае
**úd gacchati**
узыходзіць, уздымаецца
**abhí gacchati**
падыходзіць, здабывае, распачынае
**práti gacchati**
ідзе насустрач, назад, вяртаецца
**pári gacchati**
абыходзіць, акружае
**úpa gacchati**
падыходзіць, здараецца, пачынае

## Слоўнік

*dah* 1 *P* – спальваць (*ṆiC – dāhí*, *saN – dídhakṣa*, *yaṄ – dandahyá*)
*sev* 1 *A* – служыць (*ṆiC – seví*, *saN – sísevịṣa*, *yaṄ – seṣevyá*)
*agní m.* – агонь
*íti* – так
*gurú m.* – настаўнік

## Практыкаваньне 1

वृक्षेभ्यः फलानि बाला अलभत ।१।
आहारः नरेण अग्नौ अपच्यत ।२।
नृपः गुरुम् गुरुम् सेषेव्यते ।३।
गुरू ग्रामम् आ गच्छतः इति नार्यौ अवदताम् ।४।
वृक्षौ सुन्दराय अग्नये वने अलभथाः ।५।
आहारम् पापच्यावहे चाखाद्यावहे च ।६।

नद्याः समीपे गुरुणा असद्यत ।७।
वने वने अल्पाः वृक्षाः ऐधन्त ।८।
नरः वृक्षान् अग्निना दन्दह्यते ।९।

## Практыкаваньне 2

1. Князь ідзе за настаўнікам па лесе.
2. Чалавек узяў ад настаўніка плод і вельмі ўзрадаваўся.
3. Ежа была згатаваная жанчынаю і зьедзена канём.
4. Дзьве дзяўчыны сабралі плады для двух настаўнікаў.
5. Кожнае дрэва ў лесе было спалена агнём.
6. Каля двух маленькіх агнёў сустрэліся два прыгожыя кані.
7. Вы сабралі ўсе плады з дрэваў – так сказаў чалавек дзяўчатам.
8. Чалавек хацеў спаліць дрэва, але дрэва не гарэла.
9. Ты ўвесь час зьбіраеш плады і ўвесь час гатуеш ежу.

## Практыкаваньне 3

| | | |
|---|---|---|
| वि + अञ्जन | शान्ति + अमृत | पौ + अक |
| सत्य + आनन्द | नदी + ईश | मधु + आचार्य |
| साधु + ईश | महा + ईश्वर | गुरौ + इन्द्र |
| कर्तृ + ऌकार | नद्यै + एव | कर्तृ + आनन्द |
| अत्र + एव | हस्ते + अस्ति | का + इयम् |
| भू + आदि | विष्णो + आस्य | न + एव |
| आनन्द + एतद् | परम + आत्मन् | शिव + ओदन |
| कपि + इन्द्र | न + इति | गुरु + एकत्व |
| महा + ऋषि | पितृ + आनन्द | अग्ने + ईश्वर |
| हरे + अथ | परम + ईश्वर | |

## Заданьне

1. Вывучыць сандгі галосных і зрабіць практыкаваньне 3.
2. Вывучыць напісаньне лічбаў і дадатковых знакаў.
3. Вывучыць утварэньне *yaṄ*-канцавых каранёў.
4. Вывучыць новыя ўзоры спражэньня і скланеньня.
5. Вывучыць новыя тэрміны і новыя словы.
6. Зрабіць практыкаваньні 1 і 2.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

## 1. Prakṛti-bhāva

Першапачатковы, пратворны стан называецца *prakṛti* “пратвора, прырода”. Зьменены, вытворны стан называецца *vikṛti* “вытвор, выраб”. Калі дзейнічаюць правілы сандгі, адбываецца *vikṛti* “зьмена”. Выпадак, калі правілы сандгі ня дзейнічаюць, называецца *prakṛti-bhāva* – быцьцё ў пратворы, нязьмененым, першапачатковым стане.

## Pragṛhya

Гукі *ī*, *ū* і *e* на канцы формаў парнага ліку называюцца тэрмінам *pragṛhya* “адасобнае”. Перад *aC* яны заўсёды застаюцца ў пратворы, нязьмененым стане. Гэта значыць, што правілы *aC-sandhi* ў выпадку праґṛгйа ня дзейнічаюць. Напрыклад:
*agn**ī** atra, gur**ū** atra, phal**e** atra, labhet**e** atra*

## Svara-sandhi

Вышыня тону зьяўляецца якасьцю галоснага гука. Калі адбываецца злучэньне галосных, адбываецца і злучэньне тонаў. Правілы пра зьмяненьне тонаў пры сандгі галосных называюцца сандгі тонаў – *svara-sandhi*. Яны падобныя да камэнтару на сандгі галосных, бо дзейнічаюць адначасова зь імі. Калі галосны замяняецца на галосны, апошні спадкуе ягоны тон, бо мае быць найблізкім да яго. Праблема ўзьнікае толькі тады, калі ў выніку сандгі галосны замяняецца на зычны (*ya̠N-sandhi*) або два галосныя замяняюцца на адзін (*ekādeśa*).

## ya̠Ṇ-svarita-sandhi

1. Пасьля *ya̠N*, што ўзьнік замест удāтта- ці сваріта-*iK*, замест анудāтта-2*aC* мае быць сваріта:

*í / ú / ṛ́ / ḷ́+a → y / r / l / v+à*

Напрыклад:
*nadī́+agním → nady**à**gním*
*vadhū́+agním → vadhv**à**gním*

**але:**
*vā́ri+átra → vā́ry**á**tra*

## Anudātta-sandhi

2. Наступныя правілы дзейнічаюць, калі адбываецца *ekādeśa*, замена двух галосных на адзін. Паколькі замена мае быць найблізкай да замесьціва, то

*anudātta+anudātta → anudātta*

Напрыклад:
*bā́lā+agním → bā̀l**ā**gním*
*bā́lā+udakám → bā́l**o**dakám*

## Udātta-sandhi

3. Адна-замена любога *aC* і ўдāтты мае быць удāттай:

*udātta+udātta → udātta*
*anudātta+udātta → udātta*
*udātta+anudātta → udātta*
*udātta+svarita → udātta*
*svarita+udātta → udātta*

Напрыклад:
*nadyā́+agním → nady**ā́**gním*
*bā́lā+átra → bā́l**ā́**tra*
*nadyā́+átra → nady**ā́**tra*

## Svarita-sandhi

4. Адна-замена ўдāтты і пада-пачатковай анудāтты можа адменна быць сварітой:

*udātta+anudātta → svarita / udātta*

Напрыклад:
*nadyā́+agním → nady**ā̀**gním / nady**ā́**gním*

## Абагульненьне

У гэтай табліцы абагульняюцца вынікі злучэньня таноў папярэдніх і наступных галосных:

| *anudātta* | *udātta* | *svarita* | |
|---|---|---|---|
| **udātta** | **udātta** | **udātta** | *udātta* |
| **anudātta** | **svarita / udātta** | **svarita** | *anudātta* |

## 2. Стылі нісьма

Пісьмо Дэванāґарī распаўсюджана ў двух стылях, што называюцца паводле двух гарадоў, у якіх пачалося сучаснае кнігадрукаваньне на Дэванāґарī: гэта бамбэйскі ды калькуцкі стылі. Тыя формы літараў, што мы ўжо вывучылі, належаць да бамбэйскага стылю, найбольш распаўсюджанага сёньня. Аднак у XIX ст. найбольш распаўсюджаным быў, наадварот, калькуцкі стыль. Яго часта можна сустрэць у санскрыцкіх кнігах і таму варта ведаць яго асаблівасьці.

## Калькуцкі стыль

Наступныя літары і лічбы пішуцца ў калькуцкім стылі інакш, чым у бамбейскім:

| Б. | К. | Б. | К. | Б. | К. |
|---|---|---|---|---|---|
| अ | अ | छ | छ | १ | १ |
| आ | आ | झ | झ | ४ | ४ |
| ओ | ओ | ण | ण | ५ | ५ |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| औ | औ | श | श | ६ | ६ |
| ऋ | ऋ | क्ष | क्ष | ८ | ८ |
| ॠ | ॠ | ण | ण | ९ | ९ / ९ |

## Адмены літараў і лігатураў

Некаторыя літары і лігатуры Дэванāгарī маюць адмены, якія, аднак, не ўтвараюць асаблівых стыляў. Так, напрыклад, літары भ і ध могуць пісацца з маленькім колцам і безь яго, а ल можа пісацца з вэртыкальнай рысай і безь яе. Літара झ у Нэпале часам пішацца інакш. Вэртыкальныя лігатуры з апошнімі य, ल і व таксама маюць устойлівыя адмены напісаньня.

ध – ध । भ – भ । झ – झ । ल – ल ॥

ङ्क्त्य – ङ्क्त्य । ङ्क्त्म – ङ्क्त्म । ङ्क्त्व – ङ्क्त्व ।

ङ्क्त्ल – ङ्क्त्ल ॥

## 3. Nāma-dhātu

Утварэньне вытворных каранёў (*dhātu-vṛtti*) – гэта згортваньне злучэньняў сэнсаў, пры якім сэнс галоўнага дзеяслова выяўляецца афіксам (змушаць – *ṆiC*, хацець – *saN*, старацца – *yaṄ*). Акрамя таго, вытворныя карані могуць утварацца ня толькі ад першасных каранёў, але і ад іменаў. Такія вытворныя карані называюцца *nāma-dhātu* "адыменныя карані". У санскрыце ад кожнага імені можна ўтварыць некалькі каранёў, якія затым могуць спрагацца і ўтвараць іншыя вытворныя карані. Унутры вытворнага кораня афіксы *sŭP* замяняюцца на лопу, то бок фармальна зьнікаюць.

## KyaC 1, kāmyaC

Пасьля *sŭP*-канцавой пады можа быць афікс *KyaC* ці *kāmyaC* у сэнсе “жаданьня для сябе”. Прыгэтым перад *KyaC* канцавы *a* асновы замяняецца на *ī*, а іншыя галосныя падаўжаюцца. Націск прыпадае на канец вытворнага кораня (гэтага патрабуе маркер *C*):
*vṛkṣám ātmánaḥ icchati → vṛkṣá+KyaC → vṛkṣī-yá*
*vṛkṣīya+lăṬ → vṛkṣīya+tiP → vṛkṣīya+ŚaP+tiP → vṛkṣīyáti* – хоча сабе дрэва
або:
*vṛkṣa+kāmyaC → vṛkṣakāmyá*
*vṛkṣakāmya+ŚaP+tiP → vṛkṣakāmyáti* – хоча сабе дрэва

### Узоры

*agnīyáti / agnikāmyáti* – хоча сабе агонь
*āhārīyáti / āhārakāmyáti* – хоча сабе ежы
*gurūyáti / gurukāmyáti* – хоча сабе настаўніка
*phalīyáti / phalakāmyáti* – хоча сабе плады
*nadīyáti / nadīkāmyáti* – хоча сабе раку
*vṛkṣīyáti / vṛkṣakāmyáti* – хоча сабе дрэва
**але:**
*aśv**ā**yáti / aśvakāmyáti* – хоча сабе каня

## KyaC 2

Афікс *KyaC* можа таксама быць пасьля *sŭP*-канцавой пады, што ўжываецца ў сэнсе аб’екта параўнаньня, пры выяўленьні стаўленьня. Афіксы *KyaC 1* і *KyaC 2* адрозьніваюцца паводле кантэксту:
*náram nṛpám íva ā́ carati → nṛpa+KyaC → nṛpīyá*
*nṛpīyáti náram* – ставіцца да чалавека як да князя, “укнязяўляе”

### Узоры

*gurūyáti bā́lām* – ставіцца да дзяўчыны як да настаўніка
*dhenūyáti áśvam* – прымае каня за карову

*nadīyáti vánam* – прымае лес за раку
*narīyáti áśvam* – ставіцца да каня як да чалавека
*nṛpīyáti náram* – ставіцца да чалавека як да князя
*phalīyáti vṛ́kṣam* – ставіцца да дрэва як да плода, прымае дрэва за плод
*bālīyáti náram* – ставіцца да чалавека як да дзяўчыны
*vanīyáti grā́mam* – прымае вёску за лес

## KyaṄ, Kvi̱P

Афіксы *KyaṄ* і *Kvi̱P* могуць быць пасьля *sŭ̊P*-канцавой *kartṛ*-сэнсавай пады у сэнсе "пераймaньня паводзінаў дзейніка". Прыгэтым перад *KyaṄ* замест канцавога *aC* мае быць доўгі. *KyaṄ*-канцавыя карані заўсёды зьяўляюцца *ātmane-padin* (дзякуючы *Ṅit*). Афікс *Kvi̱P* заўсёды цалком зьнікае. Маркер *K* у абодвух афіксаў забараняе замену на ґуṇу:
*nṛpáḥ iva ā́ carati → nṛpa+KyaṄ → nṛpāyá*
*nṛpāyá+ŚaP+te → nṛpāyáte* – паводзіць сябе як князь
*nṛpá+Kvi̱P → nṛpá, nṛpá+ŚaP+tiP → nṛpáti* – паводзіць сябе як князь

## Узоры

*aśvāyáte / aśváti* – паводзіцца як конь
*gurūyáte / gurávati* – паводзіцца як настаўнік
*dhenūyáte / dhenávati* – паводзіцца як карова
*nadīyáte / nadáyati* – паводзіцца як рака
*narāyáte / naráti* – паводзіцца як чалавек
*nṛpāyáte / nṛpáti* – паводзіцца як князь
*bālāyáte / bālā́ti* – паводзіцца як дзяўчына
*vṛkṣāyáte / vṛkṣáti* – паводзіцца як дрэва

## ṆiC

Афікс *ṆiC* можа разнастайна быць пасьля *karman*-сэнсавай *sŭ̊P*-канцавой пады ў сэнсе "рабіць нешта" ці "рабіць нечым". Прыгэтым канцавы *aT* асновы замяняецца на лопу:
*āhārám karoti → āhārá+ṆiC → āhārí*
*āhārí+ŚaP+tiP → āhāráyati* – робіць ежу / робіць ежаю

## Узоры

*agnáyati* – робіць агнём
*aśváyati* – робіць канём
*āhāráyati* – робіць ежаю
*guráyati* – робіць настаўнікам
*nadáyati* – робіць ракою
*naráyati* – робіць чалавекам
*phaláyati* – робіць плодам
*bāláyati* (лопа *aT*) – робіць хлопчыкам
*bā́lā+ṆiC → bālé, bālé+ŚaP+tiP → bāláyati* – робіць дзяўчынкай
*vṛkṣáyati* – робіць дрэвам

## lṝṬ

Афікс *lṝṬ* дадаецца пасьля кораня ў сэнсе будучага часу (сёньняшняга ды агульнага). Канчаткі *tiṄ*, што зьяўляюцца замест афікса *lṝṬ*, такія самыя, як і канчаткі замест *lǎṬ*. Пасьля кораня перад афіксамі ставіцца вікараṇа *sya*. Паміж канцавым гукам кораня і вікараṇай *sya* дзейнічаюць правілы сандгі:
*pac+lṝṬ → pac+tiP → pac-sya-ti → pakṣyáti* – будзе гатаваць, прыгатуе
*pac+lṝṬ → pac+te → pac-sya-te → pakṣyáte* – прыгатуе для сябе

## iṬ

Паколькі вікараṇа *sya* – гэта *vaL*-пачатковая āрдгадгāтука, то пасьля *seṬ*-каранёў да яе дадаецца дадатак *iṬ* – як і ў выпадку афікса *saN*. Пасьля *aniṬ*-каранёў дадатак ня ставіцца, а пасьля *veṬ*-каранёў ставіцца неабавязкова:
*seṬ*: *vad+lṝṬ → vad+tiP → vad-sya-ti → vad-i-sya-ti → vadiṣyáti* – скажа
*aniṬ*: *labh+lṝṬ → labh+te → labh-sya-te → lapsyáte* – возьме

## Ṣatva

У межах аднае пады замест *s* мае быць *ṣ* пасьля *iṆ* ці *kŭ*, нават калі паміж імі стаяць *visarjanīya*, *śaR* ці дадатак *nuM* (тут *iṆ → i, u, ṛ, ḷ, e, o, ai, au, h, y, v, r, l Ṇ*):

*gam+i+syá+ti → gamiṣyáti*
*náre+su → náreṣu*
**але:**
*bālā+su → bā́lāsu*

Гэтая зьмена называецца ў санскрыцкай граматыцы *ṣatva* "быцьцё, узьнікненьне *ṣa*".

## Ґуṇа

Перад усімі сāрвадгāтукамі ды āрдгадгāтукамі замест канцавога *iK* кораня мае быць ґуṇа:
*nī+ŚaP+tiP → né-a-ti → náy-a-ti* (*ayādi-sandhi*) – вядзе
*nī+sya+tiP → ne-syá-ti → neṣyáti* – прывядзе
*bhū+ŚaP+tiP → bhó-a-ti → bháv-ati* (*ayādi-sandhi*) – быве, ёсьць
*bhū+syá+tiP → bhū-isyá-ti → bho-isyá-ti → bhav-isyá-ti → bhaviṣyáti* – будзе
*tṝ+ŚaP+tiP → tár-a-ti → tárati*– перасякае
*tṝ+sya+tiP → tṝ-isyá-ti → tar-isyá-ti → tariṣyáti* – перасячэ

## Kit і Ṅit

Перад афіксамі, што маюць маркеры *K* або *Ṅ,* замест канцавога *iK* ня мае быць ґуṇа ці врддгі. Гэта вынятак з папярэдняга правіла. Напрыклад, афікс *yaK* – *Kit* (мае маркер *K*), а афікс *yaṄ* – *Ṅit*:
*bhū+yaK+te → bhūyáte* – бывецца
*bhū+yaṄ → bobhūya → bobhūyáte* – быве і быве, бывае
*nī+yaK+te → nīyáte* – вядзецца
*nī-yaṄ → nenīyá → nenīyáte* – вядзе і вядзе, водзіць

## Узоры

*edh – edhiṣyáte* – будзе расьці, вырасьце
*khād – khādiṣyáti* – будзе есьці, зьесьць
*gam – gamiṣyáti* – будзе йсьці, пойдзе
*tuṣ – tokṣyáti* – будзе радавацца, зрадзее
*nī – neṣyáti, -te* – будзе весьці, павядзе

*pac – pakṣyáti, -te* – будзе гатаваць, прыгатуе
*bhū – bhaviṣyáti* – будзе
*labh – lapsyáte* – будзе браць, возьме
*vad – vadiṣyáti* – будзе гаварыць, скажа
*vas – vatsyáti* – будзе жыць
*sad – satsyáti* – будзе сядзець, сядзе
*sthā – sthāsyáti* – будзе стаяць, стане

## Karmaṇi-prayoga

У сэнсе дачыну ці быцьця пасьля кораня ставяцца канчаткі а̄тманэпада. Гэта агульнае правіла. Аднак перад са̄рвадга̄тукамі (напр., перад *tiṄ*), ставіцца яшчэ і вікараṇа *yaK*. Паколькі вікараṇа *sya* – не са̄рвадга̄тука, то перад ёю *yaK* ня ставіцца. Гэта значыць, што ў выпадку *lṝṬ* формы а̄тманэпада ў *karmaṇi-prayoga* будуць адрозьнівацца толькі ў кантэксьце:
*pac+lăṬ → pác-te → pac-yá-te* – гатуецца
*pac+lṝṬ → pác-te → pac-syá-te → pakṣyáte* – будзе гатавацца
*edh+ṆiC → edhí+lṝṬ → edhí-te → edhi-syá-te → edhi-iṣyá-te → edhay-iṣyá-te → edhayiṣyáte* – будзе змушацца расьці, вырасьціцца
*āhāráḥ nárеṇa pakṣyate* – чалавекам згатуецца ежа
*vṛkṣáḥ nṛpéṇa edhayiṣyate* – князем вырасьціцца дрэва

लृँट् । वद् । भ्वा॰ प॰ सेट् ॥

परस्मैपदानि

| | | | |
|---|---|---|---|
| प्र॰ | वदिष्यंति | वदिष्यंतः | वदिष्यंन्ति |
| म॰ | वदिष्यंसि | वदिष्यंथः | वदिष्यंथ |
| उ॰ | वदिष्यांमि | वदिष्यांवः | वदिष्यांमः |

लृँट् । पच् । भ्वा॰ उ॰ अनिट् ॥

आत्मनेपदानि – कर्मणि

| | | | |
|---|---|---|---|
| प्र॰ | पक्ष्यंते | पक्ष्यैंते | पक्ष्यंन्ते |
| म॰ | पक्ष्यंसे | पक्ष्यैंथे | पक्ष्यंध्वे |
| उ॰ | पक्ष्यैं | पक्ष्यांवहे | पक्ष्यांमहे |

# I- ды u-канцавыя асновы жаночага роду

Формы ад асноў імёнаў на *-i* ды *-u* амаль такія самыя, як ад асноў мужчынскага роду. У выпадку *Ṅit*-канчаткаў (*Ṅe*, *Ṅasi*, *Ṅas*, *Ṅi*) яны маюць адмену, што супадае з формамі ад асноў жаночага роду на *-ī* (*nadī́*).

*i*-канцавая аснова жаночага роду *matí*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | मति॑ः | मती॑ | मत॑यः |
| २ | मति॑म् | मती॑ | मती॑ः |
| ३ | मत्या॑ | मति॑भ्याम् | मति॑भिः |
| ४ | मत्यै॑ / मत॑ये | मति॑भ्याम् | मति॑भ्यः |
| ५ | मत्या॑ः / मते॑ः | मति॑भ्याम् | मति॑भ्यः |
| ६ | मत्या॑ः / मते॑ः | मत्यो॑ः | मती॑नाम् / मतीना॑म् |
| ७ | मत्या॑म् / मतौ॑ | मत्यो॑ः | मति॑षु |
| आ॰ | हे म॑ते | हे म॑ती | हे म॑तयः |

*u*-канцавая аснова жаночага роду *dhénu*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | धे॑नुः | धे॑नू | धे॑नवः |
| २ | धे॑नुम् | धे॑नू | धे॑नूः |
| ३ | धे॑न्वा | धे॑नुभ्याम् | धे॑नुभिः |
| ४ | धे॑न्वै / धे॑नवे | धे॑नुभ्याम् | धे॑नुभ्यः |
| ५ | धे॑न्वाः / धे॑नोः | धे॑नुभ्याम् | धे॑नुभ्यः |
| ६ | धे॑न्वाः / धे॑नोः | धे॑न्वोः | धे॑नूनाम् |
| ७ | धे॑न्वाम् / धे॑नौ | धे॑न्वोः | धे॑नुषु |
| आ॰ | हे धे॑नो | हे धे॑नू | हे धे॑नवः |

## Слоўнік

नी । भ्वा॰ उ॰ अनिट् । नयति ॰ते । весьці । यक् – नीयते । णिच् – नायि । सन् – निनीष । यङ् – नेनीय ॥

भू । भ्वा॰ प॰ सेट् । भवति । быць । यक् – भूयते । णिच् – भावि । सन् – बुभूष । यङ् – बोभूय ॥

अद्य । अ॰ । сёньня ॥

इव । नि॰ । як, нібы (ставіцца пасьля слова) ॥

कदा । अ॰ । калі? ॥

धेनु । स्त्री॰ । карова ॥

मति । स्त्री॰ । мысьль, думка ॥

श्वः । अ॰ । заўтра ॥

ह्यः । अ॰ । учора ॥

## Практыкаваньне 1

नरः गुरुम् नृपीयति गुरुः च नरम् नृपयति ।१।
बालाः फलीयन्ति वृक्षाः तु न फलयन्ति ।२।
बालस्य समीपे नरः नृपायते गुरूयते च ।३।
वृक्षाः एधिष्यन्ते सुन्दरम् च वनम् भविष्यति ।४।
नरः ह्यः अश्वम् वनम् अनयत् अद्य वनात् आ नेष्यति ।५।
ग्रामात् गमिष्यामि वने च वत्स्यामि इति गुरोः मतिः ।६।
कदा आहारम् पक्ष्यसि चिखादिषामः । अद्य न पक्ष्यामि ।७।
नृपस्य धेनवः वने चोरयिष्यन्ते ।८।
वनम् गमिष्यावः फलानि लप्स्यावहे आहारम् च पक्ष्यावहे ।९।

## Практыкаваньне 2

1. Дзяўчына хоча сабе каня, а конь хоча сабе плод.
2. У лесе князь прыняў дрэва за чалавека.

3. Чалавек робіць дрэва агнём, але ня робіць агонь дрэвам.
4. Два настаўнікі прыйдуць і паселяцца каля вёскі.
5. Калі яны прыйдуць у вёску і прывядуць каровы?
6. Князь паводзіць сябе як настаўнік для чалавека.
7. Учора яны сабралі плады, а сёньня згатуюць ежу для каровы.
8. Настаўнік сядзе і скіруе думкі на агонь.
9. Плады дрэваў будуць сабраныя, і з пладоў будзе ежа.

## Практыкаваньне 3

1. बा॑ला + आ॑ गच्छति
2. नदी॑ + अ॑त्र
3. गुरू॑ + अ॑त्र
4. न॑रेण + अग्नि॑ः
5. नद्या॑ + एधते
6. अग्नी॑ + उदक॑म्
7. इ॑ति + ए॑व
8. ए॑व + इ॑ति
9. नदी॑ + उदक॑म्

## Заданьне

1. Вывучыць сандгі тонаў і зрабіць практыкаваньне 3.
2. Вывучыць напісаньне адменаў літараў.
3. Вывучыць утварэньне адыменных каранёў.
4. Вывучыць новыя ўзоры спражэньня і скланеньня.
5. Вывучыць новыя словы.
6. Зрабіць практыкаваньні 1 і 2.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

# ЗАДАПЬПІ НА САМАПРАВЕРКУ 2

## I. Адказаць на нытаньні і выканаць заданьні:

1. Прачытайце на памяць Ши́ва-сӯтры. Якая іх роля ў санскрыцкай граматыцы?
2. Што такое *pratyāhāra*?
3. Што такое *savarṇa*? Дайце прыклад.
4. Што такое *vṛtti*? Якія віды врттi вы ведаеце?
5. Што такое *Dhātu-pāṭha*? Ці ўсе карані санскрыту туды зьмешчаны?
6. Што такое *hetu*?
7. Што такое *saṃyoga*? Якія правілы напісаньня саṁйоґаў у Дэванāґарī?
8. Якія знакі прыпынку ўжываюцца ў Дэванāґарī?
9. Што такое *gaṇa*? Колькі ґаṇаў у *Dhātu-pāṭha*?
10. Што такое *guṇa* і *vṛddhi*?
11. Што такое *sthānin* і *ādeśa*?
12. Якія віды *aC-Sandhi* вы ведаеце? Дайце прыклады.
13. Што такое *sārvadhātuka* і *ārdhadhātuka*?
14. Якім чынам віды каранёў адрозьніваюцца ў *Dhātu-pāṭha*?
15. Чым адрозьніваюцца *viśeṣaṇa* і *viśeṣya*?
16. Што такое *āmreḍita*?
17. Чым адрозьніваюцца *upasarga* і *karma-pravacanīya*?
18. Што такое *la-kāra*? Якія ла-кāры вы ведаеце?
19. Што такое *pragṛhya*? Дайце прыклад.
20. Якім чынам правілы сандгі ўплываюць на таны галосных?

## II. Падзяліць словы, зваротна ўжываючы нравілы сандгі:

अग्नेऽत्र । नैव । गुरोऽगच्छम् । अत्रानयन् । फलान्यखादताम् । परमात्मन् । बालेच्छति । अल्पोदकम् । गुर्वाहारः । कर्तॄकारः ॥

## III. Паставіць слова ў дужках у належную форму і неракласьці сказы:

अंश्वः सुन्दरीः (धेंनु) अंनु गच्छति ।१।
श्वंः नृपंस्य बांले वंने (गम्) ।२।

(बा॑ला) नृप॑स्य फ॑लानि अ॒ग्नौ॑ स्थापयतः ।३।
ना॑री (बा॑ला) आहार॑म् अपाचयत् ।४।
अ॒द्य॑ व॑नम् न॑ गच्छावः इ॑ति (ना॑री) न॑रम् अवदताम् ।५।
हे बा॑ले ह्यः॑ फ॑लानि (लभ्) आहार॑म् तु॑ न॑ (पच्) ।६।
श्वः॑ (न॑र) गुरोः॑ अ॑श्वाः चोरयिष्यन्ते ।७।
न॑राः (धे॑नु) ग्रा॑मम् अगमयन् ।८।
ह्यः॑ अ॒ग्नौ॑ गुरु॑णा वृ॒क्षाः॑ (दह्) ।९।
नृपः॑ (ना॑री) अ॑श्वे असादयत् ।१०।

**IV. Выбраць найбольш нрыдатнае слова:**

क॒दा॑ नृपः॑ ग्रा॑मम् (गमिष्यति / जङ्गम्यते) इ॑ति न॑राः अवदन् ।१।
ना॑र्याः समीपे॑ न॑रः (नृपायते / नृपीयति) ।२।
श्वः॑ न॑रौ आहारे॑ण नृप॑म् (तोक्ष्यतः / तोषयिष्यतः) ।३।
बा॑ला न॑रम् न॑ (नृपीयति / नृपति) ।४।
न॑रः न॑ पिपक्षति (चिखादिषति / खादयति) तु॑ ।५।

**V. Дадаць да асноваў канчаткі і скласьці сказы, вынравіўшы нарадак слоў:**

ह्यः॑ न॑र चु॑चोरयिष नृप॑ सु॑न्दर अ॑श्व ।१।
अश्वकाम्य॑ च फलीय॑ मति॑ बा॑ल इति ।२।
ग्रा॑म आ॑ गमि॑ धे॑नु नृप॑ कदा॑ न॑र ।३।
तोतुष्य॑ नृप॑ आहार॑ बा॑ल खादि॑ च ।४।
इव बा॑ला नदी॑ जि॑गमिष ।५।

# 1. Зьмены гукаў на канцы слова

У санскрыце канцавы зычны асновы зьмяняецца, калі апынаецца на канцы слова. Таму перад вывучэньнем правілаў *haL-sandhi* трэба засвоіць правілы пра зьмены зычных на канцы слова.

## Зычныя на канцы нады

На канцы пады і перад *jhaL*:
1. Замест *cu̐* мае быць *ku̐*.
*vāc* → *vāk*, *ruj* → *rug*

2. Замест *h* мае быць *ḍh*.
*lih* → *liḍh*

3. Замест *ch*, *ś* мае быць *ṣ*.
*viś* → *viṣ*, *prach* → *praṣ*

На канцы пады:
4. Замест *jhaL* мае быць *jaŚ*.
*marut* → *marud*, *vāk* → *vāg*, *liḍh* → *liḍ*, *viṣ* → *viḍ*

5. Замест *s* мае быць *ru̐*.
*naras* → *nararu̐*

## Абагульненьне

Такім чынам, на канцы пады могуць быць толькі наступныя 10 зычных:
*k*, *kh*, *g*, *gh*, *c*, *j*, *jh* → *g*
*ṭ*, *ṭh*, *ḍ*, *ḍh*, *ch*, *ś*, *ṣ*, *h* → *ḍ*
*t*, *th*, *d*, *dh* → *d*
*p*, *ph*, *b*, *bh* → *b*
*ñ* → *ṅ*
*s* → *r* (*ru̐*)
*r*, *ṅ*, *ṇ*, *n*, *m* – застаюцца нязьменнымі
*y*, *v*, *l* – на канцы пады не сустракаюцца

 

## h<u>a</u>L-sandhi

Зьмены, што адбываюцца пры злучэньні зычных з зычнымі, называюцца *h<u>a</u>L-sandhi*. Паколькі на канцы слова могуць стаяць ня ўсе зычныя, то гэта значна палягчае вывучэньне правілаў.

## Jaśtva-sandhi

1. Замест *jh<u>a</u>L* перад *jh<u>a</u>Ś* мае быць *j<u>a</u>Ś*:

*k, kh, g, gh → g*
*c, j, jh → k, g, gh → g*
*ṭ, ṭh, ḍ, ḍh, ṣ → ḍ*
*t, th, d, dh → d*
*h → ḍh → ḍ*
*p, ph, b, bh → b*
*ś, ch → ṣ → ḍ*

Напрыклад:
*labh+dha → la**b**-dha*
*dugh+dhe → du**g**-dhe*

Гэта значыць, што замест глухіх і звонкіх змычных і шыпенных (*jh<u>a</u>L*) перад звонкімі змычнымі (*jh<u>a</u>Ś*) маюць быць звонкія непрыдыхальныя (*j<u>a</u>Ś*). Паколькі на канцы слова і так ужо ёсьць толькі звонкія, то правіла працуе ўнутры пады.

## Cartva-sandhi

2. Замест *jh<u>a</u>L* перад *khaR* мае быць *c<u>a</u>R*:

| | |
|---|---|
| *g → k* | *d → t* |
| *ḍ → ṭ* | *b → p* |

Напрыклад:
*vāg+tatra → vā**k** tatra*

*virāḍ+puruṣaḥ → virā**ṭ** puruṣaḥ*
*samid+tatra → sami**t** tatra*
*triṣṭub+tatra → triṣṭu**p** tatra*
*sad+tum → sa**t**tum*

Гэта значыць, замест звонкіх і глухіх змычных і шыпенных (*jha̲L*) перад глухімі змычнымі і шыпеннымі (*kha̲R*) маюць быць адпаведныя глухія непрыдыхальныя (*ca̲R*).

## Нерад снынам

2.1 Замест *jha̲L* перад спынам (*avasāna*) можа быць *ja̲Ś* або *ca̲R*:

| | |
|---|---|
| *g → k / g* | *d → t / d* |
| *ḍ → ṭ / ḍ* | *b → p / b* |

Напрыклад:
*vāg / vāk*
*virāḍ / virāṭ*
*samid / samit*
*triṣṭub / triṣṭup*
*sad / sat*

Гэта значыць, замест звонкіх і глухіх змычных і шыпенных (*jha̲L*) перад спынам могуць быць і глухія (*ca̲R*), і звонкія непрыдыхальныя (*ja̲Ś*).

## Ścůtva-sandhi

3. Замест *s* і *tů* перад ці пасьля *ś* і *ců* маюць быць *ś* і *ců*:

| | | |
|---|---|---|
| *s → ś* | *th → ch* | *dh → jh* |
| *t → c* | *d → j* | *n → ñ* |

Напрыклад:
*naras+śete → nara**ś** śete*,
*naras+cinoti → nara**ś** cinoti*,

*yaj+na → yajña, yāc+nā → yāc**ñ**ā*,
*narān+jayati → narā**ñ** jayati*,
*narād+ca → narāj ca → narā**c** ca*,
*ud+jvalati → **uj** jvalati*

Пасьля гэтага правіла працуе правіла пра *cartva* і *jaśtva*.

## Ṣṭů̊tva-sandhi

4. Замест *s* і *tů̊* перад ці пасьля *ṣ* і *ṭů̊* маюць быць *ṣ* і *ṭů̊*:

| | | |
|---|---|---|
| *s → ṣ* | *th → ṭh* | *dh → ḍha* |
| *t → ṭ* | *d → ḍ* | *n → ṇ* |

Напрыклад:
*naras+ṣaṣṭhaḥ → nara**ṣ** ṣaṣṭhaḥ*,
*naras+ṭīkate → nara**ṣ** ṭīkate*,
*pṛṣ+ta → pṛṣ**ṭ**a*,
*bhavān+ṭhakkuraḥ → bhavā**ṇ** ṭhakkuraḥ*,
*mahān+ḍāmaraḥ → mahā**ṇ** ḍāmaraḥ*
*tad+ṭīkā → taḍ ṭīkā → ta**ṭ** ṭīkā*
*ud+ḍāti → u**ḍ** ḍāti*

## Выняткі з нравіла нра ṣṭů̊tva

4.1. Але замест *s* і *tů̊* пасьля пада-канцавога *ṭů̊* ня мае быць *ṣ* і *ṭů̊*:
*madhuliḍ+sarati → madhuliṭ **s**arati*
*madhuliḍ+tarati → madhuliṭ **t**arati*

4.2. Але замест *tů̊* перад *ṣ* ня мае быць *ṭů̊*.
*san+ṣaṣṭhaḥ → sa**n**   ṣaṣṭhaḥ*
*sad+ṣaṣṭhaḥ → sa**t** ṣaṣṭhaḥ*

## Прагалы ў Дэванāґарī

Раней у пісьме Дэванāґарī не ўжываліся прагалы паміж словамі – усё пісалася разам, як і вымаўляецца. Прагалы пачалі ўжываць толькі ў кні-

гадрукаваньні. На сёньня агульнапрынятыя наступнае правіла ўжываньня прабелаў: наступнае слова пішацца асобна, калі папярэдняе сканчаецца на галосны, вісаргу ці анусвару. Усё астатняе пішацца разам:

बाला पचति । नरः पचति । आहारं पचति ।
वनाद्गच्छति । अग्निर्दहति । वृक्षेष्वश्वः ॥

## 2. Дэванāґарī на камнутары

Каб набіраць на кампутары тэкст на Дэванāґарī, можна спампаваць і ўсталяваць шрыфт *Siddhānta* і раскладку клявіятуры *Vaidika IME* і вывучыць правілы набору тэксту (*http://www.svayambhava.org/siddhanta.ttf*). У сеціве можна знайсьці і іншыя шрыфты і раскладкі клявіятуры. Літары ў раскладцы *Vaidika* як мага прывязаныя да адпаведных лацінскіх літараў. Аднак літараў Дэванāґарī болей, чым лацінскіх, таму разьмяшчэньне некаторых зь іх давядзецца запомніць. Шрыфт *Siddhānta* зьмяшчае найбольш ліґатураў, таму добра падыходзіць, каб вучыць санскрыт. У выпадку мабільных прыладаў усё яшчэ прасьцей: дастаткова ў наладках дадаць раскладку клявіятуры для *Hindi*.

## Правілы набору

1. Зычныя літары ўжо зьмяшчаюць гук *a*:

क

2. Каб набраць зычны без галоснага *a* ці зь іншымі галоснымі, трэба набіраць дыякрытычныя знакі:

क + ् → क् । क + ि → कि ।

3. Галосныя на пачатку слова набіраюцца іншымі літарамі, чым у сярэдзіне слова:

अ, इ, उ

4. Каб набраць ліґатуру, трэба проста пасьлядоўна набіраць зычныя са знакам вірāма. Утварэньнем ліґатураў займаецца сам шрыфт:

क् + क् → क्क । द् + ध → द्ध

Раскладка клявіятуры:




З клявішай *Shift*:




З клявішай *Alt*:




З клявішай *Alt* і *Shift*:



## 3. Kṛd-vṛtti

Афіксы, якія дадаюцца да кораня (*dhātu*) і ўтвараюць асновы імені (*prātipadika*), называюцца *kṛt*. Іх дастаткова шмат. Афіксы *kṛt* дадаюцца ў сэнсе kāракаў, удзельнікаў чыну: дзейніка, дачыну, месца, сродка і быцьця (*bhāva*). Сэнс *kṛt*-афіксаў – гэта, прыкладам, "дзейнік пэўнага дзеяньня", "сродак пэўнага дзеяньня" ці "быцьцё пэўнага дзеяньня". Такім чынам, *kṛd-vṛtti* – гэта згортваньне ў адну форму сэнсаў дзеяньня і яго ўдзельнікаў. Прыгэтым некаторыя афіксы могуць мець і дадатковыя сэнсы (напрыклад, часу ці належнасьці).

## Ṇv̊uL

Афікс *Ṇv̊uL* можа дадавацца да любога кораня ў сэнсе дзейніка (*kartṛ*). Афікс *Ṇv̊uL* мае два іты – *Ṇ* і *L*. *Ṇit* патрабуе замену на *vṛddhi* апошняга *iK* і перадапошняга *aT* асновы. *Lit* жа патрабуе, каб галосны ў складзе перад афіксам быў удāттай. Акрамя таго, спалучэньне *v̊u* заўсёды замяняецца на *aka*:
*tṝ+Ṇv̊uL* → *tār+aka* → *tā́raka* – той, хто перасякае
*nī+Ṇv̊uL* → *nai+aka* → *nā́yaka* – той, хто вядзе, правадыр
*pac+Ṇv̊uL* → *pac+aka* → *pā́caka* – той, хто гатуе, гатавальнік
*bhū+Ṇv̊uL* → *bhau+aka* → *bhā́vaka* – той, хто быве, ёсьць

## Guru і laghu

Кароткі галосны называецца лёгкім (*laghu*). Аднак перад спалучэньнем зычных, кароткі галосны называецца цяжкім (*guru*). Доўгі галосны таксама называецца цяжкім (*guru*).

## Sārvadhātuka і ārdhadhātuka

Паўтарэньне: афіксы, што ставяцца пасьля кораня, падзяляюцца на дзьве групы: *sārvadhātuka* і *ārdhadhātuka*. Афіксы *tiṄ* і *Śit* (тыя, што маюць маркер *Ś*), называюцца *sārvadhātuka*. Засталыя ж афіксы называюцца *ārdhadhātuka*.

## Замена на ґуṇу

Перад сāрвадгāтукай і āрдгадгāтукай замест канцавога *iK* асновы мае быць ґуṇа. А таксама замест перадапошняга лёгкага *iK*. Але ня перад *Kit*- ці *Ṅit*-пазначанымі афіксамі:
*cit*+*ŚaP*+*tiP* → *cét-a-ti* – думае, разважае
*budh*+*ŚaP*+*tiP* → *bódh-a-ti* – разумее, кеміць
*vṛt*+*ŚaP*+*te* → *várt-a-te* – існуе, “верціцца”

*cit*+*Ṇv̊uL* → *cétaka* – той, хто думае, мысьляр
*budh*+*Ṇv̊uL* → *bódhaka* – той, хто разумее, кемца
*vṛt*+*Ṇv̊uL* → *vártaka* – той, хто існуе, верціцца

## seṬ, aniṬ, veṬ

Паўтарэньне: перад *vaL*-пачатковай āрдгадгāтукай мае быць дадатак *iṬ*. Але не пасьля каранёў, што ўваходзяць у групу *aniṬ*. Неабавязкова – пасьля каранёў, што ўваходзяць у групу *veṬ*. Карані, пасьля якіх гэтае правіла працуе абавязкова, уваходзяць у групу *seṬ*. Да якой групы належыць корань, можна даведацца са слоўніка ці ў *Dhātu-pāṭha* – у сьпісе ўсіх першасных каранёў санскрыту. У *Dhātu-pāṭha* карані *aniṬ* маюць анудāтту (напрыклад, णी॒ञ्), карані *seṬ* маюць удāтту (напрыклад, भू॑), а карані *veṬ* вызначаюцца па правілах.

## tṛC

Афікс *tṛC* таксама можа быць пасьля ўсякага кораня ў сэнсе дзейніка. *Cit* патрабуе націску на канец афікса. Пры злучэньні асновы й афікса дзейнічаюць правілы сандгі. Замена на ґуṇу і дадатак *iṬ* – паводле агульнага правіла:
*khād*+*tṛC* → *khād*+*i-tṛ* → *khāditṛ́* – той, хто есьць
*nī*+*tṛC* → *ne*+*tṛ* → *ne-tṛ́* – той, хто вядзе, правадыр
*pac*+*tṛC* → *paktṛ́* (*kůtva*) – той, хто гатуе, гатавальнік
*bhū*+*tṛC* → *bho*+*i-tṛ* → *bhav-i-tṛ́* (*ayādi-sandhi*) – той, хто бывае, ёсьць
*vad*+*tṛC* → *vad*+*i-tṛ* → *vaditṛ́* – той, хто гаворыць

## GHaÑ

Афікс *GHaÑ* дадаецца да кораня ў сэнсе быцьця (*bhāva*), працэсу. *Ñit* патрабуе замены на врддгі канцавога *iK* і передапошняга *aT* асновы. Націск мае быць на канец афікса, калі корань мае *āT*, у іншых жа выпадках застаецца на корані. Аднак, калі корань мае упасаргу, націск падае на афікс. Перад афіксам *GHaÑ* канцавы *cu̐* асновы замяняецца на *ku̐*. Пасьля некаторых каранёў (*nī*, *gam*) афікс *GHaÑ* не дадаецца:
*áva+tṝ+GHaÑ* → *ava-tār+a* → *avatārá* – спуск
*iṣ+GHaÑ* → *éṣa* – жаданьне
*pac+GHaÑ* → *pā**k**á* – гатаваньне
*bhū+GHaÑ* → *bhau+a* → *bhāvá* – быцьцё
*labh+GHaÑ* → *lābh-á* – дасягненьне, здабыцьцё

## LẙuṬ

Афікс *LẙuṬ* дадаецца да кораня ў трох сэнсах: быцьця (*bhāva*), сродку (*karaṇa*) і месца (*adhikaraṇa*) – таму трэба думаць, у якім значэньні ён ужыты ў кожным выпадку. *Lit* патрабуе націску на склад перад афіксам. Спалучэньне *ẙu* замяняецца на *ana*:
*nī+LẙuṬ* → *ne+ana* → *náyana* – вядзеньне; чым вядуцца, вока
*bhū+LẙuṬ* → *bho+ana* → *bhávana* – быцьцё; дзе бывуць, памяшканьне
*vad+LẙuṬ* → *vad+ana* → *vádana* – маўленьне; чым гавораць, рот, твар
*sthā+LẙuṬ* → *sthā+ana* → *sthā́na* – стаяньне; дзе стаяць, месца

## Род kṛt-канцавых утварэньняў

1. *LẙuṬ*-канцавыя імёны – ніякага роду: *vádanam*, *náyanam*.
2. *GHaÑ*-канцавыя імёны – мужчынскага роду: *vādáḥ*, *pākáḥ*.
3. *Ṇv̊uL*-канцавыя імёны – мужчынскага роду: *vā́dakaḥ*, *nā́yakaḥ*. Ад іх можна ўтварыць імёны жаночага роду. Прыгэтым дадаецца жаночы афікс *ṬāP*, а першы галосны афікса мяняецца на *iT*: *vā́dikā*, *nā́yikā*.
4. *tṛC*-канцавыя імёны – мужчынскага роду: *vaditā́, netā́*. Імёны жаночага роду ўтвараюцца ад іх афіксам *ṄīP*: *vaditrī́, netrī́* і г.д. *tṛC*-канцавыя імёны таксама могуць быць ніякага роду.

## Узоры

| *dhātu* | *ṆvuL* | *tṛC* | *GHaÑ* | *LyuṬ* |
|---|---|---|---|---|
| *iṣ* | éṣaka | eṣitṛ́ | éṣa | éṣaṇa |
| *edh* | édhaka | edhitṛ́ | édha | édhana |
| *khād* | khā́daka | khāditṛ́ | khādá | khā́dana |
| *gam* | gámaka | gantṛ́ | – | gámana |
| *cit* | cétaka | cetitṛ́ | céta | cétana |
| *cur* | córaka | coritṛ́ | córa | córaṇa |
| *tuṣ* | tóṣaka | toṣṭṛ́ | tóṣa | tóṣaṇa |
| *tṝ* | tā́raka | taritṛ́ | tārá | táraṇa |
| *dah* | dā́haka | dagdhṛ́ | dāhá | dáhana |
| *dṛś* | dárśaka | draṣṭṛ́ | dárśa | dárśana |
| *nī* | nā́yaka | netṛ́ | – | náyana |
| *pac* | pā́caka | paktṛ́ | pāká | pácana |
| *budh* | bódhaka | boddhṛ́ | bódha | bódhana |
| *bhū* | bhā́vaka | bhavitṛ́ | bhāvá | bhávana |
| *labh* | lámbhaka | labdhṛ́ | lābhá | lámbhana |
| *vad* | vā́daka | vaditṛ́ | vādá | vádana |
| *vas* | vā́saka | vastṛ́ | vāsá | vásana |
| *vṛt* | vártaka | vartitṛ́ | – | vártana |
| *sad* | sā́daka | sattṛ́ | sādá | sádana |
| *sev* | sévaka | sevitṛ́ | séva | sévana |
| *sthā* | sthā́yaka | sthātṛ́ | – | sthā́na |

## 3. lo̊Ṭ

Пасьля кораня дадаецца афікс *lo̊Ṭ* у сэнсе загаду, дазволу, запрашэньня ці просьбы. Афіксы *tiN*, якія замяняюць *lo̊Ṭ*, зьмяняюцца пэўным чынам. Акрамя таго, афікс *hi* (← *siP*) замяняецца на лопу пасьля *aT*-канцавой асновы:

| *lo̊Ṭ parasmaipadāni* | | |
|---|---|---|
| **tu** | **tām** | **antu** |
| **hi → _** | **tam** | **ta** |
| **āni** | **āva** | **āma** |

| लोँट् परस्मैपदम् । वद । भ्वा॰ उ॰ ॥ | | | |
|---|---|---|---|
| प्र॰ | व॑दतु | व॑दताम् | व॑दन्तु |
| म॰ | व॑द | व॑दतम् | व॑दत |
| उ॰ | व॑दानि | व॑दाव | व॑दाम |

Формы, што ўтвараюцца ад каранёў іншых ґаṇаў, адрозьніваюцца вікараṇай і месцам націску:
*tud+Śa+tu → tud-á-tu* – хай б’е
*tuṣ+ŚyaN+tu→ túṣ-ya-tu* – хай радуецца
*cur+ṆiC+ŚaP+tu → corí+ŚaP+tu → coráy-a-tu* – хай крадзе

## Ṛ-канцавыя асновы мужчынскага і жаночага роду

Толькі адна форма ад *ṛ*-канцавых асноваў жаночага роду адрозьніваецца ад адпаведнай формы мужчынскага роду: гэта форма *dvitīyā bahuvacanam – mātṝ́ḥ* замест *pitṝ́n*. Слова *pitárau* “бацькі” азначае адразу і маці, і бацьку, а слова *pitáraḥ* азначае дзядоў, продкаў.

*ṛ*-канцавая аснова мужчынскага роду *pitṛ́*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | पिता॑ | पित॑रौ | पित॑रः |
| २ | पित॑रम् | पित॑रौ | पितॄ॑न् |
| ३ | पित्रा॑ | पितृ॑भ्याम् | पितृ॑भिः |
| ४ | पित्रे॑ | पितृ॑भ्याम् | पितृ॑भ्यः |
| ५ | पितुः॑ | पितृ॑भ्याम् | पितृ॑भ्यः |
| ६ | पितुः॑ | पित्रोः॑ | पितॄ॑णाम् / पितॄणा॑म् |
| ७ | पित॑रि | पित्रोः॑ | पितृ॑षु |
| आ॰ | हे पि॑तः | हे पि॑तरौ | हे पि॑तरः |

## tṛC-канцавыя асновы

Формы, што ўтвараюцца ад *tṛC*-канцавых асноваў, крыху адрозьніваюцца: у іх перад першымі дзьвюма вібгакті канцавы галосны замяняецца на врддгі: *netā́ram, netā́rau, netā́raḥ*.

*ṛ*-канцавая аснова мужчынскага роду *netṛ́*

| | ए॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | नेता॑ | नेता॑रौ | नेता॑रः |
| २ | नेता॑रम् | नेता॑रौ | नेतॄ॑न् |
| ३ | नेत्रा॑ | नेतृ॑भ्याम् | नेतृ॑भिः |
| ४ | नेत्रे॑ | नेतृ॑भ्याम् | नेतृ॑भ्यः |
| ५ | नेतु॑ः | नेतृ॑भ्याम् | नेतृ॑भ्यः |
| ६ | नेतु॑ः | नेत्रो॑ः | नेतॄ॑णाम् / नेतॄणा॑म् |
| ७ | नेत॑रि | नेत्रो॑ः | नेतृ॑षु |
| आ॰ | हे ने॑तः | हे ने॑तारौ | हे ने॑तारः |

## Ужываньне kṛt-канцавых словаў

Пасьля асновы, што ўжываецца ў сэнсе дачыну (*karman*) дзеяньня, выражанага *tṛC-*, *Ṇv̊uL-*, *GHaÑ-* і *LẙuṬ*-канцавымі словамі, мае быць шостая вібгакті:
*āhārám pacati → āhārásya pā́cakaḥ / paktā́ / pākáḥ / pácanam*

Пасьля асновы, што ўжываецца ў сэнсе дзейніка (*kartṛ*) дзеяньня, выражанага *GHaÑ-* і *LẙuṬ*-канцавымі словамі, мае таксама быць шостая вібгакті.
*gurúḥ vadati → guróḥ vādáḥ / vádanam*

## Слоўнік

आ॑ + नी । भ्वा॰ उ॰ अनिट् । आ॑ नयति । прыносіць ॥

दृश् । भ्वा॰ प॰ अनिट् । प॑श्यति । бачыць । यक् – दृश्य॑ते । णिच् – दर्शि॑ । सन् – दि॑दृक्ष (आ॰) । यङ् – दरीदृश्य॑ ॥

बुध् । भ्वा॰ प॰ अनिट् । बो॑धति । успрымаць, разумець । णिच् – बोधि॑ । सन् – बु॑भुत्स । यङ् – बोबुध्य॑ ॥

न॑यन । न॰ । сродак кіраваньня, вока ॥

पितृ॑ । पुं॰ । бацька, айцец ॥

भ॑वन । न॰ । месца быцьця, памяшканьне, пакой, дом ॥

मातृ॑ । स्त्री॰ । маці ॥

व॑दन । न॰ । сродак маўленьня, рот, твар ॥

## Практыкаваньне 1

फ॑लानाम् लाभा॑य से॑वकाः व॑नम् गच्छन्तु ।१।

अद्य॑ भ॑वने सीदतम् इ॑ति पित॑रौ बा॑लौ अवदताम् ।२।

न॑राः नेता॑रम् अ॑नु गच्छन्ति ।३।

व॑दनेन वदतु न॑यनाभ्याम् पश्यतु ।४।

पितुः॑ से॑वनाय बा॑ला आहार॑म् पचतु ।५।

नेता॑ न॑रान् ग्रा॑मम् नयतु ।६।

बा॑लौ पित्रोः॑ वाद॑म् बोधताम् ।७।

आहार॑स्य खा॑दनाय फ॑लानि पचाव ।८।

पित्रे॑ मात्रे॑ च सु॑न्दरम् अ॑श्वम् दर्शय ।९।

## Практыкаваньне 2

1. Прынясеце зь лесу плады для прыгатаваньня ежы.
2. Настаўнік бачыць вокам разуменьня.

3. Дзіця хай ставіцца да маці і бацькі як да настаўнікаў.
4. Сёньня заставайся ў пакоі і сядзі на сядзеньні – так сказалі бацькі.
5. Заўтра прывядзі два коні ў вёску – так сказаў князь.
6. Хай я буду правадыром – такая была думка ў чалавека.
7. Лес ёсьць месца росту дрэваў.
8. Глядзі вачыма на прыгожы рух коней.
9. Служанка вельмі радуецца атрыманьню маленькіх пладоў.

## Практыкаваньне 3

1. Зьмяніць зычныя на канцы слова паводле правілаў:

तत् । रुज् । समिध् । मधुलिह् । वाच् । त्रिष्टुभ् । अश्वात् । नरस् । मरुत् । अश्वेभ्यस् । नरैस् ॥

2. Злучыць словы паводле правілаў сандгі:

तद् + करोति । तद् + चिनोति । तद् + जयति । तद् + टीकते । तद् + डमरुः । तद् + तत् । तद् + षष्ठः । तान् + जयति । तान् + डिम्भान् । त्रिष्टुब् + पठति । नराद् + चरति । मधुलिड् + तरति । वाग् + टीकते । वाग् + पठति ॥

## Заданьне

1. Вывучыць сандгі зычных і зрабіць практыкаваньне 3.
2. Навучыцца набіраць пісьмом Дэванāгарī на кампутары.
3. Вывучыць утварэньне назваў дзейніка, быцьця, сродку і месца афіксамі *kṛt*.
4. Вывучыць новыя ўзоры спражэньня і скланеньня.
5. Вывучыць новыя словы.
6. Зрабіць практыкаваньні на пераклад.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

## 1. Anunāsika-sandhi

5. Замест пада-канцавога *ya̲R* перад ануна̄сікай можа адменна быць ануна̄сіка:

| | |
|---|---|
| *g → ṅ* | *d → n* |
| *ḍ → ṇ* | *b → m* |

Напрыклад:
*nárād+nayati → nárān nayati / nárād nayati*
*prā́g+nayati → prā́ṅ nayati / prā́g nayati*
*ṣáḍ+mā́sāḥ → ṣáṇ mā́sāḥ / ṣáḍ mā́sāḥ*
*áb+magna → ám-magna / áb-magna*

Такім чынам, змычны зычны перад насавым зычным неабавязкова ператвараецца ў насавы зычны, адпаведны яго месцу вымаўленьня.

## Anusvāra-sandhi

6. Замест пада-канцавога *m* перад *ha̲L* мае быць анусва̄ра:

*m → ṃ*

*áśvam+nayati → áśvaṃ nayati*
*phálam+labhate → phálaṃ labhate*

**але:**
*áśvam+átra → áśvam átra*

## Para-savarṇa-sandhi 1

7. Замест пада-канцавой анусва̄ры перад *ya̲Y* можа адменна быць саварṇа наступнага гука:

| *yaY* | *kŭ* | *cŭ* | *ṭŭ* | *tŭ* | *pŭ* | *y* | *l* | *v* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *para-savarṇa* | **ṅ** | **ñ** | **ṇ** | **n** | **m** | **ẙ** | **l̊** | **v̊** |

Напрыклад:
*sáṃ+kalpá → saṅ-kalpá / saṃ-kalpá*
*sáṃ+jñā → sañ-jñā́ / saṃ-jñā́*
*náraṃ+ḍamaruḥ → náraṇ ḍamaruḥ / náraṃ ḍamaruḥ*
*nadī́ṃ+tarati → nadī́n tarati / nadī́ṃ tarati*
*phálaṃ+pacati → phálam pacati / phálaṃ pacati*

**але:**
*áśvaṃ+śīghrám → áśvaṃ śīghrám*
*áśvaṃ+harati → áśvaṃ harati*

## Para-savarṇa-sandhi 2

8. Замест *tŭ̊* перад *l* мае быць саварṇа наступнага гука:

*t, th, d, dh → l*
*n → l̐*

Напрыклад:
*nárād+labhate → narā́l labhate*
*áśvān+labhate → áśvāl̐ labhate*

## Pūrva-savarṇa-sandhi

9. Замест *h* пасьля *jha̲Y* можа адменна быць саварṇа папярэдняга гука:

| *jhaY* | *k, kh, g, gh* | *c, ch, j, jh* | *ṭ, ṭh, ḍ, ḍh* | *t, th, d, dh* | *p, ph, b, bh* |
|---|---|---|---|---|---|
| *pūrva-savarṇa* | **gh** | **jh** | **ḍh** | **dh** | **bh** |

Напрыклад:
*vā́g+hasati → vā́g ghasati / vā́g hasati*
*víḍ+hasati → víḍ ḍhasati / víḍ hasati*
*nárād+harati → nárād dharati / nárād harati*
*triṣṭúb+harati → triṣṭúb bharati / triṣṭúb harati*

## Chatva

10. Замест *ś* пасьля *jhaY* перад *aṬ* можа быць *ch*:
*vā́g+śete → vā́k+śete / vā́k chete*
*triṣṭúb śete → triṣṭúp śete / triṣṭúp chete*
*tád śete → táj śete → tác śete / tác chete*
*madhulíḍ śete → madhulíṭ śete / madhulíṭ chete*

## 2. Dhātu-pāṭha

Найбольш аўтарытэтным выражэньнем вйākараņы, граматыкі санскрыту, зьяўляецца твор настаўніка Пāņіні *Aṣṭādhyāyī* "Восем узыходаў". Часткаю граматыкі Пāņіні зьяўляецца *Dhātupāṭha* – пералік усіх першасных каранёў санскрыту. Гэты тэкст налічвае каля 2000 каранёў (разьбежка тлумачыцца тым, што захавалася некалькі рэдакцый гэтага тэксту). Кожнаму кораню ў *Dhātupāṭha* прыпісаныя пэўныя граматычныя пазнакі (*it*) і значэньне (*artha*). Уся граматычная інфармацыя зьмяшчаецца ў адным-двух складох формы кораня. Таму для пасьпяховага вывучэньня санскрыту рэкамэндуецца вывучаць карані такімі, якімі яны прыводзяцца ў *Dhātupāṭha*.

## Artha

Кожны радок у *Dhātupāṭha* складаецца з дзьвюх частак: формы кораня і яго сэнсу. Значэньне (*artha*) кораня звычайна прыводзіцца ў форме саптамī. Некалькі значэньняў могуць быць выражаны складаным словам.

भू॑ सत्तायाम् – корань *bhū* ужываецца ў сэнсе быцьця (*sattā*)
ऋ॒ गतिप्रापणयोः – корань *ṛ* ужываецца ў сэнсе руху (*gati*) і дасягу (*prāpaṇa*)

## Gaṇa, antargaṇa

Карані ў *Dhātupāṭha* разьмешчаны ў пэўным парадку, але гэта не альфабэтнае сартаваньне, да якога мы прывыклі ў сучасных слоўніках.

Перш за ўсё, карані ў *Dhātupāṭha* падзелены на 10 групаў (*gaṇa*) паводле таго, якая вікараṇа ставіцца пасьля іх перад афіксамі *tiṄ* у *kartari-prayoga*. Акрамя таго, групы падзяляюцца на пад-групы (*antar-gaṇa*) паводле пэўных граматычных азнакаў (*seṬ*, *aniṬ*, *veṬ*; *parasmaipadin*, *ātmanepadin*, *ubhayapadin*). І толькі ў трэцюю чаргу карані адсартаваныя паводле парадку гукаў у Ш́іва-сӯтрах – але паводле гука, на які сканчаецца корань.

## Іты

Паводле ітаў (граматычных маркераў), даданых да каранёў у *Dhātu-pāṭha*, можна даведацца, напрыклад, ці зьяўляецца корань *ātmane-*, *parasmai-* або *ubhaya-padin*:

1. Карані, што ня маюць ітаў або маюць удāтта-галосны як іт, зьяўляюцца *parasmai-padin*:

भू – *bhū́* । वदँ – *vádā́* ।

2. Карані, што маюць анудāтта-галосны як іт або *Ṅit*, зьяўляюцца *ātmane-padin*:

एधँ – *édhā* । कूङ् – *kūṄ* ।

3. Карані, што маюць сваріта-галосны як іт або *Ñit*, зьяўляюцца *ubhaya-padin*:

डुदाञ् – *ḍudāñ* । डुपचँष् – *ḍupacā̂ṣ* ।

## Націск

Паводле таго, які націск мае корань (але не яго іт), можна даведацца, ці зьяўляецца корань *seṬ* або *aniṬ*:

1. Карані, што маюць удāтту, зьяўляюцца *seṭ*:

वदँ – *vádā́* → वदिष्यति ।

2. Карані, што маюць анудāтту, зьяўляюцца *aniṭ*:

डुपचँष् – *ḍupacā̂ṣ* → पक्ष्यति ।

## Указальнік каранёў

Парадак каранёў у *Dhātupāṭha* быў разьлічаны на вывучэньне тэксту на памяць. Тым, хто вывучае санскрыт сёньня, ім карыстацца цяжка. Таму лепш карыстацца ўказальнікам да Дга̄тупа̄ṭхі, дзе карані адсартаваныя ў альфабэтным парадку. На кампутары яшчэ зручней карыстацца таблі-цай-указальнікам каранёў: *http://www.svayambhava.org/dhatu-index.xlsx*.

## 3. Kṛd-vṛtti

Некаторыя *kṛt*-афіксы ўтвараюць нязьменныя (*avyaya*) імёны. Такія імёны не скланяюцца – пасьля іх асноваў афіксы *sŭP* замяняюцца на *luk*, г.зн., зьнішчаюцца.

## tumu̲N

Афікс *tumu̲N* дадаецца пасьля кораня, што азначае будучае дзеяньне, дзеля якога робіцца іншае дзеяньне (напр., ідзе рабіць). Сэнс афікса *tumu̲N* аналягічны сэнсу інфінітыва (рабіць). Перад афіксам *tumu̲N* дзейнічае агульнае правіла пра замену на ґуṇу і дадатак *iṬ*. *Nit* патрабуе, каб націск быў на першы галосны слова:
*nī+tumu̲N → nétum* – весьці
*ā+nī+tumu̲N → ā́netum* – прывесьці
*pac+tumu̲N → pák-tum* – гатаваць
*bhū+tumu̲N → bhū+i-tum → bho+i-tum → bhávitum* – быць
*vad+tumu̲N → vád-i-tum* – гаварыць

## Ktvā

Афікс *Ktvā* дадаецца пасьля кораня, дзеяньне якога папярэднічае іншаму дзеяньню, што мае таго самага дзейніка (напр., прыйшоўшы, ён робіць). Сэнс афікса *Ktvā* аналягічны сэнсу дзеепрыслоўю мінулага часу. Паколькі афікс *Ktvā Kit*-пазначаны, перад ім забаронена замена на ґуṇу. Але дзейнічае агульнае правіла пра дадатак *iṬ*. Калі афікс *Ktvā* мае *iṬ*, ён ня лічыцца *Kit*-пазначаным:
*nī+Ktvā → nītvā́* – прывёўшы

*pac+Ktvā → pak-tvā́* – згатаваўшы
*budh+Ktvā → budh+tvā → buddhvā́* – зразумеўшы
*bhū+Ktvā → bhū+tvā → bhūtvā́* – быўшы, узьнікшы
*vad+Ktvā → ud-i-tvā́* – сказаўшы

## LyaP

Калі афікс *Ktvā* ўжываецца пасьля кораня з упасаргай, ён абавязкова замяняецца на афікс *LyaP*. Афікс *LyaP*, хоць і ня мае *Kit*, уважаецца *Kit*-пазначаным, бо насьледуе яго ад афікса *Ktvā*. Таму гуṇа перад ім забаронена. Паколькі ён пачынаецца не на *vaL*, то перад ім ня ставіцца дадатак *iṬ*. *Lit* патрабуе націску на галосны перад афіксам:
*sam+gam+LyaP → saṃ-gám-ya* – зышоўшыся
*ā+nī+LyaP → ā-nī́-ya* – прынесшы
*pra+pac+LyaP → pra-pác-ya* – пачаўшы гатаваць
*pra+budh+LyaP → pra-búdh-ya* – прачнуўшыся
*ni+sad+LyaP → → ni-ṣád-ya* – прысеўшы

## Kṛt-афіксы пасьля ṆiC-канцавых каранёў

Афікс *ṆiC* зьнішчаецца перад не-*iṬ*-пачатковай ārдгадгāтукай:
*cori+ṆvuL → cor-_+aka → cór-aka* – злодзей, крадзежнік
*sam+cori+LyaP → saṃ+cór-_+ya → saṃ-cór-ya* – скраўшы

У астатніх выпадках *ṆiC* застаецца:
*cur+tumu̱N → cori+i-tum → core+itum → córay-itum* – красьці
*cur+Ktvā → cori+i-tvā → core+itvā → coray-itvā́* – скраўшы

## Kṛt-афіксы насьля іншых вытворных каранёў

Замест апошняга *aT* кораня мае быць лопа перад ārдгадгāтукай:
*nínīṣa+ṆvuL → nínīṣ-_+aka → ninī́ṣ-aka* – ахвотны весьці
*nínīṣa+tumu̱N → nínīṣ-_+i-tum → nínīṣ-itum* – хацець весьці
*ninīṣa+Ktvā → ninīṣ-_+itvā → ninīṣ-itvā́* – захацеўшы весьці
*ā+nínīṣa+LyaP → ā+ninīṣ-_+ya → ā-ninī́ṣ-ya* – захацеўшы прывесьці

## Узоры

| *dhātu* | *tumuN* | *ktvā* | *LyaP* |
|---|---|---|---|
| *iṣ* | éṣṭum | iṣṭvā́ | samíṣya |
| *edh* | édhitum | edhitvā́ | samédhya |
| *khād* | khā́ditum | khāditvā́ | prakhā́dya |
| *gam* | gántum | gatvā́ | saṃgámya |
| *corí* | córayitum | corayitvā́ | saṃcórya |
| *nī* | nétum | nītvā́ | ānī́ya |
| *tuṣ* | tóṣṭum | tuṣṭvā́ | pratúṣya |
| *tṝ* | táritum | taritvā́ | avatī́rya |
| *dah* | dágdhum | dagdhvā́ | pradáhya |
| *dṛś* | dráṣṭum | dṛṣṭvā́ | pradṛ́śya |
| *pac* | páktum | paktvā́ | prapácya |
| *budh* | bóddhum | buddhvā́ | prabúdhya |
| *bhū* | bhávitum | bhūtvā́ | prabhū́ya |
| *labh* | lábdhum | labdhvā́ | upalábhya |
| *vad* | váditum | uditvā́ | samúdya |
| *vas* | vásitum | uṣitvā́ | samúṣya |
| *sad* | sáttum | sattvā́ | niṣádya |
| *sev* | sévitum | sevitvā́ | niṣévya |
| *sthā* | sthā́tum | sthātvā́ | prasthā́ya |

## Афіксы a ды u

У сэнсе быцьця пасьля вытворных каранёў можа быць āрдгадгāтука-афікс *a*. Вытворнае імя мае быць жаночага роду, таму паводле агульнага правіла пасьля *aT*-канцавой прāтіпадікі ставіцца афікс *ṬāP*:
*vívadiṣa+a* → *vivadiṣ_ a* → *vivadiṣá+ṬāP* → *vivadiṣā́* – жаданьне гаварыць
*totuṣyá+a* → *totuṣy_+a* → *totuṣyá+ṬāP* → *totuṣyā́* – вялікая радасьць
*putrīyá+a* →*putrīy_+a* → *putrīyá+Ṭāp* → *putrīyā́* – жаданьне мець сына

Пасьля *saN*-канцавога кораня мае быць афікс *u* у сэнсе дзейніка, які робіць сваё дзеяньне выдатна, як звычай ці выконвае сваё права. Паколькі афікс *u* – āрдгадгāтука, то канцавы *aT* перад ім выдаляецца:
*vívadiṣa+u* → *vivadiṣú* – які хоча гаварыць

## Саискрыцка-фраицускія слоўиікі

Ёсьць два добрыя санскрыцка-францускія слоўнікі. Першы – *Dictionnaire Sanscrit-Français*, створаны Надін Счупак (*Nadine Stchoupak*), Л. Ніті і Луі Рэну. Пошукавы інтэрфэйс слоўніка: *http://www.sanskrit-lexicon.uni-koeln.de/scans/STCScan/web/index.php*. Адсканаваная адмена: *http://www.sanskrit-lexicon.uni-koeln.de/scans/STCScan/index.php?sfx=jpg*.

Другі – *Dictionnaire SaNscrit-Français* – твор Эжэн Бюрнуф (*Eugène Burnouf*). Пошукавы інтэрфэйс слоўніка: *http://www.sanskrit-lexicon.uni-koeln.de/scans/BURScan/2013/web/webtc/indexcaller.php*.

## Санскрыцка-расейскі слоўнік

Існуе таксама Санскрыцка-расейскі слоўнік (Санскритско-русский словарь), створаны Верай Качарґіной (з кароткім нарысам граматыкі санскрыту А.А.Залізьняка). Слоўнік арыентаваны на заходнія граматыкі санскрыту, і яго фактычна недастаткова для работы з сапраўднымі арыгінальнымі тэкстамі (у ім усяго каля 28000 словаў). Сьцягнуць слоўнік можна тут: *http://www.indostan.ru/biblioteka/knigi/2564/3025_2_o.zip*.

## Аигельска-санскрыцкія слоўиікі

З ангельска-санскрыцкіх слоўнікаў варта ўзгадаць два. Першы – Ангельска-санскрыцкі слоўнік Вāмана Ші́врāма Āптэ, што таксама існуе ў поўнай і скарочанай адменах.

Пошукавы інтэрфэйс слоўніка: *http://www.sanskrit-lexicon.uni-koeln.de/aequery/index.html*. Адсканаваная адмена: *http://www.sanskrit-lexicon.uni-koeln.de/scans/AEScan/index.php?sfx=jpg*.

Другі – Ангельска-санскрыцкі слоўнік Моньера-Ўільямза. Пошукавы інтэрфэйс слоўніка: *http://www.sanskrit-lexicon.uni-koeln.de/scans/MWEScan/2013/web/webtc/indexcaller.php*.

## Этымалягічиы слоўнік Маифрэда Майргофэра

Варта ўзгадаць таксама Этымалягічны слоўнік стараіндаарыйскае мовы (*Etymologisches Wörterbuch des Altindoarischen*) Манфрэда Майргофэра (*Manfred Mayrhofer*). Гэта ня столькі слоўнік этымалёгіі ў традыцыйным сэнсе, колькі слоўнік індаэўрапейскіх міжмоўных параленяў. Слоўнік можна сьцягнуць тут: *https://docs.google.com/file/d/0B-SjzcPke_37bEk5SU5GX3RJNE0/edit*.

## 2. Niṣṭhā

*Kṛt*-афіксы *Kta* і *Ktavatŭ̊* называюцца тэрмінам *niṣṭhā*. Афіксы *niṣṭhā* ўжываюцца ў сэнсе мінулага часу (*bhūte*), прыгэтым афікс *Kta* – у сэнсе быцьця (*bhāve*) і дачыну (*karmaṇi*), а афікс *Ktavatŭ̊* – у сэнсе дзейніка (*kartari*). Такім чынам, іх сэнс адпавядае дзеепрыметніку мінулага часу залежнага і незалежнага стану:
*ji+Kta → jitá* – пераможаны
*ji+Ktavatŭ̊ → jitávat* – які перамог (перамогшы)

Паколькі афіксы *niṣṭhā* зьяўляюцца *Kit*-пазначанымі, перад імі забаронена замена на ґуṇу:
*tuṣ+Kta → tuṣṭá (ścŭ̊tva)* – узрадаваны
*kṛ+Ktavatŭ̊ → kṛtávat* – які зрабіў

## Асаблівасьці дадаиьия iṬ

Пасьля *aniṬ*-каранёў āґама *iṬ* ня ставіцца:
*ji+Kta → jitá* (*aniṬ*) – пераможаны

Акрамя таго, *iṬ* ня ставіцца пасьля ўсіх *uK*-канцавых, *īD-it*-пазначаных каранёў, а таксама пасьля каранёў, пасьля якіх *iṬ* ставіцца неабавязкова ў іншых выпадках:
*bhū+Kta → bhūtá* (*seṬ*, але *uK*-канцавы) – быты, які быў
*dīpī̊+Kta → dīptá* (*seṬ*, але *īD-it*) – які зьзяў
*vṛt+Kta → vṛttá* (*veṬ* перад *Ktvā*) – які існаваў

Пасьля ўсіх іншых каранёў āґама *iṬ* ставіцца:
*rakṣ+Kta* → *rakṣitá* (*seṬ*) – абаронены

## Niṣṭhā иасьля вытворных каранёў

У выпадку вытворных каранёў дзейнічаюць агульныя правілы: дадаецца *iṬ* і зьнікае канцавы *aT*. Афікс *ṆiC* перад афіксамі *niṣṭhā* таксама зьнікае:
*pac+ṆiC* → *pācí*
*pācí+Kta* → *pācí+ita* → *pāc_+ita* → *pāc-itá* – прымушаны гатаваць
*pac+saN* → *pípakṣa*
*pípakṣa+Kta* → *pípakṣa+ita* → *pipakṣ_+ita* → *pipakṣitá* – які захацеў гатаваць

## Асаблівасьці

Перад *niṣṭhā* замест *m* і *n* на канцы кораня мае быць лопа:
*gam+Kta* → *gatá* – які пайшоў
*tan+Kta* → *tatá* – расьцягнуты

Пасьля *r*- і *d*-канцавой асновы пачатак афіксаў *niṣṭhā* замяняецца на *n*:
*sad+Kta* → *sad+na* → *san-ná* – які сеў
*tṝ+Kta* → *tīr+na* → *tīrṇá* – які пераправіўся, перасечаны

## Ужываньне niṣṭhā

*Niṣṭhā*-канцавыя імёны ўжываюцца як азначэньні:
*sutám rásam* – выціснуты сок
*sutávān nárah̤* – чалавек, які выціснуў

Акрамя таго, *niṣṭhā*-канцавыя імёны могуць ужывацца ў ролі звычайнага дзеяслова ў мінулым часе (бяз розьніцы – сёньня гэты было ці ня сёньня) – так, нібы дзеяслоў “ёсьць” прыгэтым апускаецца:
*nárah̤ rásam sutávān* – Чалавек выціснуў сок.
*rásam nárena sutám* – Сок (быў) выціснуты чалавекам.

## Афікс Kta ў сэнсе дзейніка

Афікс *Kta* звычайна ўжываецца ў сэнсе дачыну ці быцьця. Але пры сэнсе пачатку дзеяньня (з упасаргаю *prá-*), пасьля рух-сэнсавых, непераходных каранёў (*a-karmaka*), каранёў *sthā*, *vas* і некаторых іншых, ён ужываецца і ў сэнсе дзейніка:
*náraḥ kumbhám prakṛtáḥ* – Чалавек пачаў-рабіць гаршчок.
*náraḥ grā́mam gatáḥ* – Чалавек пайшоў у вёску.
*náraḥ bhū́mau sannáḥ* – Чалавек сеў на зямлю.
*náraḥ vṛkṣé sthitáḥ* – Чалавек стаў на дрэва.
*náraḥ grā́me uṣitáḥ* – Чалавек пасяліўся ў вёсцы.

## Sati saptamī

*Niṣṭhā*-канцавыя імёны таксама часта ўжываюцца ў саптамī ў сэнсе азнакі іншага дзеяньня:
*mitré vánaṃ gaté náraḥ āhārám pra-pakváḥ* – Калі сябар пайшоў у лес, чалавек пачаў гатаваць ежу (пры пайшоўшым у лес сябры).
*mitré āhārám pakvávati náraḥ vánam gatáḥ* – Калі сябар згатаваў ежу, чалавек пайшоў у лес (пры згатаваўшым ежу сябры).

## Афікс Kta ў сэнсе быцьця

Акрамя таго, афікс *Kta* можа ўжывацца ў сэнсе быцьця безадносна яго часу. Прыгэтым імя мае быць ніякага роду:
*gatám* – рух
*pakvám* – гатаваньне
*buddhám* – разуменьне
*sthitám* – стаяньне

## Узоры

| *dhātu* | *Kta* | *Ktavatŭ* | *dhātu* | *Kta* | *Ktavatŭ* |
|---|---|---|---|---|---|
| *āp* | āptá | āptávat | *pac* | pakvá | pakvávat |
| *iṣ* | iṣṭá | iṣṭávat | *pā* | pītá | pītávat |
| *edh* | edhitá | edhitávat | *budh* | buddhá | buddhávat |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| *kṛ* | kṛtá | kṛtávat | *bhū* | bhūtá | bhūtávat |
| *kṣālí* | kṣālitá | kṣālitávat | *rakṣ* | rakṣitá | rakṣitávat |
| *khād* | khāditá | khāditávat | *labh* | labdhá | labdhávat |
| *gam* | gatá | gatávat | *vad* | uditá | uditávat |
| *cit* | cittá | cittávat | *vas* | uṣitá | uṣitávat |
| *corí* | coritá | coritávat | *śaṃs* | śaṃsitá | śaṃsitávat |
| *ji* | jitá | jitávat | *śak* | śaktá | śaktávat |
| *tan* | tatá | tatávat | *śikṣ* | śikṣitá | śikṣitávat |
| *tuṣ* | tuṣṭá | tuṣṭávat | *sad* | sanná | sannávat |
| *tṝ* | tīrṇá | tīrṇávat | *su* | sutá | sutávat |
| *dah* | dagdhá | dagdhávat | *sev* | sevitá | sevitávat |
| *dṛś* | dṛṣṭá | dṛṣṭávat | *sthā* | sthītá | sthītávat |
| *nī* | nītá | nītávat | *smṛ* | smṛtá | smṛtávat |

## Формы жаночага роду

Паводле агульнага правіла афікс *ṬāP* мае быць у сэнсе жанчыны пасьля *aT*-канцавых асноваў:
*kṛtáḥ* – зроблены
*kṛta+ṬāP* → *kṛtā́* – зробленая

Калі слова сканчаецца на афікс, што мае маркер *uK* (*u ṛ ḷ* у якасьці *it*), пасьля яго ў сэнсе жанчыны мае быць афікс *ṄīP*:
*kṛ+Ktavatŭ̊ (uG-it)* → *kṛtávat* – які зрабіў
*kṛtávat+ṄīP* → *kṛtávatī* – якая зрабіла

## Афіксы uṆ-ādi

Акрамя асноўных *kṛt*-афіксаў, разгледжаных у папярэдніх занятках, ёсьць яшчэ многа іншых *kṛt*-афіксаў. Але сэнсы іх заўсёды складаюць быцьцё і кāракі. Усе непрадуктыўныя ці нерэгулярныя *kṛt*-афіксы сабраныя ў асаблівыя сӯтры – *uṆ-ādi-sūtrāṇi*. Гэта сӯтры пра *uṆ*-загалоўныя афіксы. Афікс *uṆ* – проста першы зь іх, ім утвараецца, напрыклад, слова *vāy-ú* “вецер”. Тэкст сӯтраў захаваўся ня надта добра ды мае мноства розначытаньняў. Акрамя таго, лічыцца, што гэтыя сӯтры – толькі прыклады ўжываньня афіксаў:

*ṛ+thaN → ártha* – цэль, мэта, сэнс, дачын
*dhṛ+maN → dhárma* – права

## 3. Gaṇa

Паўтарэньне. Карані ў *Dhātu-pāṭha* падзяляюцца на 10 групаў (*gaṇa*) паводле таго, якая вікараṇа ставіцца пасьля кораня перад сāрвадгāтукамі (*tiṄ* і *Śit*), што ўжываюцца ў сэнсе дзейніка (*kartari*). Паводле агульнага правіла гэта вікараṇа *ŚaP*. Гэтае правіла працуе ў выпадку першай групы – *bhv-ādi* (*bhū*-загалоўных) і дзясятай групы – *cur-ādi* (*cur*-загалоўных). Астатнія групы ўтвараюцца як выняткі:
1. *bhv-ādi – ŚaP*
2. *ad-ādi – Śapo luk* (зьнікненьне *ŚaP*)
3. *juhoty-ādi / hv-ādi – Ślu* (зьнікненьне *ŚaP* і падваеньне асновы)
4. *div-ādi – ŚyaN*
5. *sv-ādi – Śnu*
6. *tud-ādi – Śa*
7. *rudh-ādi – ŚnaM*
8. *tan-ādi – u*
9. *kry-ādi – Śnā*
10. *cur-ādi – ṆiC ŚaP*

## Заўвагі нра націск

Паўтарэньне. Агульныя правілы:
1. націск мае быць на пачатак афікса;
2. аснова губляе націск на карысць націску афікса;
3. але калі афікс ненаціскны, аснова захоўвае свой націск.

Усе вывучаныя вікараṇы сканчаюцца на *aT*. *Pit*-пазначаныя афіксы (*tiP, siP, miP*) маюць быць ненаціскнымі. Але пасьля *aT*-канцавой асновы *ўсе l*-замесныя сāрвадгāтукі маюць быць ненаціскнымі:
*vad+ŚaP+tiP → vád-a-ti*
*tuṣ+śyaN+tiP → túṣ-ya-ti*
*tud+śa+tiP → tud-á-ti*
*corí+ŚaP+tiP → coráy-a-ti*

## Замена на ґуṇу

Паўтарэньне. Перад сāрвадгāтукай і āрдгадгāтукай замест канцавога *iK* і замест перадапошняга лёгкага *iK* мае быць ґуṇа. Але ня перад *Kit*- і *Ṅit*-пазначанымі афіксамі. Прыгэтым усе сāрвадгāтукі, што не зьяўляюцца *Pit*-пазначанымі, маюць лічыцца *Ṅit*-пазначанымі.

## Svādi-gaṇa

Пасьля каранёў пятай групы – ці *su*-загалоўных (*sv-ādi*) – перад сāрвадгāтукай у сэнсе дзейніка ставіцца вікараṇа *Śnu*. Паколькі сāрвадгатука *Śnu* не *Pit*-пазначаная, яна аўтаматычна лічыцца *Ṅit*-пазначанаю – перад ёю забаронена замена на ґуṇу. Але яе канцавы гук замяняецца на ґуṇу перад *Pit*-пазначанымі афіксамі *tiṄ*:
*su+lăṬ → su+tiP → su+Śnu+tiP → su-nó-ti*
*su+siP → su+Śnu+siP → su-nó-ṣi (ṣatva)*
*su+tas (Ṅit) → su+Śnu+tas → su-nu-tás*

У першым выпадку націск падае на вікараṇу, бо афікс *tiP* – *Pit*-пазначаны, у другім – пераходзіць з асновы на афікс *tas*.

## Асаблівасьці lĭṄ

Перад *lĭṄ*-заменнымі парасмайпадамі *tiṄ* дадаецца āґама *yā* (← *yāsu̱Ṭ*). Толькі пасьля *aT*-канцавых асноваў *yā* замяняецца на *īy* (якое перад зычнымі ператвараецца ў *ī*):
*su+lĭṄ → su+tiP → su+yā-t → su+Śnu+yā-t → su-nu-yā́t*
*vad+lĭṄ → vad+yā-t → vad+ŚaP+yā-t → vad+ŚaP+īy-t → vad+a+ī-t → vádet*

## Асаблівасьці lŏṬ

Да афіксаў *uttama-puruṣa*, што зьяўляюцца замест *lŏṬ*, дадаецца āґама *āT*, і яны лічацца *Pit*-пазначанымі, таму яны губляюць націск і перад імі мае быць замена на ґуṇу:
*su+Śnú+ā-va → su+nó+ā-va → su-náv-āva*

Афікс *siP* замяняецца на *hi*, які не зьяўляецца *Pit*-пазначаным, таму мае ўласны націск і перад ім ня мае быць замены на ґуṇу. Але *hi* зьнікае пасьля *aT*-канцавой асновы і пасьля афікс-канцавога *uT*, якому не папярэднічае саṃйоґа:
*vad+ŚaP+hi → vád-**a***
*tud+Śa+hi → tud-**á***
*tuṣ+ŚyaN+hi → túṣ-y**a***
*su+Śnu+hi → su-nú*
*āp+Śnu+hi → ā**p-nu-hí***

सु – परस्मैपदानि

| लँट् | | | लँङ् | | |
|---|---|---|---|---|---|
| सुनो॑ति | सुनुत॑ः | सुन्व॑न्ति | अ॑सुनोत् | अ॑सुनुताम् | अ॑सुन्वन् |
| सुनो॑षि | सुनुथ॑ः | सुनुथ॑ | अ॑सुनोः | अ॑सुनुतम् | अ॑सुनुत |
| सुनो॑मि | सुनुव॑ः / सुन्व॑ः | सुनुम॑ः / सुन्म॑ः | अ॑सुनवम् | अ॑सुनुव / अ॑सुन्व | अ॑सुनुम / अ॑सुन्म |
| **लोँट्** | | | **लिँङ्** | | |
| सुनो॑तु | सुनुता॑म् | सुन्व॑न्तु | सुनुया॑त् | सुनुया॑ताम् | सुनुयु॑ः |
| सुनु॑ | सुनुत॑म् | सुनुत॑ | सुनुया॑ः | सुनुया॑तम् | सुनुया॑त |
| सुन॑वानि | सुन॑वाव | सुन॑वाम | सुनुया॑म् | सुनुया॑व | सुनुया॑म |

## Асаблівасьці h<u>a</u>L-канцавых каранёў

Калі афіксы *tiṄ* пачынаюцца на галосны, дзейнічае правіла пра *y<u>a</u>Ṇ-sandhi*:
*su+jhi (Ṅit) → su+Śnu+anti → su-nv-ánti (y<u>a</u>Ṇ-sandhi)*

Але калі корань сканчаецца на *h<u>a</u>L*, то апошні зычны кораня разам з пачатковым зычным афікса *Śnu* утвараюць саṃйоґу. У такім разе канцавы *u* асновы замяпяецца на *uv<u>a</u>Ṅ* (*uv*):
*āp+Śnu+anti → āp-n**uv**-ánti*

आप् – परस्मैपदानि

| | लँट् | | | लँङ् | |
|---|---|---|---|---|---|
| आप्नो॑ति | आप्नुत॑ः | आप्नुव॑न्ति | आ॑प्नोत् | आ॑प्नुताम् | आ॑प्नुवन् |
| आप्नो॑षि | आप्नुथ॑ः | आप्नुथ॑ | आ॑प्नोः | आ॑प्नुतम् | आ॑प्नुत |
| आप्नो॑मि | आप्नुव॑ः | आप्नुम॑ः | आ॑प्नवम् | आ॑प्नुव | आ॑प्नुम |
| | लोँट् | | | लिँङ् | |
| आप्नो॑तु | आप्नुता॑म् | आप्नुव॑न्तु | आप्नुया॑त् | आप्नुया॑ताम् | आप्नुयु॑ः |
| आप्नुहि॑ | आप्नुत॑म् | आप्नुत॑ | आप्नुया॑ः | आप्नुया॑तम् | आप्नुया॑त |
| आप्न॑वानि | आप्न॑वाव | आप्न॑वाम | आप्नुया॑म् | आप्नुया॑व | आप्नुया॑म |

## Tanādi-gaṇa

Пасьля каранёў восьмай групы (*tan-ādi*) перад сāрвадгāтукамі ў сэнсе дзейніка ставіцца вікараṇа *u*. Яна не сāрвадгāтука і ня *Pit*, таму перад ёй мае быць ґуṇа. Само *u* мяняецца на ґуṇу перад *Pit*-пазначанымі афіксамі *tiṄ*:
*tan+lăṬ → tan+tiP → tan+u+tiP → tan-**ó**-ti*
*tan+tas (Ṅit) → tan+u+tas → tan-nu-tás*

तन् – परस्मैपदानि

| | लँट् | | | लँङ् | |
|---|---|---|---|---|---|
| तनो॑ति | तनुत॑ः | तन्व॑न्ति | अ॑तनोत् | अ॑तनुताम् | अ॑तन्वन् |
| तनो॑षि | तनुथ॑ः | तनुथ॑ | अ॑तनोः | अ॑तनुतम् | अ॑तनुत |
| तनो॑मि | तनुव॑ः / तन्व॑ः | तनुम॑ः / तन्म॑ः | अ॑तनवम् | अ॑तनुव / अ॑तन्व | अ॑तनुम / अ॑तन्म |
| | लोँट् | | | लिँङ् | |
| तनो॑तु | तनुता॑म् | तन्व॑न्तु | तनुया॑त् | तनुया॑ताम् | तनुयु॑ः |
| तनु॑ | तनुत॑म् | तनुत॑ | तनुया॑ः | तनुया॑तम् | तनुया॑त |
| तन॑वानि | तन॑वाव | तन॑वाम | तनुया॑म् | तनुया॑व | तनुया॑म |

У кораня *kṛ* “рабіць” перад не-*Pit*-пазначанымі афіксамі *tiṄ* галосны *aT* (узьніклы ў выніку ґуṇы замест *r*) замяняецца на *uT*:
*kṛ+lăṬ → kṛ+tiP → kṛ+u+tiP → kar+u+tiP → kar-ó-ti*
*kṛ+tas (Ṅit) → kṛ+u+tas → kar+u+tas → kur-u-tás*

कृ – परस्मैपदानि

| | लँट् | | | लँङ् | |
|---|---|---|---|---|---|
| करो॑ति | कुरुत॑ः | कुर्व॑न्ति | अ॑करोत् | अ॑कुरुताम् | अ॑कुर्वन् |
| करो॑षि | कुरुथ॑ः | कुरुथ॑ | अ॑करोः | अ॑कुरुतम् | अ॑कुरुत |
| करो॑मि | कुर्व॑ः | कुर्म॑ः | अ॑करवम् | अ॑कुर्व | अ॑कुर्म |
| | लोँट् | | | लिँङ् | |
| करो॑तु | कुरुता॑म् | कुर्व॑न्तु | कुर्या॑त् | कुर्या॑ताम् | कुर्यु॑ः |
| कुरु॑ | कुरुत॑म् | कुरुत॑ | कुर्या॑ः | कुर्या॑तम् | कुर्या॑त |
| कर॑वाणि | कर॑वाव | कर॑वाम | कुर्या॑म् | कुर्या॑व | कुर्या॑म |

## 4. Ktavatŭ̈-канцавыя асновы

Асновы, утвораныя афіксам *Ktavatŭ̈*, утвараюць такія самыя формы, як і *Śatṛ̈*-канцавыя асновы (бо сканчаюцца на *uG-it*), акрамя аднае формы: *prathamā ekavacanam*, дзе падаўжаецца апошні галосны:

*ktavatŭ̈*-канцавая аснова мужчынскага роду *kṛtávat*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | कृत॑वान् | कृत॑वन्तौ | कृत॑वन्तः |
| २ | कृत॑वन्तम् | कृत॑वन्तौ | कृत॑वतः |
| ३ | कृत॑वता | कृत॑वद्भ्याम् | कृत॑वद्भिः |
| ४ | कृत॑वते | कृत॑वद्भ्याम् | कृत॑वद्भ्यः |
| ५ | कृत॑वतः | कृत॑वद्भ्याम् | कृत॑वद्भ्यः |
| ६ | कृत॑वतः | कृत॑वतोः | कृत॑वताम् |

| | | | |
|---|---|---|---|
| ७ | कृत॑वति | कृत॑वतोः | कृत॑वत्सु |
| आ॰ | हे कृ॑तवन् | हे कृ॑तवन्तौ | हे कृ॑तवन्तः |

## An-канцавыя асновы

1. Перад сарванāмастхāнамі апошні галосны *an*-канцавых асноў падаўжаецца:
*rā́jā*, *rā́jānau, rā́jānaḥ, rā́jānam*
*rā́jan+au* → *rā́j**ā**nau*

2. Прāтіпадіка-канцавы *n* на канцы пады заўсёды замяпяецца на лопу:
*rā́jā_, rā́ja_bhyām, rā́ja_bhiḥ, rā́ja_su*
*rā́jan+sǔ* → *rā́jan_ (sǔ-lopa)* → *rā́jān* → *rā́jā (na-lopa)*

3. Перадапошні *aT* асновы *bha* зьнікае, калі яму не папярэднічае саṁйоґа:
*rā́jan+Ṭā* → *rā́j_n+ā* → *rā́jñā (ścǔtva),* **але:** *ātmán-ā*

Перад *Ṅi* (*saptamī ekavacanam*) і *Śī* (*prathamā/dvitīyā dvivacanam, napuṃsaka-liṅga*) *aT* зьнікае неабавязкова, калі яму не папярэднічае саṁйоґа:
*rā́jan+Ṅi* → *rā́jñi / rā́jani*
*nā́man+Śī* → *nā́mnī / nā́manī*

*an*-канцавая аснова мужчынскага роду *rā́jan*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | रा॑जा | रा॑जानौ | रा॑जानः |
| २ | रा॑जानम् | रा॑जानौ | रा॑ज्ञः |
| ३ | रा॑ज्ञा | रा॑जभ्याम् | रा॑जभिः |
| ४ | रा॑ज्ञे | रा॑जभ्याम् | रा॑जभ्यः |
| ५ | रा॑ज्ञः | रा॑जभ्याम् | रा॑जभ्यः |
| ६ | रा॑ज्ञः | रा॑ज्ञोः | रा॑ज्ञाम् |
| ७ | रा॑जनि / रा॑ज्ञि | रा॑ज्ञोः | रा॑जसु |
| आ॰ | हे रा॑जन् | हे रा॑जानौ | हे रा॑जानः |

*an*-канцавая аснова мужчынскага роду *ātmán*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | आत्मा॑ | आत्मा॑नौ | आत्मा॑नः |
| २ | आत्मा॑नम् | आत्मा॑नौ | आत्म॑नः |
| ३ | आत्म॑ना | आत्म॑भ्याम् | आत्म॑भिः |
| ४ | आत्म॑ने | आत्म॑भ्याम् | आत्म॑भ्यः |
| ५ | आत्म॑नः | आत्म॑भ्याम् | आत्म॑भ्यः |
| ६ | आत्म॑नः | आत्म॑नोः | आत्म॑नाम् |
| ७ | आत्म॑नि | आत्म॑नोः | आत्म॑सु |
| आ॰ | हे आ॑त्मन् | हे आ॑त्मानौ | हे आ॑त्मानः |

*an*-канцавая аснова ніякага роду *kárman*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | क॑र्म | क॑र्मणी | क॑र्माणि |
| २ | क॑र्म | क॑र्मणी | क॑र्माणि |
| ३ | क॑र्मणा | क॑र्मभ्याम् | क॑र्मभिः |
| ४ | क॑र्मणे | क॑र्मभ्याम् | क॑र्मभ्यः |
| ५ | क॑र्मणः | क॑र्मभ्याम् | क॑र्मभ्यः |
| ६ | क॑र्मणः | क॑र्मणोः | क॑र्मणाम् |
| ७ | क॑र्मणि | क॑र्मणोः | क॑र्मसु |
| आ॰ | हे क॑र्मन् | हे क॑र्मणी | हे क॑र्माणि |

## Слоўнік

आप् । आ॒पृँ॑ । स्वा॰ प॰ अनि॑ट् । आप्नोति । дасягаць, здабываць । णिच् – आपि॑ । सन् – ई॑प्स ॥

कृ । डुकृञ् । त॰ उ॰ अनिट् । करोति कुरुते । рабіць । यक् – क्रियते । णिच् – कारि । सन् – चिकीर्ष । यङ् – चेक्रिय ॥

तन् । तनुँ । त॰ उ॰ अनिट् । तनोति तनुते । цягнуць, працягваць । यक् – तन्यते / तायते । णिच् – तानि । सन् – तितनिष । यङ् – तन्तन्य । क्त – तत ॥

तॄ । तॄ । भ्वा॰ प॰ सेट् । तरति । перапраўляцца, перасякаць । यक् – तीर्यते । णिच् – तारि । सन् – तितीर्ष / तितरिष । यङ् – तेतीर्य । क्त – तीर्ण ॥

शक् । शकॢँ । स्वा॰ अनिट् प॰ । शक्नोति । магчы । णिच् – शाकि ॥

सु । स्वा॰ उ॰ अनिट् । सुनोति सुनुते । выціскаць, спараджаць । यक् – सूयते । णिच् – सावि । सन् – सुषूष । यङ् – सोषूय ॥

आत्मन् । पुं॰ । Сам ॥

कर्मन् । न॰ । чын, справа, учынак ॥

कुम्भ । पुं॰ । гаршчок ॥

रस । पुं॰ । сок, смак ॥

राजन् । पुं॰ । валадар ॥

## Практыкаваиьне 1

सवित्री वने मधु फलानि चाप्नोति ।१।
गुरुरात्मनात्मानं जितवान् ।२।
पाचकः कुम्भे बहुभ्यः फलेभ्यो रसं सुनोति ।३।
वृक्षाल्लब्धानि फलान्याहारं पचत ।४।
वनादागतस्य बुद्धस्य गुरोर्वाचो बाला बुद्धवन्तः ।५।
राज्ञा जितैर्द्विड्भिः शीघ्रा नदी तीर्णा ।६।
वने राज्ञश्चोरितमश्वं सेवक आप्तवान् ।७।
फलेषु लब्धेषु भ्राता स्वसा च ग्रामं वनाद्गतौ ।८।
पिता वारिणे दर्शनीयं कुम्भमकरोत् ।९।

## Практыкаваиьне 2

1. Людзі праславілі валадара, які перамог ворагаў.
2. Слугі хай возьмуць плады з дрэваў і выціскаюць сок.
3. Каля ракі кпязь знайшоў свайго прыгожага каня (= каня сябе).
4. Бацька зрабіў два збаны для вады і мёду.
5. Дзеці змаглі выціснуць сок з пладоў, прынесеных бацькамі.
6. Настаўнік пайшоў зь вёскі жыць у лесе.
7. Бацька, бачучы слаўныя ўчынкі сваіх дзяцей, вельмі радуецца.
8. Калі ежа была прыгатаваная, людзі пачалі есьці.
9. Князь здабыў славу сваімі ўчынкамі, а ня словамі.

## Заданьне

1. Вывучыць новыя ўтварэньні афіксамі *kṛt*.
2. Вывучыць новыя ўзоры спражэньня і скланеньня.
3. Вывучыць новыя словы.
4. Зрабіць практыкаваньні на пераклад, ужываючы правілы сандгі.

॥ ॐ श्रीगुतरुभ्यो नमः ॥

# 1. Санскрыцка-саискрыцкія слоўнікі

Акрамя перакладных слоўнікаў, створаных збольшага заходнімі лексікографамі, існуюць таксама санскрыцка-санскрыцкія слоўнікі, створаныя традыцыйнымі вучонымі-паṇḍітамі. Зьвесткі гэтых слоўнікаў на парадак больш аўтарытэтныя. Сярод іх выдзяляюцца слоўнікі сінонімаў, такія, як *Amarakośa*, дзе значэньне слова можна зразумець празь яго сінонімы ці родавае паняцьце; а таксама такія фундамэнтальныя энцыкляпэдычныя творы, як *Vācaspatyam* і *Śabdakalpadruma*.

## Amarakośa

Сярэднявечны санскрыцка-санскрыцкі слоўнік-тэзаўрус *Amara-kośa* быў створаны вучоным-паṇḍітам Амарасіṃгам (*Amarasiṃha*) прыблізна ў V ст. Ён лічыцца найстарэйшым і найпапулярным санскрыцкім лексікаграфічным творам. Яго поўная назва – *Nāma-liṅga-anuśāsana* “Настава пра імёны і род”. Слоўнік напісаны ў вершаванай форме, бо быў прызначаны для завучваньня на памяць. Ён падзелены на тры кнігі, у якіх словы разьмеркаваныя ў тэмах паводле традыцыйнае карціны сьвету. Так, напрыклад, выглядае пералік сінонімаў слова *śukla* “сьветлы”:

शुभ्र-शुचि-श्वेत-विशद-श्येत-पाण्डराः ।
अवदातः सितो गौरो वलक्षो धवलोऽर्जुनः ॥

Пошукавы інтэрфэйс слоўніка: *http://sanskrit.jnu.ac.in/amara/index.jsp*.

Пазьнейшыя падобныя творы: *Halayudha-kośa*, *Vaijayanti-kośa*, *Maṅkha-kośa*, *Nāma-mālā*, *Anekārtha-samgraha* ды іншыя.

## Śabdakalpadruma

*Śabda-kalpadruma* – гэта вядомы пяцітомавы санскрыцкі лексікон, створаны бэнґальскімі вучонымі-паṇḍітамі пры падтрымцы Бэнґальскага князя Рāджы Рāдґāкāнты Дэба. У гэтай кнізе ўказваюцца афіксы,

якімі ўтвораны словы (нярэдка са спасылкаю на адпаведнае правіла з Аштāдгāйī), указваецца іх род і санскрыцкія сінонімы. Слоўнік абагульняе мноства традыцыйных лексікаграфічных крыніцаў у адным тэксьце і зьмяшчае цытаты зь вялікай колькасьці арыгінальных твораў.

Пошукавы інтэрфэйс слоўніка: *http://www.sanskrit-lexicon.uni-koeln.de/scans/SKDScan/2013/web/index.php*.

## Vācaspatya

*Vācaspatya* – гэта яшчэ адзін санскрыцкі лексікон, створаны паṇдітам Тāрāнāтхам Таркавāчаспаті з Калькутты. Ён вельмі падрабязны да літары *pa* і вельмі павярхоўны далей. У гэтым нібыта вінны бэнґальскі ўрад, які ў вялікай меры спансараваў работу са стварэньня слоўніка. Слоўнік складаецца з шасьці тамоў.

Пошукавы інтэрфэйс слоўніка: *http://www.sanskrit-lexicon.uni-koeln.de/scans/VCPScan/2013/web/index.php*.

## 2. Taddhita-vṛtti

Афіксы, што дадаюцца да прāтіпадікі або пады і ўтвараюць новую аснову імені, называюцца *taddhita*. Афіксы *taddhita* скарачаюць сэнс часткі словазлучэньня – яны дадаюцца да асновы імені, што мае сэнс першага з сэнсава-зьвязаных словаў, у сэнсе ўсяго словазлучэньпя. Так, напрыклад, афікс *aṆ* прызначаецца ў сэнсе словаў – *tasya apatyam* (яго нашчадак). Аснова *Upagu* – уласнае імя чалавека. Такім чынам, словазлучэньне *Upagoḥ apatyam* “нашчадак Упаґу” можа быць скарочана да слова *Aupagavá* “Упагу-овіч”. Замест Упаґу могуць быць іншыя словы, што адпавядаюць умовам правіла:
*Upagoḥ apatyam = Upagu-aṆ → aupagavá* – нашчадак Упаґу

## Gati

*Pra*-загалоўныя словы (*pra*, *parā*, *apa*, *sam* ...), калі яны ўжываюцца ў сувязі зь дзеяньнем, называюцца *upasarga*. Акрамя таго, яны называ-

юцца тэрмінам *gati*. Упасаргі і ґаті – гэта прэвэрбы, словы, што мадыфікуюць дзеяньне (напр., *prá gacchati* "ідзе наперад"). Але тэрмін ґаті шырэйшы – ён улучае нашмат больш словаў. Акрамя *pra*-загалоўных слоў, ён улучае ў сябе і вытворныя словы, што могуць утварацца ад усякага слова адмысловымі афіксамі *taddhita*.

## Cvi̱

Таддгіта афікс *Cvi̱* дадаецца да асновы імені, што мае сэнс дзейніка станаўленьня, і ўжываецца ў сувязі зь дзеясловамі *kṛ* "рабіць", *bhū* "быць", *as* "ёсьць". Сэнс станаўленьня тлумачыцца звычайна як *a-bhūta-tad-bhāva* – "станаўленьне тым, чым ня быў раней":
*ávṛkṣaḥ vṛkṣáḥ sám padyate* (ня-дрэва стаецца дрэвам) = *vṛkṣá+Cvi̱* (+ *karoti*, *bhavati*, *asti*)

Тое, што сканчаецца на афікс *Cvi̱,* называецца ніпāтай і ґаті. І паколькі ўсе ніпāты – пязьменныя словы, пасьля афікса *Cvi* канчаткі *sŭP* выдаляюцца. Афікс *Cvi̱* надзвычай прадуктыўны, ён ператварае ў ґаті ўсякае слова.

## Зьмены гукаў перад Cvi̱

Афікс *Cvi̱* складаецца з маркера *C*, гука *v* і гука *i*, што ўжываецца толькі дзеля вымаўленьня. Гук *v* безумоўна выдаляецца. Націск заўсёды падае на апошні галосны *Cvi̱*-канцавой асновы:
*samídh+Cvi̱ → samídh_ (karoti / bhavati)* – робіць/цца паленам

Перад *Cvi̱* адбываюцца наступныя зьмены:
1. Замест *aC* мае быць доўгі:
*agní+Cvi̱ → agnī́ (karoti / bhavati)* – робіць/цца агнём
2. Замест *ṛT* мае быць *rīṄ*:
*mātṛ́ Cvi̱ → mātrī́ (karoti / bhavati)* – робіць/цца маці
3. Замест *aT* мае быць *īT*:
*vṛkṣá+Cvi̱ → vṛkṣī́ (karoti / bhavati)* – робіць/цца дрэвам
4. Замест *n* на канцы прāтіпадікі мае быць лопа:
*ātmán+Cvi̱ → ātmán_ → ātmá_ → ātmī́ (karoti / bhavati)* – робіць/цца сабою

## 3. Svādi-gaṇa, ātmanepada

Усе ātманэпады, акрамя *lo̊Ṭ uttama*, не зьяўляюцца *Pit*-пазначанымі і таму лічацца *Ṅit*-пазначанымі – перад імі забаронена замена на ґуṇу. Націск у такім разе падае на першы галосны афікса:
*su+Śnu+te → sunuté*
*su+Śnu+se → sunuṣé (ṣatva)*

Калі афікс пачынаецца на галосны, дзейнічае правіла *ya̲Ṇ-sandhi*:
*su+Śnu+āte → sunvā́te*

Гук *jh a*фікса *jha* ў ātманэпадах пасьля не-*aT*-канцавой асновы замяняецца на *at*:
*su+Śnu+jhe → su+nu+ate → sunváte*

## Асаблівасьці låṬ

Замест *ṭi* (часткі, што пачынаецца з апошняга галоснага) ātманэпадаў, што зьяўляюцца замест *Ṭit*-пазначаных афіксаў *l* (*låṬ*, *lo̊Ṭ* і г.д.), мае быць *eT*:
*labh+låṬ → labh+ta → labh+te → labh+ŚaP+te → lábhate*
*su+låṬ → su+ta → su+te → su+Śnu+te → sunuté*

Пасьля *aT*-канцавой асновы пачатковы *āT* ātманэпадаў замяняецца на *īT*. Пасьля іншых асноваў – не:
*labh+låṬ → labh+ātām → labh+āte → labh+ŚaP+āte → labh+a+īte → lábhete*
*su+låṬ → su+ātām → su+āte → su+Śnu+āte → sunvā́te*

## Асаблівасьці lo̊Ṭ

Канцавы *eT* ātманэпадаў *uttama-puruṣa*, якія зьяўляюцца замест *lo̊Ṭ*, замяняецца на *aiT*. Акрамя таго, да іх дадаецца āґама *āṬ*, і яны лічацца *Pit*-пазначанымі, таму губляюць свой націск, і перад імі мае быць замена на ґуṇу:

*su+lŏṬ → su+vahi → su+vahe → su+vahai → su+Śnu+ā-vahai → su+no+ā-vahai → su-náv-āvahai*

Афікс *thās* замяняецца на *sva*. Пасьля *Śnu* адбываецца *ṣatva*:
*su+thās → su+sva → su+Śnu+sva → sunuṣvá*

## Асаблівасьці lĭṄ

Да āтманэпадаў, што зьяўляюцца на месцы афіксаў *lĭṄ,* дадаецца āґама *sīyuṬ* (*sīy*), пачатковы *s* якой выдаляецца. Āґама зьяўляецца анудāттавай, таму націск на яе не пераносіцца, хаця яна і стае пачаткам афікса. Канцавы *y* āґамы выдаляецца перад зычнымі, але застаецца перад галоснымі:
*su+lĭṄ → su+ta → su+sīy-ta → su+īy-ta → su+ī-ta → su+Śnu+īta → sunvītá*
*su+lĭṄ → su+ātām → su+sīy-ātām → su+īy-ātām → su+Śnu+īta → sunvīyā́tām*

Афікс *jha* замяняецца на *ran*:
*su+jha → su+ran → su+īy-ran → su+ī-ran → su+Śnu+īran → sunvīrán*

सु – आत्मनेपदानि

| लँट् | | | लँङ् | | |
|---|---|---|---|---|---|
| सुनुते॑ | सुन्वा॑ते | सुन्व॑ते | अ॑सुनुत | अ॑सुन्वाताम् | अ॑सुन्वत |
| सुनुषे॑ | सुन्वा॑थे | सुनुध्वे॑ | अ॑सुनुथाः | अ॑सुन्वाथाम् | अ॑सुनुध्वम् |
| सुन्वे॑ | सुनुव॑हे / सुन्व॑हे | सुनुम॑हे / सुन्म॑हे | अ॑सुन्वि | अ॑सुनुवहि / अ॑सुन्वहि | अ॑सुनुमहि / अ॑सुन्महि |

| लोँट् | | | लिँङ् | | |
|---|---|---|---|---|---|
| सुनुता॑म् | सुन्वा॑ताम् | सुन्व॑ताम् | सुन्वीत॑ | सुन्वीया॑ताम् | सुन्वीर॑न् |
| सुनुष्व॑ | सुन्वा॑थाम् | सुनुध्व॑म् | सुन्वीथाः॑ | सुन्वीया॑थाम् | सुन्वीध्व॑म् |
| सुन॑वै | सुन॑वावहै | सुन॑वामहै | सुन्वीय॑ | सुन्वीव॑हि | सुन्वीम॑हि |

आप् – आत्मनेपदानि

| | लँट् | | | लँङ् | |
|---|---|---|---|---|---|
| अश्नुते॑ | अश्नुवा॑ते | अश्नुव॑ते | आ॑श्नुत | आ॑श्नुवाताम् | आ॑श्नुवत |
| अश्नुषे॑ | अश्नुवा॑थे | अश्नुध्वे॑ | आ॑श्नुथाः | आ॑श्नुवाथाम् | आ॑श्नुध्वम् |
| अश्नुवे॑ | अश्नुव॑हे | अश्नुम॑हे | आ॑श्नुवि | आ॑श्नुवहि | आ॑श्नुमहि |
| | **लोँट्** | | | **लिँङ्** | |
| अश्नुता॑म् | अश्नुवा॑ताम् | अश्नुव॑ताम् | अश्नुवीत॑ | अश्नुवीया॑ताम् | अश्नुवीर॑न् |
| अश्नुष्व॑ | अश्नुवा॑थाम् | अश्नुध्व॑म् | अश्नुया॑ः | अश्नुवीया॑थाम् | अश्नुवीध्व॑म् |
| अश्न॑वै | अश्न॑वावहै | अश्न॑वामहै | अश्नुवीय॑ | अश्नुवीव॑हि | अश्नुवीम॑हि |

## Tanādi-gaṇa, ātmanepada

Пасьля *tan*-загалоўных каранёў перад сāрвадгāтукамі ў сэнсе дзейніка ставіцца вікараṇа *u*. Усе формы, што ўтвараюцца ад *tan*-загалоўных каранёў, аналягічныя формам ад *su*-загалоўных:
*tan*+*u*+*te* → *tanuté*

तन् – आत्मनेपदानि

| | लँट् | | | लँङ् | |
|---|---|---|---|---|---|
| तनुते॑ | तन्वा॑ते | तन्व॑ते | अ॑तनुत | अ॑तन्वाताम् | अ॑तन्वत |
| तनुषे॑ | तन्वा॑थे | तनुध्वे॑ | अ॑तनुथाः | अ॑तन्वाथाम् | अ॑तनुध्वम् |
| तन्वे॑ | तनुव॑हे / तन्व॑हे | तनुम॑हे / तन्म॑हे | अ॑तन्वि | अ॑तनुवहि / अ॑तन्वहि | अ॑तनुमहि / अ॑तन्महि |
| | **लोँट्** | | | **लिँङ्** | |
| तनुता॑म् | तन्वा॑ताम् | तन्व॑ताम् | तन्वीत॑ | तन्वीया॑ताम् | तन्वीर॑न् |
| तनुष्व॑ | तन्वा॑थाम् | तनुध्व॑म् | तन्वीथा॑ः | तन्वीया॑थाम् | तन्वीध्व॑म् |
| तन॑वै | तन॑वावहै | तन॑वामहै | तन्वीय॑ | तन्वीव॑हि | तन्वीम॑हि |

У кораня *kṛ* “рабіць” перад не-*Pit*-пазначанымі афіксамі *tiṄ* галосны *aT* замяняецца на *uT*:
*kṛ+te → kṛ+u+te → kar+u+te → kur-u-té*
*kṛ+āte → kṛ+u+āte → kar+u+āte → kurvā́te* (*ya̲Ṇ-sandhi*)

कृ – आत्मनेपदानि

| लँट् | | | लँङ् | | |
|---|---|---|---|---|---|
| कुरुते॑ | कुर्वा॑ते | कुर्व॑ते | अ॑कुरुत | अ॑कुर्वाताम् | अ॑कुर्वत |
| कुरुषे॑ | कुर्वा॑थे | कुरुध्वे॑ | अ॑कुरुथाः | अ॑कुर्वाथाम् | अ॑कुरुध्वम् |
| कुर्वे॑ | कुर्व॑हे | कुर्म॑हे | अ॑कुर्वि | अ॑कुर्वहि | अ॑कुर्महि |
| **लोँट्** | | | **लिँङ्** | | |
| कुरुतां॑म् | कुर्वा॑ताम् | कुर्व॑ताम् | कुर्वी॑त | कुर्वीया॑ताम् | कुर्वीर॑न् |
| कुरुष्वं॑ | कुर्वा॑थाम् | कुरुध्वं॑म् | कुर्वीथा॑ः | कुर्वीया॑थाम् | कुर्वीध्व॑म् |
| करं॑वै | करं॑वावहै | करं॑वामहै | कुर्वीय॑ | कुर्वीव॑हि | कुर्वीम॑हि |

## Афікс Śatṛ̊

Афіксы *sat* (*Śatṛ̊* і *ŚānaC*) замяняюць афікс *lă̊Ṭ*. Яны маюць маркер *Ś* і таму называюцца сāрвадгāтукамі. Гэта азначае, што перад імі ставіцца тая самая вікараṇа і адбываюцца тыя самыя зьмены, што і перад афіксамі *tiṄ*:
*su+lă̊Ṭ → su+Śatṛ̊ → su+Śnu+Śatṛ̊ → sunv-át* – які выціскае
*āp+Śnu+Śatṛ̊ → āpnuv-át* – які дасягае
*tan+lă̊Ṭ → tan+Śatṛ̊ → tan+u+Śatṛ̊ → tanv-át* – які цягне
*kṛ+u+Śatṛ̊ → kar+u+at → kur+u+at → kurv-át* – які робіць

Пасьля ўдāтта-канцавой *Śatṛ̊*-канцавой асновы *aC*-пачатковыя вібакті-афіксы і афікс жаночага роду *ṄīP*, да якіх не дадаецца āгама *nu̲M*, маюць быць націскнымі:
*sunvát+au → sunvánt-au*
**але:** *sunvát+Ṭā → sunvat-ā́*
*sunv-át+ṄīP → sunvatī́*

## Афікс ŚānaC

Афікс *ŚānaC Cit*-пазначаны. Гэта патрабуе націску на канцавы галосны афікса. Аднак пасьля *aT*-канцавых асноваў націск губляецца. Акрамя таго, пасьля *aT*-канцавых асноваў перад афіксам *ŚānaC* ставіцца āґама *mu̱K*. Пасьля іншых асноваў яна ня ставіцца:
*su+Śnu+ŚānaC → sunv-āná* – які выціскае для сябе
*āp+Śnu+ŚānaC → āpnuv-āná* – які дасягае для сябе
*tan+u+ŚānaC → tanv-āná* – які цягне для сябе
*kṛ+u+ŚānaC → kurv-āṇá* – які робіць для сябе

У сэнсе жаночага роду пасьля *śānac*-канцавой асновы ставіцца афікс *ṬāP*: *sunvāná+ṬāP → sunvānā́*

## 4. S-канцавыя асновы

Бальшыня *s*-канцавых асноваў ніякага роду, і таму канчаткі першай і другой вібгакті супадаюць. Перад канчаткам *Śi* дадаецца āґама *nu̱M*, якая далей замяняецца на анусвāру, перадапошні галосны падаўжаецца:
*mánas+Śi → mána**n**s+i → mánāṃsi*

Калі канцавому *s* папярэднічае *iT* або *uT*, дзейнічаюць правілы пра *ṣatva*:
*jyótis+Śi → jyótins+i → jyótīṃ**ṣ**i, jyótis+Ṭā → jyóti**ṣ**ā*

Перад *ha̱L*-пачатковымі канчаткамі адбываецца сандгі як на канцы пады:
*mánas+bhis → mánobhiḥ*
*jyótis+bhis → jyótirbhiḥ*

*s*-канцавая аснова ніякага роду *mánas*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | मं॑नः | मं॑नसी | मं॑नांसि |
| २ | मं॑नः | मं॑नसी | मं॑नांसि |
| ३ | मं॑नसा | मं॑नोभ्याम् | मं॑नोभिः |
| ४ | मं॑नसे | मं॑नोभ्याम् | मं॑नोभ्यः |

| | | | |
|---|---|---|---|
| ५ | म॑नसः | म॑नोभ्याम् | म॑नोभ्यः |
| ६ | म॑नसः | म॑नसोः | म॑नसाम् |
| ७ | म॑नसि | म॑नसोः | म॑नस्सु / म॑नःसु |
| आ॰ | हे म॑नः | हे म॑नसी | हे म॑नांसि |

*s*-канцавая аснова ніякага роду *jyótis*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | ज्यो॑तिः | ज्यो॑तिषी | ज्यो॑तींषि |
| २ | ज्यो॑तिः | ज्यो॑तिषी | ज्यो॑तींषि |
| ३ | ज्यो॑तिषा | ज्यो॑तिर्भ्याम् | ज्यो॑तिर्भिः |
| ४ | ज्यो॑तिषे | ज्यो॑तिर्भ्याम् | ज्यो॑तिर्भ्यः |
| ५ | ज्यो॑तिषः | ज्यो॑तिर्भ्याम् | ज्यो॑तिर्भ्यः |
| ६ | ज्यो॑तिषः | ज्यो॑तिषोः | ज्यो॑तिषाम् |
| ७ | ज्यो॑तिषि | ज्यो॑तिषोः | ज्यो॑तिष्षु / ज्यो॑तिःषु |
| आ॰ | हे ज्यो॑तिः | हे ज्यो॑तिषी | हे ज्यो॑तींषि |

*s*-канцавая аснова ніякага роду *cákṣus*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | च॑क्षुः | च॑क्षुषी | च॑क्षूंषि |
| २ | च॑क्षुः | च॑क्षुषी | च॑क्षूंषि |
| ३ | च॑क्षुषा | च॑क्षुर्भ्याम् | च॑क्षुर्भिः |
| ४ | च॑क्षुषे | च॑क्षुर्भ्याम् | च॑क्षुर्भ्यः |
| ५ | च॑क्षुषः | च॑क्षुर्भ्याम् | च॑क्षुर्भ्यः |
| ६ | च॑क्षुषः | च॑क्षुषोः | च॑क्षुषाम् |
| ७ | च॑क्षुषि | च॑क्षुषोः | च॑क्षुष्षु / च॑क्षुःषु |
| आ॰ | हे च॑क्षुः | हे च॑क्षुषी | हे च॑क्षूंषि |

## Слоўнік

अस् । अंसुँ । दि॰ प॰ सेट् । अंस्यति । кідаць (у – ४, ७, ६)। णिच् – आसिं । सन् – अंसिसिष । यङ् – असास्यं । क्त – अस्तं ॥

चि । चिञ् । स्वा॰ उ॰ अनिट् । चिनोति चिनुते । зьбіраць । यक् – चीयंते । णिच् – चायिं । सन् – चिंचीष । यङ् – चेचीयं ॥

स्मृ । स्मृ । भ्वा॰ प॰ अनिट् । स्मंरति । помніць, узгадваць । यक् – स्मर्यंते । णिच् – स्मारंयति । सन् – सुंस्मूर्ष (आ॰) । यङ् – सास्मर्य । विं । забываць ॥

चंक्षुस् । न॰ । вока, зрок ॥

ज्योंतिस् । न॰ । сьвятло, сьветач, зорка ॥

दिंन । पुं॰ । дзень ॥

धंनुस् । न॰ । лук ॥

पुंत्र । पुं॰ । сын ॥

पुंष्प । न॰ । кветка ॥

मंनस् । न॰ । мысел, орган мысьленьня ॥

रांत्रि । स्त्री॰ । ноч ॥

शरं । पुं॰ । страла ॥

शिंष्य । पुं॰ । вучань ॥

स्वर्ग । पु॰ । неба ॥

## Практыкаваньне 1

दिंने दिने बांला वंने पुंष्पाण्यचिन्वत ।१।

नंरा वांचो मंनसा बोधन्ति ।२।

गुरुंश्चंक्षुषा ज्योंतिषां गंमनं पश्यति ।३।

पांचिका फंलानि चिनोति रसीं कुरुते च ।४।

अद्यं वंनाल्लब्धांः समिंधोऽग्नौं भवन्ति ।५।

रा॑त्रौ स्व॑र्गे च॑क्षुभ्यां ब॑हूनि ज्यो॑तींषि दृश्यन्ते ।६।
द्वि॑षो दृष्ट्वा॑ रा॑जा॒त्म॑नो ध॑नुस्तनुते ।७।
से॑वका आहारं ॑प॑क्तुं व्य॑स्मरन् ।८।
ना॑री फ॑लेभ्यो र॑सं सुन्व॑न्तं सेवक ॑दृष्ट॑वती ।९।

## Практыкаваньне 2

1. Князь убачыў у лесе дзяўчыну, якая зьбірала сабе плады.
2. Кветкі лесу становяцца пладамі.
3. Князі нацягваюць лукі і кідаюць стрэлы ў (да) ворагаў.
4. Уначы сьветачы стаюцца прыгожымі, а днём не бачацца.
5. Слугі валадара ў лесе робяць дрэвы дровамі.
6. Ворагі лукамі і стрэламі заваявалі вёску.
7. Зрабіўшы плады ежаю, два браты селі і пад’елі.
8. Дзіця хай штодня працягвае ўшанаваньне настаўніка.
9. Настаўнік робіць вучня сваім сынам.

## Заданьне

1. Вывучыць новыя ўтварэньні афіксамі *taddhita*.
2. Вывучыць новыя ўзоры спражэньня і скланеньня.
3. Вывучыць новыя словы.
4. Зрабіць практыкаваньні на пераклад, ужываючы правілы сандгі.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

# 1. Санскрыцкая літаратура

Санскрыцкая літаратура налічвае мноства тэкстаў: старажытных, сярэднявечных і сучасных, сьвятарных, навуковых і мастацкіх. Многія санскрыцкія тэксты апублікаваныя і даступныя ў лічбавай адмене, напрыклад у бібліятэцы *Gretil* Ґёттінґенскага ўнівэрсытэту (*http://gretil.sub.uni-goettingen.de/*), некаторыя даступныя толькі ў друкаваным выглядзе, некаторыя ніколі не былі апублікаваныя, некаторыя ствараюцца цяпер прадстаўнікамі жывой ведавай традыцыі. Каб арыентавацца ў санскрыцкай літаратуры, варта ведаць яе жанры і структуру.

## Śruti і smṛti

Традыцыйныя сьвятарныя тэксты падзяляюцца на два вялікія разьдзелы: *śruti* (Слова, “слых”) і *smṛti* (Завет, “памяць”). Слых азначае беспасярэдняе ўспрыманьне, г.зн., тэксты, што выяўляюць знаньне, здабытае беспасярэдне ведавымі паэтамі-мудрацамі *ṛṣi*. Памяць азначае апасяродкаванае ўспрыманьне, пераказ, г.зн., знаньне, перададзенае звыш. Калі пэўным падабенствам *smṛti* могуць быць сьвятарныя тэксты іншых традыцый, то нічога аналягічнага *śruti,* ці Ведам, няма.

## Saṃhitā

Тэксты *śruti* складаюць чатыры разьдзелы:

1. *Saṃhitā*. Саṃгіты – гэта зборнікі паэзіі, створанай рышы, заснавальнікамі ведавай традыцыі. У вузкім сэнсе менавіта тэксты саṃгітаў называюць Ведамі. Ведаў чатыры: *Ṛg-veda* (веда рчаў, гімнаў), *Sāma-veda* (веда са̄манаў, напеваў), *Yajur-veda* (веда йаджусаў, аброчных сказаў), *Atharva-veda* (веда замоў, заклёнаў). Паводле традыцыі першапачаткова чатыры Веды ўяўлялі сабою адно цэлае, але пазьней яны былі падзеленыя мудрацом Вйа̄сам. Чатыры Веды адпавядаюць чатыром сьвятаром, якія разам зьдзяйсьняюць ведавы аброчны абрад (*hotṛ*, *udgātṛ*, *adhvaryu*, *brāhmaṇa*). У абрадзе чатыры Веды зноў аб’ядноўваюцца ў адно цэлае ў адзіным чыне.

## Brāhmaṇa, āraṇyaka, upaniṣad

Астатнія тэксты ш́руті зьяўляюцца зьясьненьнямі да саṃгітаў рознага ўзроўню. Вывучэньне чатырох частак Ведаў адпавядае таксама чатыром стадыям жыцьця (*āśrama*) пасьвечанага ў традыцыю.

2. *Brāhmaṇa*. Бра̄гмаṇы – гэта зьясьненьні да Ведаў, якія тлумачаць ведавыя гімны й абрады. Лічыцца, што яны складаюць “разьдзел чыну” (*karma-kāṇḍa*) і адпавядаюць другому пэрыяду жыцьця бра̄гмаṇа – *gṛhastha* (дамавіт).

3. *Āraṇyaka*. А̄раṇйакі (лясныя тэксты) – гэта зьясьненьні да Ведаў, што складаюць “разьдзел пашаны” (*upāsana-kāṇḍa*) і адпавядаюць трэцяму пэрыяду жыцьця бра̄гмаṇа – *vānaprastha* (які выправіўся ў лес).

4. *Upaniṣad*. Упанішады – гэта найвышэйшая частка ш́руті, што складае “разьдзел знаньня” (*jñāna-kāṇḍa*) і адпавядае чацьвертаму пэрыяду жыцьця бра̄гмаṇа – *saṃnyāsin* (суняты). Гэта размовы настаўнікаў і вучняў, у якіх перадаецца навышняе знаньне.

## Vedāṅga, śāstra

Усе іншыя сьвятарныя традыцыйныя тэксты належаць да смр̣ті. Тэксты смр̣ті складаюць:

1. *Vedāṅga*. Веда̄ṅгі (часткі цела Веды) – гэта шэсьць галоўных традыцыйных навук, патрэбных для належнага вывучэньня Ведаў: *śikṣā* (фанэтыка), *vyākaraṇa* (граматыка), *nirukta* (этымалёгія), *chandas* (прасодыка), *kalpa* (рытуалістыка), *jyautiṣa* (астралёгія).

2. *Śāstra*. Дгарма-ш́а̄стры (наставы пра дгарму, права) называюцца таксама смр̣ті ў вузкім сэнсе слова. Гэта васямнаццаць зборнікаў законаў, наставаў пра тое, якім чынам мае быць уладкаванае чалавечае грамадзтва. Найбольш вядомы сярод іх – *Manu-smṛti* (Завет Ману), напісаны вершамі.

 

## Purāṇa, itihāsa, āgama

3. *Purāṇa*. Пурāṇы (старажытныя) – гэта міталягічныя паэтычныя тэксты, што распавядаюць пра стварэньне і гісторыю сьвету, дэваў, асураў і герояў, даюць настаўленьні ў найрозных галінах традыцыйнага знаньня. Ёсьць васямнаццаць галоўных пурāṇаў і васямнаццаць дадатковых (*upa-purāṇa*).

4. *Itihāsa*. Слова *itihāsa* ўтварылася ад словазлучэньня *iti ha āsa* “так менавіта і было” ды азначае гісторыю. Ітіґāсы – гэта паэмы, у якіх апісваецца сапраўдныя падзеі старажытнасьці. Ітіґāсамі называюць паэму Вйāсы *Mahābhārata* і паэму Вāльмīкі *Rāmāyaṇa*.

5. *Āgama*. Āґамы, ці “аб’яўленьні”, – гэта традыцыйныя рэлігійныя тэксты, што выкладаюць тэалёгію і філязофію пэўнае галіны індуізму. Да āґамаў належаць таксама тантры (*tantra*).

## Upaveda, upāṅga

Сярод шматлікіх традыцыйных навуковых тэкстаў можна выдзеліць упāнґі і упаведы:

1. *Upāṅga*. Традыцыйныя філязафічныя дактрыны Індыі называюцца *darśana* (гледзішча). Выдзяляюць шэсьць галоўных даршанаў, якія маюць статус *upāṅga* (дапаможнае часткі Веды): *vedānta*, *sāṅkhya*, *yoga*, *mīmāṇsā*, *nyāya*, *vaiśeṣika*.

2. *Upaveda*. Традыцыйныя практычныя навукі называюцца *upaveda*. Выдзяляюць чатыры упаведы – *āyur-veda* (мэдыцына), *dhanur-veda* (баявое ўмельства), *gandharva-veda* (музыка), *sthāpatya-veda* (дойлідства).

## 2. matŭ̊P

*Taddhita*-афікс *matŭ̊P* дадаецца пасьля асновы імені ў сэнсе “гэта ў яго ёсьць” або “гэта ў ім ёсьць”. Пасьля асновы, што сканчаецца на ўдāттаhrasva, афікс *matŭ̊P* мае націск, пасьля астатніх асноў – губляе:

*vā́ri ásya / ásmin asti = vā́ri+matŭ̊P* → ***vā́rimat*** – у якога / якім ёсьць вада (вадавіты)
*agníḥ ásya / ásmin asti = agní+matŭ̊P* → *agnimát* – у якога / якім ёсьць агонь (агнявіты)

## Асаблівасьці афікса matŭ̊P

Пасьля *m*- і *aT*-канцавых асноў, а таксама пасьля *m*- і *aT*-перадапошніх асноў, замест пачатковага *m* мае быць *v*:
*vṛkṣā́ḥ ásya / ásmin santi = vṛkṣá+matŭ̊P* → *vṛkṣa-vát* – у якога / якім ёсьць дрэвы
*kāmáḥ ásya / ásmin asti = kā́ma+matŭ̊P* → *kā́ma-vat* – у якога / якім ёсьць любоў
*mánaḥ ásya / ásmin asti = mánas+matŭ̊P* → *mánas-vat* – у якога / якім ёсьць мысел (мыславіты)

## Matv̥̊-arthīya-афіксы

Сэнс “гэта ў яго ёсьць” або “гэта ў ім ёсьць” называецца *matv̥̊-artha* (сэнсам афікса *matŭ̊P*). У гэтым сэнсе да асновы імені дадаюцца і іншыя афіксы – яны называюцца *matv̥̊-arthīya*. Напрыклад, пасьля *aT*-канцавых асноваў у гэтым сэнсе можа быць афікс *ini̱*. Прыгэтым канцавы *aT* замяняецца на лопу:
*dhánaḥ ásya / ásmin asti = dhána+ini̱* → *dhan-ín* – у якога / якім ёсьць грошы (грашавіты)

Пасьля *as*-канцавых асноваў можа быць *matv-arthīya*-афікс *vini̱*:
*mánaḥ ásya / ásmin asti = mánas+vini̱* → *manasvín* – у якога / якім ёсьць мысел (мыславіты)

## tamaP

Таддгіта-афікс *tamaP* дадаецца пасьля асновы імені ў сэнсе пераўзыходжаньня, перавышэньня:
*atiśayéna súndaraḥ = súndara+tamaP* → *súndara-tama* – найпрыгожы, найпрыгажэйшы

Слова, дачынна якога робіцца параўнаньне, ставіцца ў саптамī ці шаштхī:
*bā́lānām / bā́lāsu súndaratamā* – найпрыгажэйшая зь дзяўчат

Прыгэтым афікс *tamaP* можа быць ня толькі пасьля “прыметнікаў”, але і пасьля ўсіх імёнаў:
*atiśayéna vṛkṣáḥ = vṛkṣátama* – най-дрэва, найлепшае дрэва

## taraP

Таддгіта-афікс *taraP* дадаецца пасьля пасьля асновы імені ў сэнсе пераўзыходжаньня пры параўнаньні двух ці адасабленьня:
*(nárāt) atiśáyena súndaraḥ = súndara+taraP → súndara-taraḥ* – прыгажэйшы, больш прыгожы (за чалавека)

Прыгэтым слова, дачынна якога робіцца параўнаньне, ставіцца ў паньчамī:
*bā́lāyāḥ súndara-tarā* – прыгажэйшая за дзяўчыну

Афікс *taraP* таксама можа быць ня толькі пасьля “прыметнікаў”, але і пасьля ўсіх імёнаў:
*nṛpā́t gurútaraḥ* – большы, лепшы настаўнік за князя

## Асаблівасьці tamaP і taraP

Таддгіта-афіксы *tamaP* і *taraP* могуць дадавацца і пасьля нязьменных словаў. Прыгэтым пасьля іх мае быць афікс -*āmu̱*:
*atiśayéna álpam vadati = álpa+tamaP+āmu̱ → alpa-tamā́m vadati* – найменш гаворыць
*nárāt atiśayéna álpam vadati = álpa+taraP+āmu̱ → nárāt alpa-tarā́m vadati* – гаворыць менш за чалавека

Акрамя таго, *tamaP* і *taraP* могуць дадавацца і пасьля дзеясловаў. Прыгэтым пасьля іх таксама мае быць афікс -*āmu̱*:
*nárānām pacati-tamā́m* – гатуе найбольш сярод людзей
*nárāt pacati-tarā́m* – гатуе больш за чалавека

## 3. Kryādi-gaṇa

Пасьля каранёў дзявятай – ці *krī*-загалоўнай – групы перад сāрвадгāтука-афіксамі ў сэнсе дзейніка мае быць вікараṇа *Śnā*. Афікс *Śnā* – сāрвадгāтука і ня *Pit*-пазначаны і таму лічыцца *Ṅit*-пазначаным. Таму перад ім забаронена замена на ґуṇу:
*krī*+*Śnā*+*tiP* → *krī*+*Śnā*+*tiP* → *krī-ṇā́-ti* – купляе

Перад *Ṅit*-пазначанымі *haL*-пачатковымі канчаткамі канцавы *āT* вікараṇы замяняецца на *īT*:
*krī*+*Śnā*+*tas* → *krī-n**ī**-táḥ* – яны купляюць

Перад *aC*-пачатковымі афіксамі канцавы *āT* вікараṇы замяняецца на лопу:
*krī*+*Śnā*+*anti* → *krī-**ṇ**-ánti* – яны купляюць

क्री – परस्मैपदानि

| लँट् | | | लँङ् | | |
|---|---|---|---|---|---|
| क्रीणा॑ति | क्रीणीत॑ः | क्रीण॑न्ति | अ॑क्रीणात् | अ॑क्रीणीताम् | अ॑क्रीणन् |
| क्रीणा॑सि | क्रीणीथ॑ः | क्रीणीथ॑ | अ॑क्रीणाः | अ॑क्रीणीतम् | अ॑क्रीणीत |
| क्रीणा॑मि | क्रीणीव॑ः | क्रीणीम॑ः | अ॑क्रीणाम् | अ॑क्रीणीव | अ॑क्रीणीम |

| लोँट् | | | लिँङ् | | |
|---|---|---|---|---|---|
| क्रीणा॑तु | क्रीणीता॑म् | क्रीण॑न्तु | क्रीणीया॑त् | क्रीणीया॑ताम् | क्रीणीयु॑ः |
| क्रीणीहि॑ | क्रीणीत॑म् | क्रीणी॑त | क्रीणीया॑ः | क्रीणीया॑तम् | क्रीणीया॑त |
| क्रीणा॑नि | क्रीणा॑व | क्रीणा॑म | क्रीणीया॑म् | क्रीणीया॑व | क्रीणीया॑म |

क्री – आत्मनेपदानि

| लँट् | | | लँङ् | | |
|---|---|---|---|---|---|
| क्रीणीते॑ | क्रीणा॑ते | क्रीण॑ते | अ॑क्रीणीत | अ॑क्रीणाताम् | अ॑क्रीणत |
| क्रीणीषे॑ | क्रीणा॑थे | क्रीणीध्वे॑ | अ॑क्रीणीथाः | अ॑क्रीणाथाम् | अ॑क्रीणीध्वम् |
| क्रीणे॑ | क्रीणीव॑हे | क्रीणीम॑हे | अ॑क्रीणि | अ॑क्रीणीवहि | अ॑क्रीणीमहि |

| लोँट् | | | लिँङ् | | |
|---|---|---|---|---|---|
| क्रीणीता॑म् | क्रीणा॑ताम् | क्रीण॑ताम् | क्रीणी॑त | क्रीणीया॑ताम् | क्रीणीर॑न् |
| क्रीणीष्व॑ | क्रीणा॑थाम् | क्रीणीध्व॑म् | क्रीणी॑थाः | क्रीणीया॑थाम् | क्रीणीध्व॑म् |
| क्रीणै॑ | क्रीणा॑वहै | क्रीणा॑महै | क्रीणी॑य | क्रीणीव॑हि | क्रीणीम॑हि |

## Афіксы sat

Афіксы *Śatṛ̊* і *ŚānaC* – сāрвадгāтукі і не-*Pit*-пазначаныя, таму лічацца *Ṅit*-пазначанымі. Перад імі канцавы *āT* вікараṇы зьнікае:
*krī*+*Śnā*+*Śatṛ̊* → *krīṇ-át* – які купляе
*krī*+*Śnā*+*ŚānaC* → *krīṇ-āná* – які купляе для сябе

Пасьля ўдāтта-канцавой *Śatṛ̊*-канцавой асновы *aC*-пачатковыя вібакті-афіксы і афікс жаночага роду *ṄīP*, да якіх не дадаецца āгама *nu̲M*, маюць быць націскнымі:
*krīṇát*+*au* → *krīṇánt-au*
**але:** *krīṇát*+*Ṭā* → *krīṇat-ā́*
*krīṇát*+*ṄīP* → *krīṇatī́*

## 4. matůP-канцавыя асновы

*matůP*-канцавыя асновы ўтвараюць такія самыя формы, як і *Śatṛ̊*-канцавыя асновы, за выняткам формы *prathamā ekavacanam* (*agnimā́n*, *vṛkṣavā́n*).

*matůP*-канцавая аснова мужчынскага роду *vṛkṣavát*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | वृक्षवा॑न् | वृक्षव॑न्तौ | वृक्षव॑न्तः |
| २ | वृक्षव॑न्तम् | वृक्षव॑न्तौ | वृक्षव॑तः |
| ३ | वृक्षव॑ता | वृक्षव॑द्भ्याम् | वृक्षव॑द्भिः |
| ४ | वृक्षव॑ते | वृक्षव॑द्भ्याम् | वृक्षव॑द्भ्यः |

| | | | |
|---|---|---|---|
| ५ | वृक्षवंतः | वृक्षवंद्ध्याम् | वृक्षवंद्ध्यः |
| ६ | वृक्षवंतः | वृक्षवंतोः | वृक्षवंताम् |
| ७ | वृक्षवंति | वृक्षवंतोः | वृक्षवंत्सु |
| आ॰ | हे वृंक्षवन् | हे वृक्षवंन्तौ | हे वृक्षवंन्तः |

*matŭ̆P*-канцавая аснова ніякага роду *vṛkṣavát*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | वृक्षवंत् | वृक्षवंती | वृक्षवंन्ति |
| २ | वृक्षवंत् | वृक्षवंती | वृक्षवंन्ति |
| | *рэшта як у мужчынскім родзе* | | |
| आ॰ | हे वृंक्षवत् | हे वृंक्षवती | हे वृंक्षवन्ति |

У сэнсе жаночага роду пасьля *matŭ̆P*-канцавых асноў дадаецца афікс *ṄīP*:
*agnimát*+*ṄīP* → *agnimátī* – агнявітая

## In-канцавыя асновы

У сэнсе жаночага роду пасьля *in*-канцавых асноў дадаецца афікс *ṄīP*:
*dhanin*+*ṄīP* → *dhanínī* – багатая
*manasvín*+*ṄīP* → *manasvínī* – разумная

*ini̱*-канцавая аснова мужчынскага роду *dhanín*

| | एक॰ | द्वि॰ | बहु॰ |
|---|---|---|---|
| १ | धनीं | धनिंनौ | धनिंनः |
| २ | धनिंनम् | धनिंनौ | धनिंनः |
| ३ | धनिंना | धनिंभ्याम् | धनिंभिः |
| ४ | धनिंने | धनिंभ्याम् | धनिंभ्यः |

| | | | |
|---|---|---|---|
| ५ | धनिंनः | धनिंभ्याम् | धनिंभ्यः |
| ६ | धनिंनः | धनिंनोः | धनिंनाम् |
| ७ | धनिंनि | धनिंनोः | धनिंषु |
| आ° | हे धंनिन् | हे धंनिनौ | हे धंनिनः |

*ini*-канцавая аснова ніякага роду *dhanín*

| | एक° | द्वि° | बहु° |
|---|---|---|---|
| १ | धनिं | धनिंनी | धनींनि |
| २ | धनिं | धनिंनी | धनींनि |
| | *рэшта як у мужчынскім родзе* | | |
| आ° | हे धंनि | हे धंनिनो | हे धंनीनि |

## Слоўнік

क्री । डुक्रीञ् । क्र्या° उ° अनिट् । क्रीणाति क्रिणीते । купляць । णिच् – क्रापिं । सन् – चिंक्रीष । यङ् – चेक्रीयं । विं । आ° । прадаваць ॥

ज्ञा । ज्ञा । क्र्या° उ° अनिट् । जानाति जानीते । знаць । यक् – ज्ञायंते । णिच् – ज्ञापिं । सन् – जिंज्ञास (आ°) ॥

धंन । न° । грошы, багацьце ॥

नंगर । न° । горад ॥

प्राणं । पुं° । дыханьне ॥

प्राणिंन् । पुं° । дыхавіты, жывая істота ॥

बंल । न° । сіла ॥

बुंद्धि । स्त्री° । розум ॥

सत्यं । न° । ісьціна ॥

स्वादुं । त्रि° । салодкі ॥

## Практыкаваньне 1

धनी॑ र॑सवन्ति फ॑लानि क्रीणीते ।१।
अ॑श्वो न॑राच्छीघ्र॑तरः ।२।
व॑नेषु फ॑लवन्तो वृक्षा॑ एधन्ते ।३।
ध॑नानि लब्ध्वा॑ स्वाद॑तुमानि फ॑लानि क्रीणीहि ।४।
न॑रेषु राजा॑ ध॑नवत्तमः ।५।
बु॑द्धिमान्नृपो॑ ब॑लवतो द्वि॑षोऽजयत् ।६।
ह्यो॑ ग्रामी॑ धे॑नुतमामक्रीणात् ।७।
आत्म॑वान्गुरु॑ः सत्य॑ं जानातितमा॑म् ।८।
प्राणि॑षु न॑रो बु॑द्धिमत्तमः ।९।

## Практыкаваньне 2

1. Мёд смачнейшы за сок, а сок смачнейшы за ваду.
2. Хай слуга прадасьць ежу й атрымае грошы.
3. На зямлі бывуць вельмі многія жывыя істоты.
4. Слова праўдзівага чалавека наймацнейшае.
5. Найпрыгажэйшая жанчына жыве ў вёсцы каля ракі.
6. Дзьве дзяўчыны зьбіралі ў лесе найсакавітыя плады дрэваў.
7. Чалавек разумнейшы, але не мацнейшы за каня.
8. Бацькі найлепш ведаюць сваіх дзяцей.
9. Багаты сын князя купіў сабе ў горадзе найлепшага каня.

## Заданьне

1. Вывучыць новыя ўтварэньні афіксамі *taddhita*.
2. Вывучыць новыя ўзоры спражэньня і скланеньня.
3. Вывучыць новыя словы.
4. Зрабіць практыкаваньні на пераклад, ужываючы правілы сандгі.

॥ ॐ श्रीगुरुभ्यो नमः ॥

